Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Установа адукацыі
“Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.А. Куляшова”

В.І. Еўмянькоў

# Літаратурнае рэдагаванне, кнігавыданне, журналістыка на тэрыторыі Рэчы Паспалітай у XVII ст.

Вучэбна-метадычныя матэрыялы
Ч.2.




Магілёў 2013

УДК 655.5 (075.8)
ББК 76.1 (4 Беи)

**Рэцэнзенты:**

Начальнік кафедры сацыяльна-гуманітарных дысцыплін УА “Магілёўскі вышэйшы каледж МУС Рэспублікі Беларусь”, кандыдат філалагічных навук, дацэнт **С.І. Даніленка**.

Дацэнт кафедры беларускай літаратуры УА “Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.А. Куляшова”, кандыдат філалагічных навук, дацэнт **М.І. Чмарава.**

Прапанаваныя вучэбна-метадычныя матэрыялы па курсе “Літаратурнае рэдагаванне” прызначаны для студэнтаў спецыяльнасці “Журналістыка”. Работа мае на мэце ўвесці ў навуковы ўжытак, а таксама ў вучэбны працэс звесткі па гісторыі рэдагавання, і кнігавыдання на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, пазнаёміць са спецыфікай падрыхтоўкі рукапісаў у перыяд позняга Рэнесансу і Барока. Вучэбна-метадычныя матэрыялы складаюцца з тэкстаў лекцый, шырока цытуюцца дакументы XVII ст.

# ЗМЕСТ

# Тлумачальная запіска

Гэта выданне – чарговая спроба асэнсаваць самы трагічны і супярэчлівы перыяд у гісторыі кніжнай культуры Беларусі: XVII ст. Сучаснікі – тыя, хто перажыў крывавы патоп, казацкія паўстанні, назвалі гэта стагоддзе "праклятым". Нашчадкі ж прыдумалі для яго іншую, не менш гаваркую назву – "нямое", бо амаль не нарадзіла яно значных, класічных славянамоўных мастацкіх твораў. Калі і паўставалі новыя Кахаоўскія ці Скарыны – не паспявалі пакінуць пасля сябе значны след. "Гэтак раптоўна, гэтак жорстка растаптаў вораг нашу нешчаслівую Айчыну. А мы без войска, без правадыроў, без Караля засталіся", – з нечуванай раней роспаччу пісаў у 1648 г. брацлаўскі ваявода Адам Кісель". 9 жніўня 1648 г. падольскі суддзя Лукаш Мяскоўскі, звяртаючыся да сойму Рэчы Паспалітай, дадаваў: "Просім пра выратаванне жыцця. Бо ў тым становішчы, у якім мы апынуліся, апроч жыцця, ратаваць нам няма чаго".

Войны забралі ледзь не палову насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Беларускія гарады і мястэчкі ляжалі ў руінах. У полымі вайны гарэлі каштоўныя манускрыпты і старадрукі. Перарываліся шматгадовыя традыцыі рукапіснай "рускай" кнігі. Адзін за другім у сярэдзіне стагоддзя зачыняюцца друкарскія двары – Любча, Куцейна... Пасля патопу беларускія аўтары ўсё часцей пераходзяць на лацінскую і польскую мовы. А ў канцы XVII ст. Вялікае Княства Літоўскае трапляе ў пастку зацятай грамадзянскай вайны і страчвае, фактычна, палітычную і культурную самастойнасць. Менавіта з гэтага моманту наша Айчына становіцца правінцыяй Польшчы, а колішнія ганарлівыя літвіны, па словах Генрыка Жавускага, "ужо і згадваць саромеюцца пра тое, што іх продкі карысталіся мовай рускай, чыталі рускія (у рэаліях пачатку XVII ст. – беларускія) кнігі".

Здавалася б, гэтаму апакаліптычнаму малюнку нашай мінуўшчыны няма слушнай альтэрнатывы. XVII ст. трэба як мага хутчэй прамінуць, каб перайсці да больш яскравых і менш трагічных перыядаў нашай гісторыі. Працуючы над першай часткай "Літаратурнага рэдагавання"[1], мы якраз і прытрымліваліся гэтай думкі – мяркуючы пераскочыць "езуіцкі перыяд" і патрапіць наўпрост з позняга Рэнесансу ў Асветніцтва. Не атрымалася… І перадусім таму, што пры наблюіжэнні да XVII ст. выявіліся факты, якія цалкам перакрэслілі міф пра быццам бы "нямое" стагоддзе. На самой справе кніжны набытак гэтага перыяду ці не багацейшы за набытак усіх папярэдніх эпох – у тым ліку і "залатога" для славянскіх культур XVI стагоддзя. І гэта нягледзячы на войны, рэлігійную неталерантнасць, "цэнзуру біскупаў" і іншыя аб'ектыўна існаваўшыя ў той "пракляты" перыяд негатыўныя фактары.

На наш погляд, праблема XVII ст. – у тым, што яно раскідала свае кнігі дужа далёка ад сучаснай Беларусі: Масква, Пецярбург, Кракаў, Вільня, Львоў,

[1] Еўмяньkoў, В.І. Літаратурнае рэдагаванне і кнігавыданне на тэрыторыі Беларусі (XI – першая палова XVII стст.): вучэб.-метад. мат-лы. У 3 ч. Ч.1. / В.І. Еўмяньkoў. – Магілёў: УА "МДУ імя А.А. Куляшова", 2012. – 156 с.

Кіеў... Не кажучы ўжо пра Оксфард і Кембрыдж. Выправіцца ў “кніжную пілігрымку” сёння можа дазволіць сабе далёка не кожны навуковец. Жадаем мы таго ці не, але часта даводзіцца абапірацца на досвед іншых – тых нашых калег, якім пашчасціла не толькі чытаць пра ўнікальныя выданні, але і “трымаць іх у руках”. Каштоўнымі даследаваннямі ў галіне кніжнай культуры Беларусі адзначыліся многія навукоўцы як XIX, так і XX ст. У гэтай працы мы абапіраліся на той матэрыял, які назапасілі М.Батвіннік, А.Бразгуноў, Н.Бярозкіна, Г.Галенчанка, М.Гарэцкі, М.Доўнар-Запольскі, А.Ельскі, С.Кавалёў, Я.Карскі, М.Каяловіч, А.Кіркор, У.Конан, А.Латышонак, В.Ластоўскі, А.Мальдзіс, М.Нікалаеў, А.Пяткевіч, У.Сыракомля, І.Саверчанка, В.Чамярыцкі і інш.

Пераважная большасць айчынных навукоўцаў даследуюць або гісторыю літаратуры, або гісторыю кнігі. Спецыфіка рэдагавання манускрыптаў, “кніг бітых” (старадрукаў) амаль не даследуецца. Калі пэўныя звесткі і прадстаўлены, то фрагментарна і безсістэмна. Між тым, менавіта ў XVII ст. рэдагаванне вылучаецца ў асобную прафесію, становіцца настолькі важным, што і віленскія братчыкі, і віленскія езуіты, базыльяне аб’яўляюць сапраўднае паляванне на “мужэй вучоных”, перацягваючы іх на свой бок шчодрымі ўзнагародамі (вядомы, напрыклад, выпадак, калі рэдактар за паслугі атрымаў ад Кіеўскага ваяводы К.Астрожскага вёску).

Важна і тое, што ў XVII ст. па тэрыторыі Рэчы Паспалітай актыўна распаўсюджваюцца “Навіны”, “Авізы” і іншыя сродкі масавай інфармацыі, якія старанна рэдагуюцца і падвяргаюцца шматузроўневай цэнзуры. Вывучэнне гэтага аспекта выдавецкай справы вымагае асобнага грунтоўнага даследавання. У дадзеных вучэбных матэрыялах адлюстраваныя толькі некаторыя, з нашага пункту погляду, больш яркія, здольныя зацікавіць студэнцкую моладзь моманты.

Айчынныя даследаванні істотна дапоўняліся польскімі навуковымі выданнямі. Карысная інфармацыя па арганізацыі працы друкарскіх двароў Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага адшукана ў манаграфіях Е.С. Бандке [19, 20] і І.Лялевеля [34]. Звесткі пра арэал распаўсюджвання кніг і спецыфіку іх захоўвання ў XVII ст. пачэрпнуты ў працах Е.С. Бандке [18], Ю. Ярашэвіча [30], Ф.Бенткоўскага [28, 51]. Інфармацыя пра спецыфіку рэдактарскай працы ў XVII ст. змяшчаецца ў такіх фундаментальных даследаваннях, як “Гісторыя Літаратуры польскай” М.Вішнеўскага [67 – 70] і “Гісторыя літаратуры польскай” К.Вуйціцкага [71].

Унікальная, без перабольшвання, інфармацыя пра своеасаблівыя СМІ перыяду панавання дынастыі Вазаў (“Навінкі”, “Легацыі”, “Авізы”, “Рэляцыі”) змешчаны ў 4-м томе “Бібліятэкі Варшаўскай” за 1869 г. [24] і ў шматтомнай працы Л.Кандратовіча [31]. У перакладзе на беларускую мову ў гэтым выданні надрукаваныя поўнатэкставыя “Навіны з Інфлянтаў” аб “перамозе Я.К. Хадкевіча пад Кірхгольмам” 1605 г.(рэдактар – П.Скарга). Гэты тэкст (як і іншыя – напрыклад, “Навіны праўдзівыя”) былі знойдзены і перадрукаваны ў 1843 г. Казімірам Вуйціцкім [49,50]. Сапраўднай скарбонкай для кожнага бібліяфіла варта лічыць працытаваныя тут выданні В.Мацiёўскага [38], Л.Лукашэвіча [37] і Ю.Міхалоўскага [39].

У апошнім са згаданых выданняў знаходзяцца поўнатэкставыя дыярыўшы соймаў і пасольстваў Рэчы Паспалітай у Турцыю, да Б.Хмяльніцкага, маскоўскага цара і інш. Каштоўнасць маюць поўнатэкставыя рэляцыі, навіны і “Авізы” за перыяд з 1648 па 1655 і 1673 гг. Сярод іх ёсць “Навіны з-пад Слуцка”, некалькі навінаў з-пад Воршы і Смаленска. Некаторыя з гэтых тэкстаў мы пераклалі на беларускую мову і змясцілі ў гэтым выданні.

Надзвычай важнымі для ўзнаўлення малюнка шляхецкай кніжнай культуры XVII ст. з’яўляюцца наступныя выданні: “Hippika to jest Księga o koniach” К.Дарагастайскага, “Herby rycerstwa Polskiego” Б.Папроцкага, “Korona Polska, przy złotéj wolności” К.Нясецкага, “Pamiętniki Albrychta Stanisława X. Radziwiłła Kanclera W. Litewskiego”, “Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody Mińskiego” і інш. Некаторыя з іх аналізуюцца ў дадзеным выданні (таксама мы размесцілі некалькі ілюстрацый з гэтых кніг). Вялікую цікавасць для гісторыкаў, моваведаў можа мець другое выданне зборніка прыказак і прымавак С.Рысінскага “Przypowiesci polskie, przez Salomona Rysińskiego zebráne (Nakłádem Jákubá Wirowskiego, bibliopole Lubelskiego, 1629)”. Аналізуючы гэта выданне, мы параўналі яго з езуіцкім аналагам сярэдзіны XVII ст.

Разгледжана таксама кніжная палеміка першай чвэрці XVII ст. паміж віленскім праваслаўным брацтвам і ўніятамі, каталікамі. Прааналізаваны выданні Віленскай езуіцкай акадэміі і інш. Жадаючы данесці да студэнтаў, а магчыма, і калег-выкладчыкаў не толькі тэкставую, але і візуальную інфармацыю, мы размесцілі ілюстрацыі дрэварытаў і медзярытаў, фарзацы з выданняў XVII ст. Дзеля таго, каб судакрананне з кніжнай культурай папярэдніх эпох было як мага больш поўным, пададзены прыклады цэнзарскіх пазнак перыяду XIX ст. Змешчаны таксама “экслібрысы”, якія мы знайшлі ў тых кнігах, з якімі працавалі ў працэсе падрыхтоўкі гэтага выдання.

## §1. Умовы развіцця кніжнай культуры ў першай палове XVII ст.

1.1. Тэндэнцыі папярэдніх эпох;
1.2. Пачатак XVII ст.: росквіт. Цэнзура;
1.3. “Herby Rycerstwa Polskiego”.

**Тэндэнцыі папярэдніх эпох.** Гістарычна так склалася, што большая частка друкароў і выдаўцоў Рэчы Паспалітай не былі мясцовымі жыхарамі. Адбывалася пастаянная міграцыя спецыялістаў з Усходняй Еўропы на Захад і, наадварот, з Захаду на Усход. І гэта была своеасаблівая традыцыя, бо ўжо ў канцы XV ст. частыя пераезды друкароў з месца на месца лічыліся нормай – такім чынам адбываўся абмен вопытам. У 1478 г. нехта Ян Адам з Польшчы працаваў у неапальскай друкарні, а Станіслаў Паляк у 1490 – быў друкаром у Іспаніі (Севілія) [20, с.2]. Пэўны жыхар Рэчы Паспалітай, прыняўшы іслам і змяніўшы імя на Ібрагім Эфендзі, заснаваў у Стамбуле турэцкую друкарню, выдаўшы ў першай чвэрці XVIII ст. “Граматыку турэцкую” і “Гісторыю Атаманскай дзяржавы” [20, с.2].

Паводле І.Лялевеля, яшчэ ў 1465 г. немец Гінтэр Зайнер (Ginter Zainer) прывёз друкарскі варштат у Кракаў [34, с.167]. Першы ж сталы друкар на тэрыторыі будучай Рэчы Паспалітай – немец Швайпольт Фіоль. У 1491 г. ён друкуе кірылічныя кнігі. Першым жа, хто пачаў прадаваць кнігі, адкрыўшы кнігарню (1494 г.), быў таксама еўрапеец – Ян Галлер (Jan Haller). Часта па замове караля ці проста мясцовых багацееў кнігі, прызначаныя для Польшчы і Літвы, рыхтавалі да друку за мяжой (Лейпцыг, Венецыя, Амстэрдам і іншыя гарады). У Еўропе, як можна меркаваць, ужо на мяжы XVI – XVII ст. існавалі “вучоныя друкары”, якія не толькі маглі падабраць шрыфты, аздобіць выданне прыгожымі дрэварытамі, але і пісьменна адрэдагаваць кнігу, зважаючы на чытацкі попыт, палітычную, рэлігійную сітуацыю ў краіне распаўсюджвання кніг.

У 1503 г. з’яўляюцца кракаўскія выданні, дзе побач указваюцца выдавец і друкар-рэдактар. Напрыклад, выданне “Лістоў Плінія” (“Epistolam Plinii. ad Titum Vesp.”) утрымлівае звесткі пра выдаўца Галлера і друкара Гохфэдэра (Hochfeder). У выходных дадзеных пазначалася: “Накладам зацнага мужа Яна Галлера з Ратэнбурга, грамадзяніна Кракава, майстэрствам вучонага мужа Каспара Гохфэдэра” [20, с.6]. Заўважым, што Ян Галлер быў адначасова гандляром і віна, і кніг. Да таго ж, меў папяровую фабрыку і нейкім чынам мог уплываць на магістрат, бо дабіўся манаполіі на распаўсюджанне ў Кракаве календароў [34, с.76]. Хутчэй за ўсё, лічыць І.Лялевель, Ян Галлер шукаў дапамогі ў іншых друкарнях (часцей, у Нямеччыне), наймаў спецыялістаў – у тым ліку, і рэдактараў.




**Мал. 1.** Тытул кнігі: “Малітва штодзённая да Святой Троіцы, супраць ворагаў Касцёла святога”, 1532. Кракаў (Анджэй Тржыцескі / Andrzej Trzycieski)

Такімі спецыялістамі былі Марк і Мацей Шарфэнбергі (Szarfenbergi), а таксама кампаньён Галлера Фларыян Унглер (Ungler). Галлер і Унглер, будучы перадусім бізнесменамі, выдавалі тыя кнігі, якія маглі прадаць на тэрыторыі Каралеўства і Княства – літургічныя, філасофскія выданні, календары. Перадрукоўвалі творы антычных аўтараў – Гарацыя, Авідзія, Цыцэрона. Друкавалі гатычным, строгім прамым шрыфтам, выключна на лаціне. Курсіў, аздобленыя раслінным арнаментам заглаўныя літары з’явіліся толькі ў 1520-я гг. дзякуючы намаганням старэйшых Шарфэнбергаў.

Заўважым, што падрыхтоўку кнігі, якая з прычыны дарагавізны выдаткаў была рэччу надзвычай каштоўнай, маглі даверыць толькі праверанаму і надзейнаму чалавеку. Аднак менавіта дарагавізна першых кніг[2] спрычынілася да таго, што іх пачалі перапісваць ад рукі, часам скарачаючы ці дадаючы штосьці сваё. Так з’яўляліся розныя рэдакцыі аднаго і таго ж тэксту. І.Лялевель звяртае ўвагу таксама на тое, што першыя кракаўскія друкаваныя выданні не былі дасканалымі – невыразны друк, шматлікія памылкі, а таму па замове багатых людзей кнігі “бітыя” часта перапісваліся ад рукі і пэўным чынам удасканальваліся.

На тэрыторыі Рэчы Паспалітай існавалі цэлыя карпарацыі друкароў, якія старанна ахоўвалі “рэцэпты прыгатавання” кніг. Часцей за ўсё майстэрства выдаўца і рэдактара перадавалася ад бацькі да сына, ад мужа да жонкі. Вядомыя дынастыі друкароў Шарфэнбергаў (дзейнічалі ў Кракаве амаль цэлае стагоддзе – з 1511 па 1621 гг.), Петрковчыкаў (1570 – 1673 гг.) і інш. Яны рыхтавалі і выдавалі календары, царкоўныя кнігі,

[2] Ф.Бенткоўскі [51] са спасылкай на Яна Длугаша прыводзіць наступныя кошты на манускрыпты: у 1400 г. кляштар Св.Міхаіла набыў 9 рукапісаў з каментарамі да папскіх дэкрэтаў за 115 нямецкіх залатых; 1 рукапіс папскага дэкрэта ў 1427 г. каштаваў 43 нямецкіх залатых манеты. Пры гэтым 1 морг зямлі каштаваў 40 залатых. Былі выпадкі, калі кошт рукапіснай кнігі быў роўны кошту сярэдняй вёскі. У канцы XV ст. нямецкая Біблія, для прыкладу, каштавала без малога 400 талераў.

падручнікі і іншыя кнігі, якія дзякуючы купцам, студэнтам і святарам распаўсюджваліся па Літве і Русі.

У выдавецкіх карпарацыях рыхтаваліся кадры для прыватных друкарняў на Літве, як, напрыклад, гэта было з друкарняй Мікалая Радзівіла Чорнага. Пры гэтым трэба ўлічваць тое, што прыватныя друкарні мусілі не толькі арыентавацца на выданні, якія траплялі ў Княства з-за мяжы (Гданьск, Крулевец, Кракаў і інш), але і вытрымліваць з імі канкурэнцыю. Таму асаблівы попыт быў на “мужэй вучоных” – ведаючых мовы (лацінскую, грэчаскую, старапольскую, старабеларускую, “славенскую” / царкоўнаславянскую), здольных не толькі падрыхтаваць тэкст да друку, але і пракаменціраваць яго, напісаць навуковыя прадмовы і пасляслоўі[3]. Аднак толькі “вучонасці” для тагачаснага рэдактара было, відавочна, мала.

Праблема заключалася ў тым, што арфаграфія, граматыка славянскіх моў (старапольская, старабеларуская) не былі ўнармаваныя. Дзеля таго, каб уніфікаваць правапіс і, па вялікаму рахунку, зрабіць выданні максімальна чытэльнымі на абшарах усяго Каралеўства і Княства спатрэбілася праца многіх навукоўцаў. Аднак і гэтага было недастаткова. Рэдактарам і выдаўцам трэба было дамовіцца пра адзіны ўзор правапісу, што без карпарацыйнай салідарнасці зрабіць было цяжка. Польскамоўныя выданні пачынаюць стала выходзіць у Кракаве толькі з 1520-х гг. (Заўважым тое, што першыя беларускія выданні дзякуючы Ф.Скарыне паўсталі ў 1517 г.). Да гэтага часу выдаўцы не рызыкавалі “звязвацца” з польскай мовай па дзвюх прычынах: па-першае, рэлігійная цэнзура не вітала польскамоўныя кнігі – бачыла ў іх пагрозу[4], па-другое, не было аўтарытэтнага ўзору тагачаснай літаратурнай мовы.




**Мал. 2.** Эмблема ордэна езуітаў. Фрагмент афармлення тытула кнігі “Езуіты ў Польшчы”, 1855 г.

Заслуга выдавецтваў у прыцягненні да друку жывой славянскай мовы – бясспрэчна вялікая. Так, напрыклад, арфаграфія польскай мовы

[3]Такім энцыклапедычна адукаваным чалавекам быў рэктар Кракаўскай акадэміі Ян Броцкі (Jan Brocki). Пра яго сучаснікі паведамлялі: “У мовах абазнаны, грэчаскую і лацінскую мовы ведае выдатна, у іншых занятках дасканалы – тэолаг, філосаф, матэматык, лекар, старажытнік, паэт [22, с.32]. Я.Броцкі падрыхтаваў да выдання наступныя кнігі: “Арыфметыка Integrorum” (1620 г.) і “Геаметрыя”. Гэтыя падручнікі (выдадзеныя ў Італіі) былі асноўнымі для студэнтаў Рэчы Паспалітай цягам усяго XVII ст.

[4] І.Ляляевель адносна гэтага паведамляе: “Галлер, які выгандлёўваў сабе ад біскупаў прывілеі, не звязваўся з мовай народнай, але калегі яго, якія не мелі падстаў для такога дастанцыравання, паспрабавалі друкаваць па-польску і сутыкнуліся з перашкодамі, часам вельмі значнымі. Усё з-за таго, што пры новай рылігійнай сітуацыі, створанай Лютэрам, духавенства, а менавіта біскупы, дужа пільна прыглядаліся да ўсёго, што па-польску выходзіла” [34, 115].

зрабілася больш-менш стабільнай дзякуючы намаганням Шарфэнбергаў – братоў Мікалая і Станіслава (сыны Мацея Шарфэнберга, другая палова XVI ст.). Дапамагаў ім друкар і кніжнік нехта Ян Янушкоўскі. Без агульнапрынятай арфаграфіі польскай мовы цяжка было б уявіць сабе выданне Брэсцкай Бібліі, твораў М.Сматрыцкага і інш. Заўважым, што ўжо з 1520-х гг. на польскую мову актыўна перакладаюцца рэлігійныя і свецкія тэксты. Адбывалася гэта таксама па замове выдаўцоў. Тое ж датычыцца і царкоўнаславянскай мовы, першыя граматыкі якой з’явіліся менавіта ў асяроддзі віленскіх праваслаўных кніжнікаў і выдаўцоў-рэдактараў (М.Сматрыцкі, Л.Зізаній, Л.Карповіч і інш.).

**Пачатак XVII ст.: росквіт. Цэнзура.** Попыт на кнігі ў пачатку панавання Жыгімонта ІІІ значна павялічваецца. Гэта звязана з распаўсюджваннем адукацыі і навукі (з’явілася, напрыклад, Віленская, Познаньская езуіцкія акадэміі). У Кракаве ў 1610 г. С.Бандке налічыў 10 друкарняў, у Вільні – 4: езуіцкая, Мамонічаў, Карцанаў, Кміты (з 1611 г.); з 1611 г. працавала друкарня “руская” ў Еўі – Гаўрыіла Іаанавіча. Праўда, тут трэба адзначыць тое, што разам з павелічэннем колькасці друкарняў узрастае і моц цэнзуры.

У 1603 г. з’яўляюцца першыя ў Рэчы Паспалітай кодэксы забароненых кніг, канфіскоўваюцца і знішчаюцца цэлыя наклады, спальваюцца бібліятэкі[5]. У 1617 г. з’яўляецца другі па ліку кодэкс забароненых кніг, у які былі ўключаныя выданні так званых дысідэнтаў (пратэстантаў). Біскупы патрабавалі знішчэння, напрыклад, кніг М.Рэя, С.Буднага, накладаў Брэсцкай Бібліі і інш.

Выдаўцы і рэдактары мусілі быць асабліва пільнымі і ўважлівымі, бо забарона распаўсюджвання пэўнай кнігі азначала амаль непазбежнае банкрутства друкара і яго афіцыны. Вядомы, напрыклад, наступны факт: у 1547 г. Барбара Ветар (Vjetorowa) і Хэлена Унглер (Unglerowa) былі выкліканыя ў кракаўскі гарадскі суд, і той загадаў ім ні пры якіх умовах не друкаваць зноў тыя кнігі, якія ў Хелены Унглер ужо выйшлі. “Забараніў пад пагрозаю 50 чырвоных злотых штрафу” [34, с.116]. І гэта быў той нярэдкі выпадак, калі суд гарадскі сваім

[5] З канца XVI ст. езуіты імкнуцца кантраляваць інтэлектуальнае жыццё Княства і Каралеўства. Дзеля гэтага ўзмацняюць цэнзуру, якая пры Жыгімонце ІІІ цалкам пераходзіць у іх рукі. Звычайна, на тытулах аркушаў кніг езуіты загадвалі друкаваць фразу: “Superiorum permissu” / “З дазволу старэйшых”. У 1617 г. езуіты значна пашыраюць т.зв. кодэкс забароненых кніг, які ў 1603 г. складае Ежы Замойскі. Уключаліся выданні ў “Кодэкс” часта без усялякіх падстаў. Напрыклад, траўнікі XVI ст. лічылі ерэтычнымі толькі таму, што выходзілі яны ў тых самых друкарнях, што і некаторыя пратэстанцкія кнігі. Небяспечныя, з пункту погляду езуітаў, выданні, кат публічна спальваў на рынкавай плошчы ў Вільні. Вычышчаліся і бібліятэкі.

Па словах І.Лялевеля, знішчаліся кнігі, якія здаваліся езуітам непатрэбнымі, надта старымі, не вартымі захоўвання. Многія выданні, якія былі ў бібліятэцы акадэміі, “<…> скалечаныя неміласэрнымі цэнзарамі – ёсць выразаныя старонкі, выдраныя цэлыя главы і раздзелы” [34, с.107]. У Княстве найбольш адыёзнай у гэтым сэнсе постаццю быў кардынал Ежы Радзівіл (Jerzy Radziwiłł), які асабліва стараўся чысціць бібліятэкі, знаходзіў падазроныя кнігі і рукапісы, каб потым іх “пераўтварыць у попел” [34, с.108].

рашэннем адмяніў дэкрэт караля, які ў 1539 г. “дазволіў друкаваць усё, што пажадаюць выдаўцы”[6].

У 1547 годзе кракаўскі біскуп Самуэль Мацiёўскi (Samuel Maciejowski) упершыню настойліва парэкамендаваў гаспадарам друкарскіх двароў узгадняць з ім або з яго даверанымі асобамі рэпертуар новых выданняў. Так была **ўзаконена духоўная цэнзура як у Каралеўстве, так і ў Княстве:** “<…> друкарні, якія не праходзілі праз цэнзуру, лічыліся ерэтычнымі[7]. І адзіны спосаб знайсці абарону ад усебачных біскупаў – пайсці пад уладу магната, на землях якога можна было адносна спакойна працаваць” [34, с.116].


Lepsze to nam staránie skarb tá-
ki gotowáć / Ktorego Mol áni Rdzá
niemoże zepsowáć / Niż swiátá o-
błudnego spráwámi sye báwić / Kto-
ry Dobrá wiecznego może nas po-
zbawić.
Sprawujże Ty nas ktemu o Nie-
bieski Pánie / Bo prożno wszytko ná-
sze było w stáránie / Byś nas kte-
mu nie ciągnął z swey bozkiey mi-
łości / A inßych Sam nie podpierał
Reka twey Możności.
Nic iście nienotpiemy że Twe o-
bietnice / Wypełnią sye káżdemu z
nas sług Twoych obficie / Ktore rá-
czysz uczynić / gdy k Tobie wołamy /
W prawey wierze z wszytko pew-
nie otrzymamy.
Każdy tedy z rádością iáko ná kto
służe / Chwal dobrodziwość Bożą
ze wszytkiey swey Dusze / Iż On oso-
bne dziwy známi czynić raczy / A
swoych nędznych robaczkow nigdy nie
przebaczy. Zásprez

**Мал. 3.** Старонка кракаўскага выдання 1556 г. “Песні Соф’і Алясніцкай. Песня новая, у якой змешчана падзяка Пану Богу Усемагутнаму…”

Пасля 1547 г, здавалася б, праблема “ерэтычных кніг” у вялікіх гарадах мусіла быць вырашанай, аднак друкары не спяшаліся падпарадкоўвацца рэкамедацыям Самуэля Мацiёўскага. Асаблівы непакой у касцёльнай цэнзуры выклікала ўдава Унглера, якая настойліва друкавала кнігі на польскай мове. Так, адразу ж пасля ўвядзення духоўнай цэнзуры яна друкуе кнігу пад назваю “O ziołach tutecznych” / “Пра мясцовыя лекавыя травы” Спечыньскага з дадаткам Андрэя з Кабыліна “O krwi puszczaniu” / “Аб пусканні крыві”. Выданне гэтага збору лекавых зёлак мела на мэце распаўсюджванне матэрыялістычных

[6] Адзін з выдаўцоў у Каралеўстве (спачатку Галлер, а потым Унглер) атрымаў манаполію на выданне і продаж календароў. Іншыя “афіцыны” падалі на гэтае рашэнне кракаўскага магістрату ў суд. Пачалася звычайная ў такіх выпадках валтузня, якую і спыніў кароль сваім дэкрэтам ад 1539 г. “Ogłosił wolność drukowania co się komu podoba”. Каралеўскі дазвол – які ў істоце сваёй быў дэмакратычным і прагрэсіўным – распачаў вайну перадрукаў. Так, падрыхтаваныя Унглерам календары, пераклады на польскую мову антычных аўтараў выходзілі ў іншых афіцынах (асабліва вызначыліся Шарфэнбергі). Парушаліся і аўтарскія правы, і маёмасныя. Завершылася ўсё судовым працэсам, які справакаваў увядзенне т.зв. “цэнзуры біскупаў”.

ведаў, што, безумоўна, падтрымлівала нібыта "ерэтычныя" ідэі рацыяналізму і гуманізму еўрапейскага Рэнесансу. Аднак у біскупаў гэта кніга выклікала апасенні па іншай прычыне.

Збор лекавых траў, падрыхтаваны ў кракаўскай афіцыне Хелены Унглер, быў нічым іншым як польскай рэдакцыяй аналагічнага нямецкага выдання. Кніга з радзімы Марціна Лютэра ўспрымалася Касцёлам як ерэтычная апрыёры. Гэта ж датычылася і надзвычай папулярнага ў 1560 – 70-я гг. на тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай чэшскага траўніка, які ў 1561 г. Жыгімонт ІІ Аўгуст забараніў перадрукоўваць "цягам 20 год пад пагрозаю канфіскацыі друкарскіх варштатаў і штрафа памерам 200 чырвоных злотых" [34, с.174].

Аднак пагрозы караля не спынялі выдаўцоў, якія працягвалі выпускаць у свет новыя рэдакцыі і нямецкага, і чэшскага траўнікаў. Пасля закрыцця друкарні Унглераў каля 1553 г. Станіслаў Шарфэнберг выкупіў набор траўніка Спечыньскага, перарабіў тытул і выдаў у 1556 г. Недзе пасля 1570 г. ужо Мікалай Шарфенберг даручыў Марціну Сенніку (Marcinu Sienniku) адрэдагаваць і ўдасканаліць траўнік Спечыньскага, арыентуючыся на чэшскае выданне. У выніку атрымаўся збор ziół tutecznych і postronnych / зёлак тутэйшых і заморскіх.

Яшчэ адзін прыклад палітычнай (праўда, няўдалай) цэнзуры адлюстраваў У.Сыракомля ў прадмове да перакладу "Вайны Хоцімскай" Якуба Сабескага. У 1618 г. Сабескі ў якасці камісара сойма апынуўся ў абозе воска Рэчы Паспалітай пад Мажайскам. Маючы заданне інфармаваць сойм пра ваенныя падзеі, ён занатоўваў убачанае ў дыярыўшы. "Былі там і крытычныя заўвагі ў адрас Жыгімонта ІІІ і каралевіча Уладзіслава", – паведамляе У.Сыракомля. Апошні даведаўся пра запісы і загадаў таемна ўкрасці дыярыўш. Пасля даслаў яго каралю. Жыгімонт ІІІ не прыняў падарунак сына. "Калі б я пажадаў у чужых паперах знаходзіць тое, што пра мяне пішуць, то і Каралеўства, і здароўе б страціў," – так нібыта сказаў кароль і, не чытаючы, кінуў дыярыўш Сабескага ў агонь [65, с.10]. Невядома, ці варта лічыць гэты гістарычны анекдот праўдзівай гісторыяй, аднак, на наш погляд, такое сапраўды магло адбыцца ў эпоху, калі любы дакумент (асабліва соймавая рэляцыя, пра якую, хутчэй за ўсё, тут варта весці гутарку) станавіўся аб'ектам цікаўнасці цэнзара.

На тэрыторыі Рэчы Паспалітай цэнзура не была справай выключна касцёла і адміністрацыі караля. Праваслаўная царква дзейнічала не менш жорстка ў дачыненні да "ерэтычных" кніг. Мы яшчэ звернемся да той сітуацыі, якая склалася вакол "Апалогіі" М.Сматрыцкага. Зараз жа згадаем наступны прыклад духоўнай праваслаўнай цэнзуры, якая датычылася цалкам нейтральнай, далёкай ад рэлігійнай палемікі кнігі. Гутарка пра так званыя Памяннікі (іншая назва – Сінодзікі). Гэта царкоўныя кнігі памінання нябожчыкаў. Іх імёны запісваліся ў пэўным парадку: служкі царквы па ранжыру, свецкія ўладныя асобы і іншыя (паводле храналогіі). У розныя часы са спісу памінання выключаліся пэўныя асобы, а ў некаторых выпадках з Памяннікаў выразаліся старонкі, каб не ўводзіць святара ў спакусу памінаць тых нябожчыкаў, стаўленне да якіх па нейкіх прычынах змянілася.

Так, у Супрасльскім памянніку выразаныя тыя старонкі, на якіх былі пазначаныя імёны цароў і патрыярхаў. Хутчэй за ўсё, зроблена гэта было па

прычыне незадаволенасці заходняй палітыкай маскоўскіх самадзержцаў у другой палове XVII ст. Зафіксаваныя выпадкі, калі ў Памяннікі, наадварот, устаўляліся старонкі. Так, у 1631 г. у Супрасльскі памяннік паміж 38 і 39 аркушамі “<…> быў уклееены лісток малога фармату, на якім каліграфічна напісана: “Род з Тарапца мяста з Масквы, шляхетнага Мацея Іаанавіча, які напісаў і надаў у манастыр Супрасльскі кнігу вялікую, рэкомую Дзесятаглаў” [7, с.143]. Пра тое, чаму Мацея Іаанавіча не ўпісалі ў Памянік адразу – не вядома. Паводле, М.Нікалаева, адна з магчымых прычын – помста манастыра перапісчыку, які не пажадаў зрабіцца манахам. Так ці інакш, аднак спатрэбілася благаславенне архімандрыта Аляксея Дубовіча для таго, каб у Памянніку з’явілася імя знакамітага чалавека.

Нягледзячы на складаную рэлігійную і палітычную сітуацыю, мы ўсё ж мусім канстатаваць тое, што на мяжы стагоддзяў у Рэчы Паспалітай назіраўся пэўны друкарскі бум. Звязана гэта перадусім з цікаўнасцю чытацкай аўдыторыі да ўласнай гісторыі, культуры, літаратуры. У Каралеўстве выдаюцца творы Яна Каханоўскага, Мікалая Рэя, “Хроніка Еўрапейскай Сарматыі” Аляксандра Гваніні, “Гербы рыцарства польскага” Барташа Папроцкага, у 1582 г. у Крулеўцы выйшла знакамітая “Хроніка Польская, Літоўская, Жамойцкая і ўсёй Русі” Мацея Стрыйкоўскага і інш. Нарэшце друкары і выдаўцы пачынаюць тытулаваць сябе “вучонымі дактарамі”, як напрыклад, кракаўскі выдавец Анджэй Петрковчык (з часоў Скарыны гэты выпадак унікальны). Прыблізна да 1650-х гг. адносна свабодна дзейнічаюць пратэстанцкія друкары.

У 1626 г. віленскі кальвінісцкі сінод прыняў рашэнне аб перавыданні Брэсцкай Бібліі. Адбылося перавыданне ў Гданьску ў 1632 г. Пры гэтым кальвіністы адрэдагавалі варыянт Брэсцкай Бібліі. Напрыклад, тэкст “Малітвы караля Манасіі” перанеслі да апокрыфаў, а “Песні трох младзенцаў”, “Сусана” і інш., якія ў Брэсцкай Бібліі падаюца асобна, злучылі разам” [7, с.97]. Зафіксаваныя прыклады, калі прадстаўнікі адной канфесіі карысталіся выданнямі іншай. Так, на старонках Брэсцкай Бібліі знойдзены шматлікія прыпіскі, якія сведчаць пра спробу дапасавання гэтага паасобніка для праваслаўнага богаслужэння. Астрожская Біблія адразу ж пасля свайго выдання патрапіла ў рукі рэдактараў, якія ажыццяўлялі праўку-вычытку тэкста, замяняючы стараславянскія архаізмы словамі жывой старабеларускай мовы.

Як не дзіўна, але поўная Рымска-каталіцкая Біблія на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў XVII ст. не выдавалася. Хаця агульная колькасць каталіцкіх кніг у гэты перыяд значна перавышае колькасць праваслаўных і пратэстанцкіх выданняў. У прысвячэнні да Новага Запавета з Псалтыром (1611 г.) рускія выдаўцы заўважалі: “добрых кніг, нашим словенским языком друкованых, не стало” [7, с.122].

Праўда, гэтае сцверджанне не зусім адпавядае рэчаіснасці. У перыяд з 1580-га па 1650 гг. у Рэчы Паспалітай было каля 15 кірылічных друкарняў. Так, князь Канстанцін Астрожскі фундаваў друкарню ў Астрогу і заснаваў друкарню пры Дзерманскім манастыры. Адна за другой на пачатку XVII ст. з’уляліся друкарні ў Львове, Галічы, Магілёве, Пачаёве, пры Кіева-Пячэрскай лаўры. У

1630-я гг. паўсталі Куцеінская друкарня, Чарнігаўская, Крымянецкая. Сітуацыя з рускімі друкарнямі на тэрыторыі Княства і Каралеўства амаль не адрознівалася ад сітуацыі з пратэстанцкімі друкарнямі.

Па-першае, большасць з іх знаходзіліся за межамі Вільні, Варшавы і Кракава, г.зн. былі ў вядомым сэнсе правінцыйнымі, па-другое, фінансаваліся або царквой, або ўплывовым магнатам (Хадкевіч, Астрожскі і інш.). Яшчэ адзін момант, які ўяўляецца важным, – з 1610-х гг. праваслаўныя друкарні пачынаюць працаваць з польскімі выданнямі. Гэта, канешне, у першую чаргу датычыцца віленскіх братчыкаў, аднак тэндэнцыя пераходу на пальскую мову была характэрна нават для некаторых рукапісных рускіх кніг.

Так, нехта Іаан, перапісваючы Евангелле вучыцельнае для смаленскага ваяводы Васіля Тышкевіча, "пераклаў славянскія словы на мясцовы беларускі дыялект і польскую мову", пры гэтым выкарыстоўваў як кірылічны алфавіт, так і лацінскую альфабэту (часам, іх сумесь). Прыклады "правак" Іаана:

"спсніа – збawienia;
гдьствую [т] над німі – panuia nad nimi;
стеноградіе – будоване і інш.

**"Herby Rycerstwa Polskiego"** 1584 г. выдання (у 1858 г. былі передрукаваныя Казімірам Туроўскім) адкрываюцца прысвячэннем "Найяснейшаму і непераможнаму каралю Стэфану Першаму". Б.Папроцкі, акрамя ўсяго іншага, заўважае: "Не дзякуючы розуму свайму, найяснейшы міласцівы кароль, але дзякуючы волі Бога ўсемагутнага <…>, мушу я ўсё гэта пісаць". Папроцкі параўноўвае сябе з працавітай пчалой, якая з розных кветак збірае мёд для сябе і для іншых. Прычым робіць гэта інстынктыўна, "дзеля паклікання", а не дзеля прыбытку і славы. Аўтар паведамляе пра тое, што ўсяго толькі апрацаваў напісанае даўнейшымі гісторыкамі –




**Мал. 4.** Тытул кракаўскага выдання "Гярбоў рыцарства польскага" Б.Папроцкага, 1858 г.

Вінцэнтам Катлубкам, Янам Длугашам, Мацеем з Мехава, Марцінам Кромерам. Гэтая сціпласць Папроцкага (“ніжэйшага слугі і падданага Яго Міласці караля”) – рэч для XVI ст. традыцыйная. Аднак у выпадку з гярбоўнікам адыход аўтара на другі план – не толькі звыклы стылёвы прыём.

Б.Папроцкі выступае ў ролі збіральніка і рэдактара ўжо гатовай інфармацыі. “Не варта забывацца на працавітых святароў і манахаў, якія ласкава пагадзіліся даслаць мне скрыпты свае; з іх я не менш, чым ад названых гісторыкаў, карыснага ўзяў” [26, с.7]. Згадаў аўтар і свайго вуснага інфарматара – канцлера кароннага Яна Замойскага, які “ўсе прозвішчы і роды ў краі нашым памятаў”. Праўда і сам Папроцкі не сядзеў на адным месцы, аб’ездзіў усё Каралеўства, “рупліва занатоўваючы ўспаміны старых людзей” [70, с.507].

Такім чынам, Б.Папроцкі выступаў, хутчэй за ўсё, і ў ролі аўтара, і ў ролі рэдактара-складальніка першай шляхецкай энцыклапедыі. Ён сабраў і апрацаваў плён працы многіх людзей: “<…> сабраў я з хронік і кніг касцёльных, з розных прывілееў, з актаў земскіх, гродскіх, з метрыкаў альбо кніг каралеўскіх, з іншых розных скрыптаў” [26, с.10] (зварот “Да чытача). “Сабраў” у кантэксце напісанага Б.Папроцкім літаральна азначае: “прааналізаваў і сістэматызаваў”, раздзяліўшы атрыманую інфармацыю на пяць частак:

1. У першых кнігах – “аб паходжанні гербу “Арла”, які каралям і каралеўству толькі належыць”;
2. У другіх “паказваю старажытнасць стану шляхецкага”;
3. “У трэціх кнігах змясціў гербы тых родаў старажытных, пра якія Длугаш паведамляе”;
4. Чацвёртыя кнігі маюць “распавесці аб паходжанні “Пагоні”, гербу Вялікага Княства Літоўскага”, а таксама пра гербы рыцараў Вялікага Княства Літоўскага”;
5. “Пятыя кнігі толькі пра гербы павятовыя распавядуць”.



**Мал. 5.** Эскіз гербу “Бродзіч” з кнігі Б.Папроцкага

Стыль Б.Папроцкага нязмушаны, нават гутарковы, перасыпаны, паводле тагачаснай літаратурнай моды, лацінізмамі. Прывядзём прыклад апісання гербу “Бродзіч” (“Brodzicz”):

“Павінен утрымліваць тры крыжы жоўтыя ў полі

чырвоным; тое за што і каму нададзены, добра зразумееш з першага прачытання. Усядоміўшы прыналежнасць да гербу, будзеш чытаць пра продкаў тое, што Длугаш паведамляе: genus polonicum providum in Masovia propagatum. Бачыў сам паперы даўнія, на якіх напісана со mites: Wsseborius, Suantoslaus, Christinus, haeredes de Brodi, fratres germani, якія былі пры заснаванні касцёла ў вёсцы Плёнск у годзе 1106, <…>. Пра тую вёску Плёнск паведаміць не магу, згадаю толькі тагачаснае мястэчка ў Плоцкай зямлі, каля яго рыцарства, якое належыць да гербу, дужа багата было, але пра іх ніжэй прачытаеш”.

У гярбоўніку шмат пазнавальнай інфармацыі, якая дытычыцца ў тым ліку і гісторыі Беларусі. Відавочна, што аўтар меў прад сабой старажытныя польскія, літоўскія і рускія летапісы. Хутчэй за ўсё, атрымліваў эксклюзіўную інфармацыю ад сведкаў гістарычных падзей, захавальнікаў вуснай краёвай традыцыі, пра якую ўжо ў XIX ст. Адам Міцкевіч згадваў як пра незваротна страчаную. Матэрыялы ў кнігах Папроцкага стылёва і жанрава неаднародныя. Ёсць як дакументальныя матэрыялы (цытуюцца прывілеі, акты аб наданні шляхецтва і г.д.), так і сямейныя легенды, нават анекдоты. Працытуем далей артыкул, прысвечаны гербу “Бродзіч”:


O HERBIECH
KSIĄŻĄT I RYCERSTWA
WIELKIEGO KSIĘSTWA LITEWSKIEGO.

KSIĘGI CZWARTE.

Do klejnotu Pogonia, który tylko książęciu wielkiemu a księstwu onemu należy.

Śmielej niż przedtem mój rycerzu miły,
Bodź tego konia a dobywaj siły.
Prędko na pomoc z swojej mężnej gęby
Położyć srogi wilk ogromne zęby,
A z temi w którą stronę się obrócisz,
Łacno każdego przeciwnika skrócisz.
Wszak się on łacno dał przywieść na zgodę,
Co chciał granicę mieć po Białą Wodę.

**Мал. 6.** Тытул чацвёртай кнігі з гярбоўніка Б.Папроцкага, прысвечанай Вялікаму Княству Літоўскаму

“Быў той Станіслаў Радзімінскі [гербу “Бродзіч”] незвычайнай фізічнай моцы. Стаўшы на адной назе, загадваў самаму дужаму мужчыне кінуць сябе на зямлю. Ніхто гэтага зрабіць не мог. Спрабавалі таксама і чужаземцы, але ўсё дарма. Жарэбчыка, якога колькі хлопаў лейкамі ўтрымаць не маглі, ён проста браў за вушы і трымаў сабе, ды так, што конюх узду мог накінуць і хамут. Ішоў пасля таго жарэбчык спакойна, прыціснуўшы збалелыя вушы да галавы”.

Падобных гісторый у гярбоўніку шмат. Здзіўляе абазнанасць аўтара ў гісторыі амаль усіх шляхецкіх родаў Рэчы Паспалітай. Генеалогія некаторых “фамілій” выводзіцца з

антычнасці, з часоў язычніцтва. Яшчэ адна істотная асаблівасць: Б.Папроцкі разглядаў гісторыю шляхецкай сям'і ў кантэксце гісторыі краю. "Ён выцягнуў на свет Божы тое, што пылілася ў касцёльных куфрах, працытаваў напісанае на мармуровы помніках". Словам, уваскрасіў даўнюю гісторыю.

Існуюць у працы Папроцкага і істотныя недахопы, якія дазволілі аўтару другога знакамітага гярбоўніка – К.Нясецкаму – ацаніць плён працы свайго папярэдніка адным толькі словам: "срамата". Прычыну такога стаўлення тлумачыць М.Вішнеўскі ў "Гісторыі літаратуры польскай": "Не адрозніваў Папроцкі фантазію ад гістарычнай рэальнасці, мяшаў праўду з выдумкай і абедзве аднолькава імкнуўся сцвердзіць" [70, с.507]. Іншымі словамі, Папроцкі-рэдактар не правяраў тую інфармацыю, якую атрымліваў. Заўважым, што ўжо пляменнік Папроцкага Лукаш паспрабаваў адрэдагаваць "Гербы рыцарства польскага", аднак завершыць працу не паспеў.

## §2. "Рэляцыі" і "Навінкі": Ян Караль Хадкевіч

2.1."Pamiętnik wojny Chocimskiej" Якуба Сабескага;
2.2. "Навіны";
2.3. "Навіны з Інфлянтаў: бітва пад Кірхгольмам";

**"Pamiętnik wojny Chocimskiej" / "Успаміны пра Хоцімскую вайну" Якуба Сабескага.** Вялікую цікавасць для гісторыкаў і філолагаў мае "Pamiętnik wojny Chocimskiej". Арыгінальны тэкст – на лаціне: "Commentariorum Chotinensis belli, libri tres". Напісаны ён падчашым каронным Якубам Сабескім каля 1620 г. На польскую мову пераклад усіх трох частак зрабіў У.Сыракомля (1851 г.), а публічным першаадкрывальнікам рукапісу быў хутчэй за ўсё Адам Нарушэвіч, які запазычыў у Я.Сабескага пэўныя факты, ствараючы жыццяпіс Яна Караля Хадкевіча.

Якуб Сабескі [8] выконваў абавязкі соймавага камісара пры войску Я.К.Хадкевіча і мусіў праўдзіва інфармаваць караля і сенатараў аб падзеях

[8] Я.Сабескі, ваяводзіч любельскі, бацька будучага караля Яна III Сабескага. У Еўропе авалодаў нямецкай, англійскай, італьянскай, французскай, турэцкай мовамі. Авалодаў мастацтвам дыпламатыі і ваеннай навукай. Узнавіў шлях Скарыны – вучыўся ў Італіі. Быў сведкам многіх войнаў і палацавых закалотаў. У якасці соймавага камісара ўдзельнічаў у маскоўскім паходзе 1617 г. Бачыў казацкі бунт і вайсковы рокаш 1618 г. Зрэшты, Я.Сабескі – летапісец маскоўскага паходу (яго дыярыўш уласнаручна, як мы ўжо згадвалі, спаліў Жыгімонт III). Прадстаўнік эпохі позняга

вайны Рэчы Паспалітай з туркамі перыяду 1620 – 1621 гг. Паводле жанру тэкст "Успамінаў" – гэта *соймавая рэляцыя*.

**Соймавая рэляцыя** – спецыфічны інфармацыйны жанр пачатку XVII ст., правобраз сучаснага інфармацыйнага бюлютэня. Для соймавай рэляцыі характэрныя: аб'ектыўнасць, дэталёвасць у паэтапным адлюстраванні гістарычных падзей, храналагічная дакладнасць, уменне аналізаваць і прагназаваць развіццё сітуацыі. Змест соймавай рэляцыі, зазвычай, знаходзіцца над інтарсамі канрэтных магнацкіх груповак і соймавых партый. Гэта адзін з нешматлікіх дакументаў, які адлюстроўвае дзяржаўны пункт погляду на актуальныя падзеі. Стыль рэляцый пачатку XVII ст. – мастацка-публіцыстычны, падобны да "Соймавых казанняў" Пятра Скаргі. Аўтар, які выступае ў ролі карэспандэнта, шырока выкарыстоўвае вобразныя сродкі, імкнецца аб'ядаць гістарычную дакладнасць з прыгажосцю мовы.

На наш погляд, тэкст "Успамінаў" прызначаўся для вуснага выступлення перад сенатарамі і каралём. Я.Сабескі падрабязна і аб'ектыўна ацэньвае ўсе этапы Хоцімская вайны, адзначае як перамогі, так і няўдачы Я.К.Хадкевіча. Стараецца глядзець на вайну ў кантэксце агульнай геапалітычнай сітуацыі, якая склалася на поўдні Еўропы, паведамляе пра моцныя бакі турэцкай арміі.

З другога боку, Я.Сабескі – чалавек адукаваны, схільны да творчасці – часта падыходзіў да справы нефармальна. Расквечваў афіцыйныя рэляцыі прыгожымі апісаннямі і каментарамі. Напрыклад, прамова гетмана




**Мал.7.** Тытул "Успамінаў пра Хоцімскую вайну" Якуба Сабескага (у перакладзе У.Сыракомлі), Санкт-Пецярбург, 1854 г.

---

Рэнесансу, Я.Сабескі выразна адлюстраваў ментальныя асаблівасці палітычнай эліты Рэчы Паспалітай. Найбольш красамоўна, на наш погляд, пра гэта сведчыць яго тэстамент. Вось што ў прыватнасці Падчашы загадаў выбіць на надмагільным помніку: "Якуб з Сабешчына Сабескі, Падчашы Каронны, Стараста Краснастаўскі і Яувароўскі тут чакае разам з уласнай сям'ёю страшнага аб'яўлення вялікага Бога. Кажу гнільшчызне: ты – мой бацька; чарвякам кажу: вы – мая маці і сястра" [65, с.4].

Хадкевіча, звернутая да войска, у інтэрпрэтацыі Сабескага – адзін з лепшых узораў барочнага красамоўства (працытуем урывак):

"О, найвышэйшы Дзяржаўца чалавечых учынкаў! Твая – магутнасць, Тваё – панаванне, і Твая – вайна! З Тваёй толькі волі паўстае ўсё, што вялікае пад сонцам; вайна, паражэнне і перамога ад Цябе залежаць; згодна з Уласнай воляй, Ты мацуеш зброю, слабых пераўтвараеш у волатаў, на ганарліўцаў накідаеш цуглі, сціплых узвышаеш <…>. І зараз з Боскага Твайго Маястату пакорна прымаю добрыя навіны, якія да мяне даходзяць. Ёсць яны апошнім сведчаннем дзіўнай Тваёй Прыхільнасці да маёй Айчыны. Будзь ласкавы, і далей здзяйсняй падобнае дабрадзейства, каб зламалі мы хэўру паганскую і ўзвысілі веру ў Хрыста" [65, с.31].



**Мал.8.** Тытул "Навінаў з Інфлянтаў" ("пра шчаслівую перамогу Я.К. Хадкевіча"). Кракаў, 1605 г.

Я.Сабескі, словамі А.Нарушэвіча, быў "сведкам атруты, што ў жылы народныя ўлілась" [46]. У сваёй рэляцыі ён з абурэннем пісаў пра анархію на вальных соймах, пра магнацкія сваркі, якія не дазвалялі выступіць адзіным фронтам супраць знешняга ворага. Так, аўтар "Успамінаў…" паведамляе пра тое, што надзвычайны сойм не выдаткаваў і паловы грошай войску Я.К.Хадкевіча. З гэтай прычыны, піша Я.Сабескі, гетману не было чым плаціць жаўнерам, і тыя спынілі вайну акурат у той момант, калі перамога была ў іх руках. З яшчэ большым абурэннем аўтар паведамляе пра кароннае паспалітае рушанне, якое "заблукала" недзе на Украіне, і не паспела на Хоцімскую вайну. "Як такое магло здарыцца?", – у роспачы задае ён свайму чытачу рытарычнае пытанне. Стары, хворы Я.К.Хадкевіч мусіў удзельнічаць у кавалерыйскіх атаках, бо афіцэраў у войску жахліва не хапала. "У такіх абставінах Бог толькі адзін ведае, як нам удалося перамагчы турэцкую навалач", – з горыччу заўважае Я.Сабескі.

Спрыяльныя для нас абставіны той вайны, перавярнуліся неўзабаве (як гэта часта здараецца) на дужа неспрыяльныя. Марныя чаканні дапамогі ўводзілі

нас у роспач. Штодня, нават штогадзіны змяншалася колькасць жаўнераў. <…>. Шмат было і тых, хто сярод дня ўцякаў, пакідаў свае харугвы. Рабіў такім чынам вялікую прыкрасць не толькі сабе, але і нашчадкам” [65, с.39].

Сімптомы “хваробы Рэчы Паспалітай” аўтар рэляцыі не толькі заўважае, але і прапаноўвае ад яе лекі – выступае за вяршынства закону над сваволяй, за падаўленне сепаратызму крэсаў і інш. Я.Сабескі даволі часта падае аналіз геапалітычнай сітуацыі на мяжы з Турцыяй і Масквой, а таксама прагназуе яе развіццё. Так, ён прадказвае паўстанне казакаў і дзяржаўнае бязладдзе ў сярэдзіне XVII ст., хуткае ваеннае дамінаванне Масквы, рэлігійныя войны і інш. Я.Сабескі заўважае пагрозу ў “паўзучай культурнай ісламізацыі” поўдня Еўропы, даводзіць: патурчэнцы ўжо ў другім пакаленні выракаюцца звычаяў продкаў і пераўтвараюцца ў ворагаў хрысціянскай цывілізацыі. Адзінай супрацьвагай ісламскай экспансіі, на яго думку, з’яўляецца славянскі свет, які непазбежна мусіць аб’яднацца.

Погляды Я.Сабескага паўплывалі на сучасную Еўропу. Нават з той прычыны, што Падчашы, перадаючы ідэі сыну – каралю Яну III, пэўным чынам “выкапаў хціваму турку магілу” (выслоўе з А.Нарушэвіча), спыніў ісламізацыю еўрапейцаў спачатку яшчэ раз пад Хоцімам, а потым і пад Венай.

**“Навіны”.** Ужо з сярэдзіны XVI ст. па тэрыторыі Рэчы Паспалітай распаўсюджваліся ананімныя лісткі, якія выконвалі інфармацыйную і прапагандысцкую функцыі, г.зн. былі правобразам сучасных друкаваных СМІ (газет). Паводле У.Сыракомлі, ужо на пачатку XVII ст. у шляхецкую Рэспубліку трапляюць сталыя перыядычныя выданні з Італіі і Францыі. У прыватнасці вядома, што “ваявода кіеўскі Ян Замойскі па пошце з


NOWINY PÉWNE

Z [illegible]. (*)

*Dniá wczoráyszego, to iest,* 12. *Styczniá od posłáńca Cesárskiego, przez Krakow iádącego, przyniesione z Wiedniá,* de datá *pierwszego dniá Styczniá,* 1620.

CEsarz Ferdynánd, w Wiedniu z woyskiem nie máłym, bespiecznie y wesoło mieszka, dostátek żywnośći máiąc: Bogu y niewinnośći swey ufa, że szczęśliwie z nieprzyiaćioł swych zwyćięstwo otrzyma.

2. Tenże, ná gorne Rákuszány (ktore *Superiorem Austriam* zową) rebellizánty z Czechy z konfederowá-

**Мал. 9.** Тытул “Навінаў праўдзівых”, 1620 г.

Кракава атрымліваў газеты рымскія".

Аднак, на тэрыторыі самой Рэчы Паспалітай распаўсюджванне перыядычнага друку ў эпоху панавання Жыгімонта III, Уладзіслава IV, а нават і Яна III Сабескага было праблематычным. Па-першае, не з усімі гарадамі (што ўжо казаць пра мястэчкі і засценкі) існавала паштовая сувязь. Па-другое, "падзеленая на тысячы партый, шляхта ніколі б не дазволіла кантраляваць перыядычны друк прадстаўніку якой-небудзь адной партыі. Адбіваючыся ад палітычных супернікаў, рэдактар штохвіліны рызакаваў бы жыццём і не здолеў бы выконваць свае абавязкі". З падобных разважанняў У.Сыракомля робіць наступную выснову: "Калі і маглі існаваць у нас будзь-якія газеты, то толькі неперыядычныя, выходзячыя з пэўнай важнай нагоды" [31, с.170].

Такой "газетай з нагоды" была так званая "Kolenda moskiewska", якая выйшла ў 1609 г. (Кракаў). Гэта своеасблівы інфармацыйны і аналітычны бюлютэнь, які тлумачыў прычыны вайны Рэчы Паспалітай з Масквоўскім княствам. Аўтар (нехта Павел Пальчэўскі) выказваў надзеі на хуткую перамогу войска Жыгімонта III, а таксама на "прыбытак вялікі ад той вайны для нашай дзяржавы".

Першыя навіны перыяду Жыгімонта III былі нямецкамоўнымі. Падчас элекцыі караля выйшлі брашуры: "Zeilung von der Wahl und Krönung des Königs Sigismund III", "Neue Zeitung aus Pohlen". Невядомыя аўтары распавядалі пра "няміласць" караля да шляхты. Вялікая колькасць навінаў датычыцца гетмана Вялікага Княства Літоўскага Яна Караля Хадкевіча. Згадаем шэраг т.зв. "Навінаў з Інфлянтаў". Напрыклад, у 1602 г. паўстае лацінамоўны тэкст "Nova ex Livoniae", у якім распавядаецца пра "новую і слаўную перамогу Хадкевіча над шведам". У 1605 г. паўстаюць яшчэ адны "Навіны з Інфлянтаў". На гэты раз гутарка пра перамогу Хадкевіча пад Кірхгольмам.

У 1608 г. выйшаў не зусім звычайны інфармацыйны бюлютэнь – невядомы аўтар у вершаванай форме расказаў пра тое, што адбываецца ў Маскве з каралеўскім войскам. Называўся гэты бюлютэнь "Пасол з Масквы". У тым самым, 1608 г., а таксама ў 1609 г. з'яўляюцца "Навіны з Масквы", якія разлічаны на аднаго чытача – караля, бо ўтрымліваюць інфармацыю, па словах У.Сыракомлі, прыватнага і сакрэтнага характару.

У 1620 – 1621 гг. падчас славутай Хоцімскай вайны паўстаюць "Навіны абноўленыя", "Размовы свежыя аб навінах з Украіны" і "Навіны з Турцыі". Апошнія аформлены ў выглядзе дыялогу Стражніка і Вязня (уцекача з турэцкага палону). Працытуем урывак:

**Стражнік:** Якія навіны? Што за мяжою чуваць?
**Вязень:** Пан, лепей пра гэта ў другога спытаць.
Навінаў не маю, бо бег з усіх ног
Ад ворага ледзь ўратаваў мяне Бог.
Скажу толькі: цэзар патрапіў нагу паламаць.
Хутчэй за ўсё, будзе да смерці кульгаць [52, с.181].

Падобная па змесце брашура “Шпіён польскі ў Турцыі, які шмат чаго бачыў і сваім дзеля перасцярогі паведамляе”. Аўтар падае звесткі пра грознае, на першы погляд, войска султана Асмана. Яго мэта не так напалохаць суайчыннікаў, як узняць іх баявы дух. Надзвычай камічна, “польскі шпіён” распавядае пра тое, як убок Рэчы Паспалітай цягнецца тлум пігмеяў: “яны да таго з журавамі біліся, а зараз вырашылі пабіцца з намі”. Таксама не без іроніі паведамляецца пра тое, што ў войску Асмана 12 пар сланоў, 8 пар грыфаў, 14 пар ільвоў і 18 пар цмокаў” [31, с.171].

Навіны з Украіны (1620 г.) распавядалі пра незадаволенасць казакаў разбурэннем праваслаўнай царквы ў Вільні. Аднак нехта ўплывовы (яго імя аўтар не называе) здолеў накіраваць энергію запарожцаў убок Турцыі. “Разам са сваім гетманам Сагайдачным пачалі яны нападаць на турэцкія галеры. Ды так зухвала, што двух “царыкаў” татарскіх злавілі. Напэўна, будуць выкуп за іх патрабаваць, а можа і на сваіх палонных абмяняюць. Божа Усемагутны, зрабі так, каб чым далей – тым лепшыя навіны” [52, с.182]. Пра запарожцаў паведамляюць таксама “Навіны аб паражэнні чэхаў і кальвіністаў”. У брашуры падаецца інфармацыя “аб выправе казацкага войска ў бок Чэхіі і аб перамозе, атрыманай гетманам Лісоўскім над “ерэтыкамі” [31, с.173].

Пэўную навуковую каштоўнасць маюць “навіны з-за мяжы”, якія паступалі ў асноўным па лініі дыпламатычнай службы Рэчы Паспалітай (напрыклад, “Навіны з Францыі аб вызваленні горада Парыжа ад аблогі Наварскага караля” – Кракаў, 1590 г.). У якасці карэспандэнтаў маглі выступаць таксама і езуіты. Так, у 1631 г. езуіты дастаўляюць навіны з Неапаля – “Пра выбух гары Везувій і аб вялікім спусташэнні ў дзяржаве Неапалітанскай”. У 1603 г. кракаўскія езуіты друкуюць навіны “аб пашырэнні веры хрысціянскай у Амерыцы і аб місіянерскай дзейнасці ў Перу”. Езуіт Шымон Высоцкі перакладае з лацінскай на польскую мову “Навіны, або Падзеі ў Японіі і Кітаі, краінах язычніцкіх новага свету” (1612 г.). Грамадзяне Рэчы Паспалітай чыталі таксама свецкія навіны (напрыклад, “Пра цырымонію каранацыі



**Мал. 10.** Вялікі гетман ВКЛ Ян Караль Хадкевіч

Марыі Медзічы", "Пра смерць Генрыка IV" – Вільня, 1610 г.). Асобны від дакументаў – т.зв. "легацыі" або справаздачы паслоў з іх падарожжаў у замежжа. "У краіне, дзе ўсё вырашала шляхта, пасол меўся рабіць справаздачу, выступаць на сойме або сойміку", часта яго прамову друкавалі, распаўсюджвалі. Напрыклад, пасол Рэчы Паспалітай Павел Дзялыньскі рабіў справаздачу аб побыце ў Бельгіі і Англіі. Войцех Мяскоўскі распавёў пра свае дзеянні пры двары султанаў Амурата і Ібрагіма (1640 г.). "Рэляцыі такога роду надзвычай цікавілі грамадства. Кароль і сенатары даведваліся пра палітычную сітуацыю за мяжой, ацэньвалі стаўленне пэўных манархаў да іх дзяржавы. Дробная шляхта атрымлівала звесткі пра чужыя краіны наогул – пра звычаі, норавы, кошты, рознага роду нюансы побытавага жыцця" [31, с.177].

Пра тое, хто менавіта друкаваў навіны і рэляцыі, з пэўнасцю сказаць цяжка. Большасць навукоўцаў пагаджаецца з тым, што навіны выдавалі ў паходнай тыпаграфіі караля. Вядома, напрыклад, пра тое, што Стэфан Баторый усюды вазіў друкароў на чале з Валентым Лапчыньскім (Walenty Łapczyński). Апошні за заслугі перад Рэччу Паспалітай у 1581 г. быў набілітаваны. З пэўнасцю можна казаць толькі пра тое, што з канцылярыі караля амаль штомесяца выходзілі так званыя "публічныя дакументы" – адозвы да войска, народа, справаздачы аб бітвах, звесткі аб здабытых гарадах і крэпасцях. "У тым выпадку, калі навіны выходзілі з каралеўскай канцылярыі, на іх быў надпіс: "Edykt". Усе астатнія дакументы інфармацыйнага характару называліся "данясенні" [52,с.182].

У 1620 г. з кракаўскай каралеўскай друкарні выйшлі так званыя "Навіны праўдзівыя" ("Nowiny Pewne"). Гэта адзін з нямногіх захаваўшыхся поўнатэкставых дакументаў пярэдадня Хоцімскай вікторыі Яна Караля Хадкевіча. "Навіны праўдзівыя" змяшчаюць інфармацыю, якая паступіла з-за мяжы. Так, паведамляецца пра тое, што "цэзар Фердынанд у Вене з войскам немалым бяспечна і весела бавіць час, не мае недахопу ні ў ежы, ні ў пітве. Богу дзякуе за шчаслівую перамогу над непрыяцелем". "Перамога ж тая ўсім католікам – пацеха, а людзям іншай рэлігіі папярэджанне". Завяршаюцца "навіны" традыцыйна для XVII ст. – словам "амэн" [49, с.263]. Напрыканцы тэкста пазначана: "з дазволу ураду духоўнага". Гутарка, хутчэй за ўсё, пра тое, што "навіны" дапусціла да друку т.зв. цэнзура біскупаў.

**"Навіны з Інфлянтаў: бітва пад Кірхгольмам".** На тэрыторыі Беларусі поўнатэкставых "навінаў", наколькі нам вядома, не захавалася. У 1843 г. некалькі паасобнікаў перавыдаў Казімір Вуйціцкі ў кнігазборы "Старажытная бібліятэка польскіх пісьменнікаў". На шчасце для беларусаў, навуковец апублікаваў т.зв. "Навіны з Інфлянтаў", гутарка ў якіх вядзецца пра вялікага гетмана ВКЛ Яна Караля Хадкевіча – аднаго з найбольш славутых нашых землякоў. Прывядзём выходныя дадзеныя дакумента:

**Тытул:** *"Навіны з Інфлянтаў"*.

**Падзагаловак** (своеасаблівы журналісцкі, у сучасным разуменні гэтага паняцця, "лід"):

*Пра шчаслівую перамогу, якая адбылася над Карлам князем, дзякуючы Яго Міласці Пану Яну Каралю Хадкевічу, вялікаму гетману Вялікага Княства Літоўскага, дня 27 верасня, у Дзень Святога Станіслава 1605 г. У друкарні Мікалая Шарфэнбергера, року панскага 1605.*

**Тэкст дакумента (у перакладзе на беларускую мову):**

Non nobis Domine, non nobis, sed nomini tuo sit gloria.

“<…> Карл, аб’яднаўшыся з Мансфелтам (Mánsfeltem), налічваў войска каля 14 тысяч – пераважна, чужаземцаў, якіх большай сумай у князёў маскоўскіх пераманіў. І вось пачаў наступаць ён на наша войска пад Кірхгольмам раніцай 27 верасня. Пашыхтаваў сваіх досыць далёка – праз вялікае і роўнае поле на пагорках, дагадзіўшы такім чынам пяхоце. Нашых таксама Пан Гетман пашыхтаваў над Дзвіной. У гэты ж час князь, Яго Міласць Курляндскі Фрэдэрык, прыйшоў з курляндцамі сваімі – трыма сотнямі людзей, адборнымі ўсё райтарамі і шляхціцамі курляндскімі. Угледзіўшы праз Дзвіну войскі, якія насупраць адзін аднаго стаялі, жадаючы прыроджанай цноце дагадзіць, жаўнерскую дзельнасць, мужнасць і веру Каралю Яго Міласці Пану Нашаму і Рэчы Паспалітай паказаць, з вялікай пагрозаю для здароўя паплыў на другі бераг, каб толькі дапамагчы войску нашаму.



**Мал. 11.** Выява т.зв. “крылатага гусара”. Ротмістр з партрэту караля Жыгімонта III

Пан Бог сапраўды вялікі цуд здзейсніў, бо ў такой шырокай і глыбокай рэчцы Фрэдэрык Яго Міласць брод знайшоў, нікому раней невядомы, і без шкоды да войска прыбыў. А нашы гусары ўжо з’язджацца пачалі з непрыяцелем і даваліся ў знакі яму. Так доўжылася да апоўдня. Яго Міласць Пан Гетман, заўважыўшы небяспеку ў працяглай бітве з ворагам магутным, жадаючы непрыяцеля з яго фартэцый на поле выцягнуць, загадаў гусарам падыйсці да ворага і з

вялікім страхам назад уцякаць. Угледзіўшы гэта, непрыяцель выйшаў услед за гусарамі на роўнае поле і далёка ад сваіх умацаванняў пайшоў. Маючы 11 гарматаў палявых, пусціў іх наперад шыхтоў пяхоты, узброенай мушкетамі, з левага ж флангу нesліся райтары, якія меліся заходзіць з боку Дзвіны ў тыл войску нашаму; на правым фланзе паставіў [Карл] меншую частку райтараў, а рэшту кавалерыі размесціў у рэзерве. Яго Міласць Пан Гетман раздзяліў войска сваё на тры палкі, свой полк паставіў на чале, маючы ў ім адборных жаўнераў, курляндцы там таксама былі. <…>. Правы полк даручыў Яго Міласці Яну Сапегу, загадаўшы пільным вокам сачыць за тымі райтарамі, якія на левым непрыяцельскім фланзе стаялі. Левае ж крыло даручыў пану Дамброве (Dambrowie).

Вецер дзьмуў з боку мора і аднолькава абодвум войскам служыў, аднак лепей выкарыстаў яго Пан Гетман – усё з ласкі міласлівага Бога, які рыцарству мужнасць, а правадырам розум дадае. Спыніўшыся, Пан Гетман з прамовай яскравай да рыцарства звярнуўся, пабуджаючы да сплочвання належнага славе і цноце, згадаўшы вялікую колькасць непрыяцеля, патлумачыўшы небяспеку ў выпадку (сцеражы Божа) прайгранай бітвы. Акрыліўшы сэрцы надзеяй на Пана Бога, загадаў з гарматаў па войску непрыяцельскаму ўдарыць. Затым кожны з іх [жаўнераў Хадкевіча], з іменем Езуса ў сэрцы і на вуснах, у складзе харугваў сваіх пайшоў наперад”.

Далейшы змест гэтай рэляцыі апісвае ход бітвы пад Кірхгольмам, якая завершалася поўным разгромам шведскага караля Карла IX. Аўтар, не хаваючы свайго захаплення, паведамляе: “Палонных значных некалькі соцен нашыя ўзялі. Шэсцьдзесят харугваў захапілі. Гарматаў 11 адбілі. Абоз забралі. Сам Карл, які, насуперак справядлівасці, на Пана свайго зброю ўзняў, справядлівым дэкрэтам Божым быў пакараны – паранены, ледзьве ўцёк, напэўна толькі дзеля таго застаўся жывым, каб за злосць сваю сплаціць належнае” [50, с.257].

Не забыўся аўтар распавесці пра тое, як успрыняў гэтыя навіны кароль. “Тыя весткі знайшлі Яго Каралеўскую Міласць у Кракаве ў дзень нядзельны 16 кастрычніка ў касцёле падчас імшы святой. Яго Міласць дужа быў усцешаны, сам Богу падзякаваў і спавядальніку свайму ксяндзу Скарзе загадаў міласліваму Богу дзякаваць і людзям паспалітым з амбону паведаміць” [50, с.258].

Узновім храналогію падзей. Кракаўскі друкар Мікалай Шарфэнбергер выпусціў “Навіны” ў канцы 1605 г. Да гэтага моманту ён паспеў атрымаць інфармацыю, па-першае, ад удзельніка або сведкі “шчаслівай бітвы пад Кірхгольмам”, па-другое, ад прысутнага на імшы, якая адбылася ў кракаўскім касцёле 16 кастрычніка. Менавіта тады пра перамогу Я.К.Хадкевіча даведаўся Жыгімонт III. Заўважым, што ад дня бітвы (27 верасня) да 16 кастрычніка мінулася каля трох тыдняў. Узрушаны кароль загадвае свайму спавядальніку віленскаму біскупу Пятру Скарзе з амбонаў “паведаміць людзям паспалітым” пра шчаслівую перамогу сармацкай зброі. Гэта значыць, што не Мікалай Шарфэнбергер (гаспадар друкарскага двара), а лідар Контррэфармацыі Пётр Скарга мусіць збіраць, апрацоўваць і рэдагаваць інфармацыю, якую потым а)

Шарфэнбергер надрукуе і б) ксяндзы паведамяць прыхаджанам у касцёлах. Такім чынам, Скарга – рэдактар усіх тых звестак, якія мелі дычыненне да Кірхгольмскага трыўмфу. Гэта, на наш погляд, не выклікае сумненняў. Застаецца пытанне, ці быў Скарга і аўтарам “Навінаў”?

Стыль, прыведзенага тэксту, інфармацыйна насычаны і разам з тым – эмацыянальны, перасыпаны мастацка-вобразнымі сродкамі. Аўтар часта апелюе да Бога як найвышэйшага сведкі і адначасова справядлівага суддзі Карла. Падкрэсліваецца заканамернасць меўшага адбыцца, бо ў бітве пад Кірхгольмам католікі перамаглі пратэстантаў. Аўтар сцвярджае еднасць рыцарства Рэчы Паспалітай, яго вернасць каралю і касцёлу. І стылёва, і ідэалагічна змест тэкста адпавядае стылю і зместу “Соймавых казанняў” П.Скаргі, якія з’явіліся за 5 год да перамогі Хадкевіча. Ствараецца ўражанне, што апісаныя ў “Навінах” падзеі з’яляюцца заканамерным вынікам звароту Скаргі да шляхты, якая нарэшце аб’ядналася і выступіла супраць знешняга ворага.

Такім чынам, віленскі біскуп – рэдактар і цэнзар выдання кракаўскага друкара Шарфэнбергера. Гэта вельмі важны факт для ўсведамлення спецыфікі той сітуацыі, якая склалася ў кнігавыдавецкай справе Рэчы Паспалітай на пачатку XVII ст. Без дазволу біскупа, падкрэслім гэта яшчэ раз, – кракаўскі друкарскі варшат не працаваў.

## §3. Выдавецтвы на тэрыторыі Княства ў першай палове XVII ст.

3.1. Пратэстанцкія друкарні. “Hippika to jest Księga o koniach” К.Дарагастайскага;
3.2. Друкарскі двор у Любчы;
3.3. “Proverbiorum a Salomone Ryssinio…”;
3.4. Рускія кірылічныя друкарні;
3.5. Друкарня кармелітаў у Бялынічах.

**Пратэстанцкія друкарні. “Hippika to jest Księga o koniach” К.Дарагастайскага.** Адным з самых вядомых выдаўцоў палемічных пратэстанцкіх кніг быў Віленскі кальвінскі збор. На пачатку XVII ст. у друкарні збора працаваў “sługa i drukarz Krzysztofa Radziwiłła” Якуб Марковіч. Ён выдаў кальвінісцкія “Катэхізм” і “Канцыянал” (1600 г.). Вядомыя таксама кнігі,

падрыхтаваныя Я.Марковічам на нямецкай мове (“Apologia das ist Verantwortung und Verthedigung…” (1602 г.).

Існуюць звесткі пра друкарню ў Кейданах. Польскі навуковец Ежы Самуэль Бандке падае пра яе наступныя звесткі: “Кейданы – вялікі горад на Літве. Януш Радзівіл заснаваў тут каля 1650 г. друкарню, з якой бібліятэка варшаўскага ўніверсітэта атрымала “Псалтыр Літоўскі” [20, с.131]. “Выбіў” гэту кнігу нехта Іахім Ежы Рэтус (Rhetus) або Рэтэ (Rhete)”. Бандке заўважае, што “Рэты былі друкарамі ў Гданьску і ў Франкфурце над Одрай”, якім чынам яны патрапілі да Радзівілаў – не вядома. Беларускі даследчык А.М. Пяткевіч згадвае друкарскі двор у Мураванай Ашмянцы (цяперашні Ашмянскі раён на Гарадзеншчыне). Гаспадаром двара быў спачатку стольнік, а потым – маршалак Вялікага Княства Літоўскага Крыштоф Дарагастайскі – аўтар славутай **“Хіппікі, або Кнігі пра коней”**.

Вучоныя называюць розныя месцы выдання гэтай кнігі. На думку А.М. Пяткевіча, упершыню “Хіппіка” выйшла ў Кракаве ў 1603 г. Кракаўская друкарня А.Петрковчыка (Andrzeja Piotrkowczyka) пазначана таксама і на тытуле перавыдання кнігі, здзейсненага Казімірам Туроўскім у 1861 г. Праца К.Дарагастайскага заслугоўвае таго, каб сказаць пра яе колькі слоў. Цалкам назва кнігі гучыць наступным чынам (на польскай мове):

Hippika to jest Księga o koniach, potrzebna i krotochwilna młodości zabawa, przez Krzysztofa Dorohostajskiego ku pożytkowi ludzi rycerskich na jasność wydana.

Кніга параўнальна невялікая – усяго каля 260 старонак. Паводле Фелікса Бенткоўскага (“Гісторыя польскай літаратуры”), тытул выдання 1603 г. аздоблены выдатнымі малюнкамі. На адвароце змешчана прысвячэнне “Найяснейшаму Жыгімонту III, каралю польскаму і г.д.”. Аўтар, Крыштоф Монівід на Дарагастаях (а менавіта такім чынам ён сам сябе называе), лічыць кнігу ўсяго толькі забаўкай: “Карысную і кароткачасовую маладосці сваёй забаўку для патрэбы людзей рыцарскіх выдаю”. Ёсць у арыгінале XVII ст. і пекныя малюнкі (каля 20), якія перанесены, як трэба думаць, спачатку ў познаньскія перавыданні, а потым і ў кракаўскае – 1861 г. Ф.Бенткоўскі [28], спасылаючыся на К.Нясецкага, указвае родавы герб Дарагастайскага – Ляліва. Другі даследчык – Казімір Вуйціцкі – называе гады жыцця аўтара “Хіппікі…”: 1562 – 1611 гг.

Тэкст мае выразную структуру: падзелены на чатыры кнігі, кожная з іх мае раздзелы: першая – 23, другая – 22, трэцяя – 9, чацвёртая – 44. Усе 4 кнігі пачынаюцца з прадмовы, якія перасыпаныя лацінскімі сентэнцыямі. К.Дарагастайскі падае прыклад уваходзячага ў моду макаранічнага маўлення. Сустракаюцца рэменісцэнцыі з сярэднявечнай белітрыстыкі (у прыватнасці, з вядомай на Беларусі “Александрыі”), з апакрыфічных тэкстаў, Святога пісання. Шырока цытуецца Вергілій (цытаты падаюцца паралельна на лацінскай і польскай мовах). Генеалогія коней выводзіцца з грэчаскай і антычнай міфалогіі, часта падаюцца спасылкі на Арыстоцеля і Плінія. К.Дарагастайскі дэманструе




**Мал. 12.** Ілюстрацыя з кнігі К.Дарагастайскага “Hippika to jest Księga o koniach…”

зайздросную эрудыцыю, спасылаецца на вопыт уласных падарожжаў па Еўропе. Праўда, апісанне фізіалогіі жывёлы ў сучасных заолагаў, напэўна, выклікала б усмешку: “Конь, пра якога зараз размова вядзецца, прыродай сваёй, з аднаго боку, схіляецца да агню, г.зн. да цеплыні, і разам з тым, з другога боку, знаходзіцца недзе пасярэдзіне – паміж вільготнасцю і сухасцю, г.зн. паміж вадой і паветрам, а што грубага ў сабе мае – тое ад зямлі паходзіць” [27, с.11].

Цікава, што К.Дарагастайскі разглядае коней як крыніцу ўсялякага дабра, у тым ліку і лекаў. Аўтар шырока спасылаецца на народную медыцыну:

“Малако ж ад кабылы, з мёдам перамяшанае, надзвычай карыснае ад сухотаў, таксама і дзяўчатам няплодным дапаможа; калі пяром у вока капнуць – і бяльмо выведзе. Дым з капыта конскага плод з жывата выганяе, і хутчэйшаму нараджэнню дапамагае. Пот конскі небяспечнай з’яўляецца атрутай.




**Мал. 13.** Ілюстрацыя з кнігі К.Дарагастайскага “Hippika to jest Księga o koniach…”

<…>. Пена конская, калі піць яе раніцай, вельмі дапаможа ад сухотаў, а таксама ўсім тым, хто часта і моцна кашляе. Людзі, якія ад зубнога болю пакутуюць, каня няхай часцей цалуюць” [27, с.14].

У тэксце шмат прымхаў і забабонаў. К.Дарагастайскі цалкам сур’ёзна раіць “людзям рыцарскага саслоўя” ніколі не сядаць на коней “з задняй правай белай нагой”, бо “кожны такі конь – надзвычай наравісты, злы, нешчаслівы і небяспечны, затое задняя левая белая нага – сведчанне сэрца чыстага, вясёлага і добрага” [27, с.15]. Ёсць у кнізе практычныя парады, якія і сёння захоўваюць актуальнасць. Напрыклад, К.Дарагастаўскі раіць тое, як выбіраць пашу для коней, як даведацца пра ўзрост жывёлы, як падкаваць і лячыць каня, у якім узросце забіраць жарабца са статка і інш.

Звяртаючыся да канкрэтных праблем, Дарагастайскі пераходзіць на простую гутарковую мову, характэрную для шляхецкіх гавэндаў XVIII ст., часта выкарыстоўвае прымаўкі (кшталту “адна ластаўка вясны не робіць”). Ёсць у кнізе падрабязнае апісанне збруі (назвы прылад даюцца на “мясцовай” мове і на польскай) для коней “рыцарскіх” і гаспадарчых.

Асаблівую цікавасць можа выклікаць чацвёртая кніга, прысвечаня конскім хваробам і іх лячэнню. У большасці выпадкаў К.Дарагастайскі, як нам уяўляецца, падае карысныя і слушныя парады. Напрыклад, калі конь вока ўдарыць – варта гарэлкай рану яму прамыць, або пры сутаргах варта мышцу ўкалоць шылам ці сцызорыкам. Калі ж у жывёлы завяліся глісты, “<…> вазьміце лісце капусты, палыну, мяты, ператаўчыце ўсё ў ступе, дадайце воцату. Лісце выжміце і сок той, які атрымаецца, дайце выпіць каню. І ўсё будзе добра” [27, с.211].

Ёсць у кнізе экзатычныя хваробы і не менш экзатычныя лекі ад іх. Напрыклад, у тым выпадку, калі конь без прычыны схуднеў, трэба “ўзяць парасятка, якое яшчэ не адыходзіць ад свінні-маткі, кінуць яго ў ваду кіпячую, каб малое верашчала ад болю; варыць, пакуль мяса ад косткі не адваліцца, а потым юшкай той паіць каня” [27, с.247]. Завяршаючы ўсе чатыры кнігі, К.Дарагастайскі адзначаў: “Якая ж на гэтым свеце незлічоная колькасць хвароб, ад якіх і людзі, і жывёла пакутуюць. Аднак колькі хвароб – столькі ж і лекаў ад іх, ледзь не штодня спосабаў выратавання ад тых хвароб усё болей. <…>, у гэтай кніжцы згадаў я найпатрэбнейшыя, з майго пункту погляду, лекі, а таксама парадак іх ужывання. Астатняе пакідую больш дасведчаным, спрактыкаваным і больш за мяне вучоным” [27, с.261].

Тое, што “Хіппіка” перавыдавалася некалькі разоў, сведчыць пра яе надзвычайную папулярнасць. На жаль, мы не маем магчымасці параўнаць аўтарскую рэдакцыю 1603 г. з рэдакцыямі пазнейшымі, у тым ліку – кракаўскаў 1861 г. Відавочна ж, аднак, тое, што К.Дарагастайскі – асоба пераходнай эпохі ад Рэнесансу да Барока. З аднаго боку, ён апелюе да рацыяналізму, аб’ектыўнага пазнаня свету, спасылаецца на дасягненні тагачаснай навукі, уласны эксперыментальны вопыт; з другога, ён усё ж не чужы ірацыяналізму, нават сярэднявечным прымхлівасці і забабоннасці.

Вяртаючыся да тэмы пратэстанцкіх выдавецтваў Вялікага Княства Літоўскага, згадаем **друкарскі двор у Любчы** (цяперашні Навагрудскі раён). Тут выйшла адна з самых рэзанансных кніг першай чвэрці XVII ст. –"Dysputacja Nowogrodzka odprawowana R.P. 1616 d. 9 stycznia, szczerze wydana przez Lukasza Wądłowskiego". У кнізе апісаны дыспут паміж пратэстантам і езуітам, які адбыўся ў Навагрудку.

Любчанская друкарня трымалася, па словах А.М. Пяткевіча, без малога паўстагоддзе (1612 – 1656 гг.). "Яна дзейнічала з размахам, змагла стварыць шырокае кола аўтараў і стала на доўгі час выдавецкім і інтэлектуальным цэнтрам кальвінізму ў ВКЛ". Асаблівасцю гэтай друкарні было тое, што яна "<…> не абмяжоўвалася выпускам канфесійнай, пратэстанцка-прапаведніцкай літаратуры. Тут досыць паслядоўна ажыццяўляўся выхад свецкіх кніг. У прыватнасці, выдаваліся кнігі па медыцыне, ветэрынарыі, хіміі, педагогіцы, гісторыі, геаграфіі, фальклоры, літаратурна-мастацкія, астралагічныя выданні, розныя інфармацыйна-даведачныя і школьныя дапаможнікі, пераклады класікаў старажытнасці, зборнікі хрэстаматыйных тэкстаў, песеннікі з нотамі, календары і інш." [14, с.19].

За разнастайнасцю кніжнага рэпертуара сачыў выдавец і рэдактар Пётр Бластус Кміта, які ўзначальваў Любчанскую друкарню з 1612 г. па 1630-я гг. Да гэтага часу (з 1606 г.) ён працаваў у віленскім выдавецтве Яна Карцана, якое хутчэй за ўсё ўзначаліў у 1611 г. Зараз цяжка сказаць, па якой прычыне Пётр Бластус Кміта [9] пакінуў сталіцу дзеля правінцыйнай Любчы. Магчыма, таленавіты выдавец і рэдактар ратаваўся ад пераследу з боку віленскіх езуітаў. Праўда, гаспадар "любчанскай афіцыны" ніколі не быў рэлігійным фанатыкам. Хутчэй, ён быў бізнесменам, які ўлічваў тое, што сёння называецца грамадскім попытам на выдавецкую прадукцыю. Палітыка Любчы была гнуткай, далёкай ад якой бы там ні было свецкай або рэлігійнай канфрантацыі.

"Адным з першых значных выданняў П.Кміты з'яўляецца кніга "Кароткія і дасціпныя аповесці", якія па-грэчаску называюцца "Апафегматы", двойчы выпушчаныя ў 1614 г. Гэта зборнік займальных і павучальных апавядальных твораў пра вядомых філосафаў, дзяржаўных і ваенных дзеячаў, "жанчын мудрых" старажытнай Грэцыі, Рыма, Егіпта, Індыі, Персіі, сярэднявечнай Еўропы. Зборнік, складзены вядомым беларускім гуманістам Беняшам Будным, быў упершыню выдадзены ў Вільні ў 1599 г. Я.Карцанам і змяшчаў "кароткія аповесці" пра 123-х дзеячаў мінулага".

Кароткія і дасціпныя аповесці, якія па-грэчаску называюцца Apophtegmata, кнігі IV. Праз Беняша Буднага (Bieniasza Budnego); у Любчы, у друкарні Пятра Бластуса Кміты. Выданне адкрывае прысвячэнне "шчасліва народжанаму яснаму пану Адаму Храбтовічу – таму, хто часта наведвае друкарню маю і пытаецца не аб тым толькі, ці ёсць што новага, але і пра тое, што карыснага з друку выйшла". Дата выдання: 26 красавіка 1614 г.

[9] Часам Пятра Бластуса Кміту ў другой палове 1620-х у прыватнай перапісцы называлі "тыпографам Князя Радзівіла" [7, с.345].

“Кароткія і дасціпныя аповесці” рэдакцыі Пятра Бластуса Кміты моцна адрозніваюцца ад рэдакцыі віленскага выдання. Па-першае, у Любчы пашарылі змест кнігі, дадаўшы яшчэ 30 новых гістарычных персанажаў і сабраўшы матэрыял пра іх з розных крыніц; па-другое, Кміта ўвёў “пераказ аднаго з апавяданняў Бакачыо”, што зрабіла кнігу не толькі цікавай гістарычнай, але і літаратурна-мастацкай анталогіяй. Заўважым тое, што любчанская рэдакцыя “Апафегматаў” у Расіі XVIII – XIX ст. выдавалася каля 20 раз.

Сярод самых вядомых выданняў гэтай друкарні – **збор сентэнцый Саламона Рысінскага:**

**Proverbiorum** a Salomone Ryssinio collectorum Centuria decem et octo. Lubeca ad Chronum in officina Petri Blasti Kmita. Anno Domini MDC-XIIX Decembribus horis 4-to. (1618 г.).

У першай трэці XVII ст. кніга С.Рысінскага перавыдавалася 3 разы: першы раз у Любчы, другі – друкавалася без пазначэння месца выдання і трэці – у 1629 г. накладам Якуба Віроўскага (Jákubá Wirowskiego. Bibliopole Lubelskiego). У другім і трэцім выданнях на адвароце тытула быў размешчаны верш, прысвечаны С.Рысінскаму (за подпісам D.N.). Працытуем урывак:

| | |
|---|---|
| Ty! pierwszy pokazałeś Rysiński mój drogi, | Ты першы паказаў, Рысінскі, мой дружа, |
| Że i w to nasz Sarmacki język nieubogi! | Што мова сармацкая наша прыгожая дужа |
| Za czym Muza Słowieńska, takie twe zabawy, | За тое Муза Славянская, тыя твае забавы |
| O sądziła bydź godne wiekuistéj sławy: | Зрабіла годнымі вечнай славы |

[60, с.8].


PRZYPOWIESCI POLSKIE,
PRZEZ
[illegible]
ZEBRÁNE, Á TERAZ NOWO WYDÁNE, Y NÁ CENTURIY
OŚMNAŚCIE ROZŁOŻONE.
NAKŁADEM IÁKUBÁ WIROWSKIEGO
BIBLIOPOLE LUBELSKIEGO.
ROKU PÁŃSKIEGO, 1629.
Tom II. 13

**Мал. 14.** Тытул другога выдання зборніка прыказак і прымавак Саламона Рысінскага

Кажучы пра мову першага, любчанскага, выдання, згаданы вышэй Казімір Вуйціцкі даводзіць: “Рысінскі не толькі як першапраходца, але і як захавальнік найважнейшых моўных асаблівасцей мусіць быць <…> высока ацэнены, бо яго мова – гэта мова старажытная, прадзедаўская, выразная, кунтушовая, споўненая жыцця, перасыпаная вобразамі мінуўшчыны. Прыказкі Рысінскага – гэта збор нашых іерогліфаў, не дужа цяжкіх для даследавання і чытання; у іх некалькі сакавітых, грубаватых нават слоў яскрава адлюстроўваюць “жалезнае” жыццё рыцарскага XV ст.” [66, с.4].

Вялікая частка гэтых кампліментаў, без сумненняў, належыць выдаўцу, а таксама першаму рэдактару, які пастараўся данесці да чытача славянскі дух сентэнцый

Рысінскага, не выкрэсліваў тыя беларусізмы, якія К.Вуйціцкі памылкова залічыў у разрад архаізмаў, а таксама дапасаваў да “грубай” лексікі літвінскай шляхты.

Падкрэслім: С.Рысінскі імкнуўся перадаць моўныя асаблівасці сабраных выслоўяў, запісваў іх так, як яны гучалі на жывой “сармацкай мове” XV ст. Кміта і Віроўскі, выданне якога мы тут цытуем, максімальна захавалі арыгінальны тэкст. У адваротным выпадку, і арфаграфія, і лексіка былі б іншымі. Хутчэй за ўсё, С.Рысінскі падарожнічаў па розных рэгіёнах Княства, адсюль – розніца ў лексіцы запісаных ім прыказак. Ёсць выслоўі, якія амаль без змяненняў захаваліся ў сучаснай беларускай мове, а ёсць тыя, якія патрабуюць перакладу.

Наўрад ці С.Рысінскі выпадкова апынуўся ў пратэстанцкай афіцыне Кміты. Згадаем, з якой пільнасцю біскупы прыглядаліся да кожнага выдання на народнай мове. Хутчэй за ўсё, аўтар зборніка прыказак хаваўся ад іх пільнага вока, выбіраючы тую друкарню, якая б, па-першае, знаходзілася ў правінцыі; па-другое, апекавалася моцным магнатам. Любча ідэальна адпавядала гэтым патрабаванням.

Адзначым таксама тое, што ў Рысінскага быў своеасаблівы канкурэнт – езуіт Грыгоры Кнапскі (Grzegórz Knapski), які ўсяго праз 50 год пасля любчанскага выдання падрыхтаваў вялізны зборнік прымавак. Г.Кнапскі, па словах К.Вуйціцкага, “<…> бавіў жыццё сярод кніжак у манаскай келлі з заплеснявелымі сценамі”. Езуіт шукаў адпаведнікі беларускім і польскім прыказкам у лацінскай мове, часта змяняў славянскія ідыёмы, прыстасоўваў іх да класічных узораў. “Дзякуючы” такому падыходу, не толькі губляўся каларыт прыказкі, але і страчваўся яе першапачатковы сэнс [66].

Будучы празмерна сціплым і далікатным чалавекам, езуіт, заўважае пра яго Фелікс Бенткоўскі, “<…> пасаромеўся змяшчаць грубыя, часам вульгарныя, народныя выслоўі, якія рэзалі вуха адукаванаму чалавеку” [28]. Акрамя таго, манах выпускаў з-пад увагі тыя прыказкі, якія не мог патлумачыць. “Калі б не Рысінскі, засталіся б мы без цэлага моўнага пласту”, – рэзюміруе гэтыя назіранні К.Вуйціцкі.

Якіх жа прыказак саромеўся надта далікатны езуіт? Прывядзём некалькі прыкладаў сакавітых выслоўяў з кнігі С.Рысінскага:

Bogu służ, á Diabłá nie gnieway.
Co Diabeł zgubi, to my znaydźiem.
Gdźie Diábeł nie może, tám Bábę pośle.
Gdźie Pan Bog kośćioł buduie, tám diabeł káplicę stáwi.
Każdy powinien przed ożenieniem, trzy latá száleć

Kiedyby Opát kostek przy sobie nie nośił, tedeby Mniszy w nie nie gráli[10].

У прыведзеных прыкладах заўважаецца пэўны антыклерыкалізм Рысінскага. Можна адзначыць і ўласцівае для беларускіх казак іранічнае стаўленне да традацыйных жыхароў хрысціянскага Космасу. Д'ябал у прыказках – штукар, прайдзісвет, але ніяк не магутная хтанічная моц (як, напрыклад, у "Адкрыцці" Яна Багаслова), жанчына / "баба" – яго спадручная, манах – выпівоха і гультай. Відавочна, такія падыходы не ўкладаліся ў езуіцкую дактрыну Дабра і Зла.

У зборніку С.Рысінскага часам сустракаюцца словы, якія ўжо ў другой палове XVII ст. ўспрымаліся як прастамоўныя. Аднак у 80-я гг. XV ст. яны такімі не лічыліся і, адпаведна, не патрабавалі ад рэдактара асаблівай пільнасці. Напрыклад, слова "chłop" азначала мужчыну наогул – селяніна, шляхціца – і не мела сацыяльнага адцення. Гэтак жа сама ў часы С.Рысінскага нельга было пакрыўдзіць маладую паненку словамі "dziewka, białogłowa". Не лічылася абразай і наступнае выслоўе: "Ani na wsi, ani w mieście nie trzeba wierzyć niewieście".

Ёсць, праўда, асобныя выслоўі, змест якіх цяжка заразумець без дадатковага вывучэння гісторыі і культуры краю. Напрыклад: што азначае выраз "пабываў на нямецкім казанні"? Або, чаму Ева спакушала Адама менавіта па-чэшску?

Do Kośćiołá kiédy chcesz, á ná Ratusz muśisz.
Diabeł Ewę po Włosku zwodźił, Ewá Adámá po Czesku.
Bog ich po Niemiecku gromił, Anioł záś po Węgiersku z Ráiu wygnał.
Jnszy Krol, á insza Páni Báránowska.
Jákoby ná Niemieckim kazániu był.
Koń Turek, chłop Mázurek, czapká magierká, száblá Węgierká.

Прывядзём некалькі выслоўяў, якія сёння шырока ўжываюцца беларусамі і не патрабуюць перакладу:

Boiąc się Wilká do lásá nie iść.
By muchy ná miod.
By koń o swey śile wiedźiał, żadenby ná nim nie śiedźiał.
Co kray, to obyczay.
Co ná sercu u trzeźwego, to ná ięzyku u piiánego.
Czego oko nie widźi, tego sercu nie żal.
Do czásu dzbánek wodę nośi.
Dárowánemu koniowi nit pátrzą w zęby.
Day Boże w dobry czás mowić, á we zły milczeć.
Dom nie Záiąc, nie ućiecze.

[10] Тут і далей захоўваецца арфаграфія арыгіналу.

Gość w dom, Bog w dom.
Jaki Pan, táki kram.
J wilk syt, y owce cáłe.

Аналізуючы змест зборніка С.Рысінскага, А.М.Пяткевіч называе дакладную лічбу змешчаных у любчанскім выданні народных прыказак, фразеалагізмаў, трапных выказванняў – 1800. Збіраўся гэты матэрыял каля 30 год (з 1580-х гг.). "Прыказкі суправаджаюцца шматлікімі варыянтамі, паэтычнымі аналогіямі да арыгінала, якія Рысінскі бярэ з розных літаратурных крыніц, выкарыстоўваючы тэксты такіх аўтараў, як Арыстоцель, Эўрыпід, Дэмасфен, Плаўт, Вергілій, Авідзій, Эзоп і інш." [66, с.22].

Прыклады лацінскіх варыянтаў "сармацкіх" фразеалагізмаў, якія падаюцца ў кнізе С.Рысінскага:

| | |
|---|---|
| Jednemu się Pop podoba, á drugiemu Popádya. | Scilicet arrident hac tibi, at illa mihi. *Gallimachus.* |
| Jeden Krowę zá rogi trzyma, á drugi ią doi. | Alter habet titulum, alter habet vitulum. |
| Kruk krukowi nigdy oká nie wykluie. | Dat veniam corvis, vexat censura columbas. *Iuvenalis.* |
| Klin klinem wybić. | Malus nodus, malo cuneo pellendus |
| Kiedy się stáry z młodą ożeni, tedy właśnie, iákoby w stáry woz szalone konie záłożył | Qui vult honestè occidere senem, det illi uxorem pulchram & juvenem. |

Саламон Рысінскі выдаў у Любчы яшчэ дзве кнігі – "Некаторыя псалмы Давідавы" (1614 г.), а таксама "Помнікі, пастаўленыя розным асобам" (1615 г.). Апроч прац С.Рысінскага, з "афіцыны Пятра Бластуса Кміты" выйшлі наступныя выданні [20]:

4. Excytarz, або Перасцярога і пабудка тым, хто шмат на словах і ў думках робіць, а рукамі насамрэч рабіць не жадае. Праз Юзафа Даманеўскага (Józefa Domaniewskiego); у Любчы, у друкарні Пятра Бластуса Кміты, 1623.
5. Colloquium jucundum, альбо Казанне над целам Анджэя фон Эмбдэн купца віленскага; у Любчы, 1628.
6. Шэсць крылаў серафімавых, г.зн. шэсць цнот. На польскую мову перакладзена ксяндзом Раховічам (Rochowicz); у Любчы, у друкарні Пятра Бластуса Кміты, року панскага 1612, 1 кастрычніка.
7. Прыгоды і справы людзей усялякага стану, з якіх перасцярогам кожны навучыцца можа і, чытаючы іх, іншых пасмяшыць можа, зараз нанова па-польску напісаныя і выдадзеныя праз Адама Уладзіславуша (Adam Władysławiusz). Року 1615, у Любчы.

Як адзначае А.М. Пяткевіч, “Любчанская друкарня ў часы, калі ёю кіраваў П.Кміта, заставалася надзейнай і, па сутнасці, адзінай апорай пратэстантызму ў Вялікім Княстве Літоўскім. Вядома, яе дзейнасць ідэйна падтрымлівалі і нават фінансавалі магутныя Радзівілы і іншыя мецэнаты, але роля П.Кміты застаецца вельмі значнай. Як сведчыць выдавецкі рэпертуар, П. Кміта праяўляў сапраўдную грамадзянскую незалежнасць і мужнасць, ведучы друкарню па абраным шляху. Ён выпусціў 47 друкаў, выкананых на высокім для таго часу тэхнічным узроўні.

У Любчанскай друкарні былі падрыхтаваныя таксама кнігі для практычнага ўжытку – такія, як “Аб тым, як выбіраць і вучыць коней…” (1617). І.Лялевель знайшоў падобную кнігу ў Пулавах. На тытуле пазаначана: “Lekarstwa konskie doskonáłe doswiadczone od wielu stalmistrzow, ktemu nowo przydano, iáko koń ma być sprawion ku záwodu, y innych wiele rzeczy nowych i spráwnych przydano ktemu”. На другой старонцы напісана: “Nauká iáko ma być poznan dobry koń”. Унізе яшчэ адзін надпіс: “O sierśći y cudności końia dobrego”. На тытуле таксма можна ўбачыць дрэварыт – вершніка на кані. На жаль, ні год выдання, ні месца не пазначаны. Цяжка сказаць, ці з’яўляецца гэта кніга плёнам працы менавіта Пятра Кміты, аднак асаблівасці арфаграфіі, лексікі дазваляюць дапасаваць “Lekarstwa konskie…” да перыяду дзейнасці любчанскага друкарскага двору [34, с.159].

У гэтым “пулаўскім” выданні замест прадмовы – некалькі вершаў, што вельмі падобна да выдавецкага пачарку Пятра Кміты. Працытуем некалькі радкоў з захаваннем арфаграфіі і лексікі арыгінала:

Koń biały wrony y rydzy wssytek
Táki bywá dobry robotniczek.
Albo ktory iábłkowity biáláwy.
Biálo srokáty czarno pięgouáty.
Aczkolwiek niećierpliwy ku wsiadániu
Ale duży bywa ku ieżdzeniu.
Ktory koń twárdą grzywe miewa
A wąski pod ogonem bywá.
Taki się rychlo popráwy rad.
By też nabárźiey w robośie spadł.
Ktory wesole oczy á ostre miewa
Táki barzo czerstwy i gotowy bywá [34, с.161].

Калі памёр П. Кміта, не вядома. Апошні раз ён пакінуў сваё прозвішча на кнізе 1629 г. З 1632 года любчанскую прадукцыю падпісвае ўжо яго сын Ян Кміта. У каталозе Еж.Бандке мы знаходзім наступныя выданні, падпісаныя Янам:

1. Дзве кветкі на пахаванні Кацярыны Энгельбрэхтавай Вільгельма Энгельбрэхта купца віленскага дачкі. Надрукавана ў Любчы, року панскага 1633. У друкарні Яна Кміты.

2. Карона на шчаслівую каранацыю Найяснейшага Уладзіслава IV, караля польскага ў Вільні ў касцёле выстаўленая. У Любчы, у друкарні Яна Кміты, року панскага 1633.

3. Дарога для ўсіх, або Казанне на вынас цела Крыштофа Радзівіла Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага Княства Літоўскага праз ксяндза Самуэля Мінвіда суперінтэнданта збораў евангельскіх завілейскіх, пастэра збору біржанскага; у Любчы, у друкарні Яна Кміты, 1641.

Звернем увагу на тое, што Ян Кміта прыкметна змяніў палітыку выдавецтва. Друкарскія варштаты Любчы ў асноўным выпускалі ў свет казанні і літургічныя творы. "Вядома, друкарня старалася бараніць інтарэсы пратэстантызму, але рабіла гэта досыць памяркоўна" [14, с.23]. Цікава тое, што ў Любчы аб'ядналіся як кальвінсіты, так і лютэране. Напрыклад, у афіцыне Яна Кміты выдаюцца віленскія кальвіністы Г.Сестранцэвіч, С.Тамашэўскі, Я.Астроўскі. Шырока выдаецца казнадзей віленскага лютэранскага збору А.Шафлінскі.

Наступнікам Пятра і Яна Кмітаў быў Ян Ланг Лютэранін (Jan Lange Luteranin). За яго подпісам выходзяць кнігі да 1655 г. У 1655 г. любчанскую друкарню знёс спачатку шведскі, а потым і маскоўскі патоп. **Выданне Яна Лютэраніна:**

Мацея Гласкоўскага (Macieia Głoskowskiego) Гадзіннік, альбо напамін пра горкую пакуту і смерць збаўцы нашага Езуса Пана на 24 гадзіны раздзелены. Року панскага 1653. Месца друку не ўказана.

**Праваслаўныя друкарні.** Сярод праваслаўных друкарняў Вялікага Княства Літоўскага варта згадаць найперш **Куцеінскую друкарню**, якая знаходзілася ў мужчынскім манастыры Богаяўлення (быў заснаваны мсціслаўскім падкаморым Багданам Сцяцкевічам недалёка ад Оршы, у месцы, дзе рачушка Куцеінка ўпадае ў Дняпро). Манастыр быў заснаваны ў 1623 г., а друкарня пачала працаваць у 1630 г. Тады ў якасці друкара ў манастыр быў запрошаны магілёвец Спірыдон Собаль. Зараз вядомыя 4 куцеінскія выданні Собаля:

"Букварь сіреч начало ученія…" (1631 г.);
"Малітвы штодзённыя" (1631 г.);
"Часаслоў" (1632 г.);
"Апостал" (1632 г.) [7].

Пасля таго, як па невядомых прычынах С.Собаль пакінуў Куцейна і пераехаў у Буйнічы (зараз прыгарад Магілёва), друкарня ў перыяд з 1636 – 1654 гг. выдала яшчэ 14 кніг: "Псалтыр" (1642 г.), "Актоіх" (1646 г.) і інш. Адной з самых адметных куцеінскіх кніг, паводле М.Нікалаева, з'яўляецца "Гісторыя Варлаама і Іасафа" (1637 г.). На "простую рускую мову" пераклаў гэты твор намеснік брацкага манастыра ў Магілёве Іасаф Палоўка. У прысвячэнні, якое пачынае кнігу, перакладчык згадвае шматлікія прыцясненні "праваслаўнай

царквы ў “Беларускім краі” [7, с.226]. Гэта ці не першае згадванне тэрміна “Беларусь” у кірылічнай надрукаванай кнізе. У 1646 г. друкарня выдае “Актоіх” з дрэварытам Іаана Дамаскіна. Загаловак гэтай кнігі быў такі:

“Октоихъ, сирѣчъ Осмогласникъ воскресный, твореніе препод. отца Іоанна Дамаскина и прочіихъ богодухновенныхъ Отецъ святыхъ. Прежде въ Острозѣ и въ Кіевѣ, нынѣ же з типографіи монастыря общежителнаго Кутеинскаго, изобразися, року 1646.” [13, с.113].

У 1652 г. выйшла кніга, якая называлася “Новы Запавет госпада нашага Ісуса Хрыста ў ім жа і Псалтыр”. Кніга мела дзве рэдакцыі. У першай (632 лісты; ёсць дрэварыты з выявамі цара Давыда і евангелістаў) – размешчана прысвячэнне епіскапу Іосіфу Гарбацкаму разам з гербам Гарбацкіх і 8 вершамі. Прадмову да выдання напісаў ігумен Куцеінскага манастыра Іаіль Труцэвіч. Цалкам выданне называлася так:

“Новый Завѣтъ господа нашего Іс. Христа, въ немъ же и Псалтыръ. Всесилнаго Бога благодатію, благословеніемъ же святѣйшаго вселенскаго патріарха Константынополскаго і боголюбиваго Іосифа Горбацкого, епископа православнаго Витепского, Мстисловского, Оршанского и Могилевского, въ монастыру Кутеинскомъ общежителномъ, въ ползу христіаномъ ново издася: въ лѣто отъ воплощенія Бога Слова 1652 мѣс. августа 5 дня” [13, с.139].

Другая рэдакцыя “Новага Запавету” мела прысвячэнне пану на Любавічах і Баркалабаве Міхалу Сцяцкевічу (з гербам Сцяцкевіча на адвароце прысвячэння). У 1653 г. з друкарні манастыра выходзіць “Дідаскаліа, альбо наука, “<…> которая ся первѣи изъ устъ священникомъ подавала, о седми сакраментахъ, албо ли тайнахъ, на сынодѣ помѣстномъ въ богоспасаемомъ градѣ Могилевѣ, року Божего 1637 мѣс. октов. 18 дня, отправованымъ отъ превелебнаго его милости господина отца Сулвестра Косова…”. Адным з апошніх выданняў Куцеінскай друкарні з’яўляецца “Букварь языка славеньска” з дрэварытам Грыгорыя Багаслова. У 1654 г. Куцеінскі манастыр захапіў маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч Цішайшы, які загадаў перавезці манахаў разам з друкарскім варштатам у Іверскі манастыр на Валдаі. Цікава, што цар забараніў выдаваць куцеінскія недадрукаваныя паасобнікі Псалтыра, бо “те псалтыри неисправны”.

Друкарня Дзерманскага кляштара на Валыні, закладзеная Кіеўскім ваяводам Канстанцінам Астрожскім. Звязана перадусім з асобай Мялеція Сматрыцкага. Згадаем наступныя кнігі гэтай друкарні:

1. Ліст патрыярха Мялеція да Іпацея Пацея, 1605;
2. Apologia Peregrinatiey do kraiów wschodnich, przez mię Melecyusza Smotryckiego, Medycyny Doktora, Archiepiskopa Połockiego, Episkopa Witebskiego y Mścisławskiego, Archimandrytę Wileńskiego y Dermańskiego roku Pańskiego 1623 y 24 obchodzoney, przez fałszywą Bracią słownie y na piśmie apetwarzoney, do

przezacnego Narodu Ruskiego oboiego stanu Duchownego y Swieckiego sporządzona y podana Anno 1628 Augusti 25 w Monasterze Dermańskim. Cum licentia Superiorum. We Lwowie w Druk. Jana Szeligi J.M.X. Arcybiskupa Lwowskiego.

**Гродзенская друкарня.** "Пасля смерці Ст.Баторыя ў 1586 г. падскарбі літоўскі Антоні Тызенгаўз альбо залажыў тут друкарню пры езуіцкім кляштары, альбо яе значна паправіў" [20, с.113]. С.Бандке адносна гродзенскай друкарні заўважае: "Апроч Календара і соймавых дакументаў, хутчэй за ўсё, там нічога не друкавалася" [20, с.114]. Бандке згадвае гарадзенскія кнігі, якія адносяцца ў асноўным да другой паловы XVIII ст. Апроч соймавых канстытуцый (1764 – 1780 гг.), ён прыводзіць наступныя выданні:

1. Збор кароткі гісторыі Егіпецкай і Карфагенскай праз Гераніма Барэцкага, у Гродне, у Др. Яго Каралеўскай Міласці, 1776.
2. "Гісторыя ваенная, якая каротка адлюстроўвае вайну прускую, меўшую пачацца ў року 1741, а завершыцца ў 1748; цягнулася вайна 7 год паміж Аўстрыяй, Англіяй, Галандыяй, Сардыніяй і Расіяй, з аднаго боку, і Францыяй, Іспаніяй, Баварыяй, Сіцыліяй і Прусамі з другога…". Гродна, 1779, друкарня ЯКМ.

На сённяшні дзень не высветлена дакладна, ці сапраўды існавала ў канцы XVI ст. друкарня гродзенскага праваслаўнага брацтва. А.М. Пяткевіч выказвае, на наш погляд, абгрунтаваны навуковы песімізм: "Праваслаўныя брацтвы, якія ўзніклі ў Гродне і Гальшанах (больш у рэгіёне такіх арганізацый не было) у 1591 – 1594 гадах, былі вельмі слабыя і хутка, відаць, спынілі сваё існаванне. Натуральна, што слядоў сваёй дзейнасці на ніве кнігадруку яны не пакінулі" [14, с.14].

**Львоўская руская друкарня**. Аднавіў яе дзейнасць у 1573 г. Іван Фёдаравіч Масквіцін (Іван Фёдараў). С.Бандке згадвае пра надмагільны камень у львоўскай царкве Св. Ануфрыя, на якім адбітыя наступныя кірылічныя словы: спачатку грэчаскія літараты "I". "Th." (Joannes Theodori), затым напалову сцёрты надпіс: "друкар Москвитин, который своим тщанием друкование занедбалое одновил, представился во Львове року 1583 декабря. Далей – яшчэ адзін надпіс на кірыліцы: "Успокоение воскресения из мёртвых чаю. Друкар книг предтым невыданых" [20, с.382].

На Кіеўскім саборы ў 1640 г мітрапаліт пад пагрозай праклёну забараніў купляць кнігі, у тым ліку Евангеллі, Служэбнікі, якія выходзілі з друкарні львоўскага брацтва Унебаўзяцця Панны Марыі, бо яны былі надрукаваныя не па яго замове. Значыць, у львоўскіх братчыкаў былі канкурэнты. Гэтай жа думкі прытрымліваецца ксёндз-базыльянін Грынявецкі (Hryniewiecki). У лісце да Асалінскага (Вена, 1813 г.) ён змяшчае наступныя меркаванні:

"<…> пэўны Божыдар (Bożedar) з Падгарыча (Podhoryczanin) у року 1554, зямляк наш (з Чырвонай Русі[11]), загадаў Малітоўнік славянскі выбіць кірыліцай у Венецыі, карэктарам выдання меўся быць іераманах Пахом (чарнагорац). І

[11] На самой справе з Чарнагорыі.

знаходзіцца той Малітоўнік у Св. Юрыя у Львове, з чаго можна зрабіць выснову, што да 1554 г. у Львове друкарні рускай не было, але і тое няпэўна, бо кракаўскія малітоўнікі таксама выходзілі ў Венецыі, хоць друкарні ў гэтым горадзе былі ўжо даўно. Іераманах Гарадэцкі (Horodecki) паломнік ерусалімскі, тыпограф, знаходзіўся пры кляштары Св. Юрыя ў року 1700. І той кляштар прадаў тыпаграфію сваю ў року 1707 за 2000 злотых брацтву Св. Крыжа пры Царкве Унебаўзяцця Панны Марыі, дзе ўжо здаўна была друкарня, з якой выйшаў Псалтыр 1688 г. Друкавалі таксама і пры манастыры Св. Ануфрыя ў Львове славянскія кніжкі, напрыклад, "Іаана Златавуста пра святарства" ў 1614 г. Друкаваў таксама і Міхал Шлёска (Michał Szloska) шматлікія славянскія кніжкі. Па гэтай прычыне была ў XVII ст. не адзіная брацкая друкарня ў Львове, якая выдавала рускія кніжкі, але было іх некалькі" [20, с.388].

**Друкарня кармелітаў у Бялынічах.** Існавала пры манастыры хутчэй за ўсё з 1653 г. Першая кніга, пра якую згадвае Ю.Бэндке, мела наступную назву:

Xiężyc świadek wierny na Niebie, ludzkiey na świecie prożności / "Месяц – сведка верны на Небе чалавечага на свеце гультайства".

Кніга прысвечана "светлай памяці годнага яснавяльможнага Яго Міласці пана Адама Гераніма з Гранова Сеняўскага графа на Шклове і Мышы, пісара польнага кароннага, львоўскага старасты etc. У выходных дадзеных таксама пазначана: змест кнігі спачатку быў агучаны на казанні ў Касцёле айцоў дамініканаў у Шклове "року панскага 1653, 18 студзеня", а да друку пададзены ў Бялынічах у друкарню айцоў кармелітаў, фундаваную яснавяльможным яго міласцю Казімірам Леанам Сапегам, падканцлерам Вялікага Княства Літоўскага. Ёсць у працы С.Бэндкэ згадка яшчэ пра адно бялыніцкае выданне:

"Казанне, прысвечанае яснавяльможнай пані, яе міласці пані Тэадоры графіні на Тарнове Тарноўскай, Казіміравай Леанавай Сапегавай падканцлеравай Вялікага Княства Літоўскага, Старасціны Аршанскай etc., меўшае адбыцца ў касцёле айцоў кармелітаў у Бялынічах праз айца Яна Хрызастома Глінскага магістра тэалогіі, камісара канвентаў беларускіх таго ж закона 22 лістапада 1652 г. На жаль, апроч тытула, ніякай іншай інфармацыі пра гэтыя выданні ў нас няма.

## §4. Асаблівасці друкаваных выданняў мяжы XVI – XVII ст.

4.1. Праблема аўтарства;
4.2. Афармленне кніжных загалоўкаў на мяжы XVI – XVII ст.;
4.3. Сільвестр Косаў: “мова веру не сапсуе”.

**Праблема аўтарства.** Аўтарства многіх выданняў мяжы XVI – XVII ст. схавана за псеўданімамі і анаграмамі. Так, у 1590 г. Себасцьян Кляновіч (Sebastyan Klonowicz) выдаў лацінамоўную кнігу, скіраваную супраць езуітаў – “Equitis Poloni in Jesuitas actio prima” пад псеўданімам “Польскі шляхціц”. За анаграмай “Sanis recta salus” хаваецца Станіслаў Рэшка, аўтар кракаўскага лацінамоўнага выдання (contra Кляновіч) “Spongia qua absterguntur convitia et maledicta…” (1590 г.). Нехта “Віленскі месціч” каля 1603 г. напісаў “actio secunda contra Jesuitas” – ліст да сенатараў Рэчы Паспалітай, у якім даводзіў, што “езуіты кіруюцца не інтарэсамі Каралеўства і Княства, а праводзяць палітыку іспанскага двара”: “Памятайце, сенатары, што наша Айчына з езуітамі і для езуітаў доўга існаваць не можа”. Асабліва шмат ананімных выданняў выходзіла пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. Адзін за адным у гісторыю кнігавыдання ўваходзілі псеўданімы: Клірык Астрожскі, Філалет, Арталог, Зізаній, Якуб Пшаніца і інш.

У некаторых кірылічных выданнях можна ўбачыць прыклад характэрнага для Сярэднявечча імкнення аўтара прынізіць сваю “сціплую” асобу: “убогі мніх”, “многогрешный мніх” (“Правільная сінтагма”), “Ян мніх светагорскі”, “чернецы монастыря Св. Духа” і нш. Такая самапрэзентацыя “рускіх аўтараў” сведчыць аб захаванні на пачатку XVII ст. традыцый кірылічнай рукапіснай кнігі. У “Мінеі месячнай” XV ст. (кніга належала Жыровіцкаму кляштару), напрыклад, можна знайсці наступную прыпіску, датуемую 1626 г.: “Роукою *многогрешнаго и гроубаго* діака Сенка родом Смолнянина от отца именем Іакуба” [14, с.7].

Часта нават падкрэслівалася другаснасць аўтара, які ўсяго толькі выконвае волю брацтва, усходняй царквы, рэлігійнага ордэна. Так было, напрыклад, у наступным выданні: “Унія, альбо Выклад артыкулаў, аб’яднанню Грэкаў з Касцёлам Рымскім прысвечаных” (Вільня, у Мамонічаў, 1595 г.). М.Сматрыцкі ў падзагалоўку кнігі 1621 г. выдання “Verificatia niewinności” (“Апраўданне нявіннасці”) не забыўся заўважыць: “Пад міласцівай Боскай і Бацькоўскай найвышэйшай і першай, паводле Господа Бога, народа таго (рускага – В.Е.) зацнага Апекай”.

Некаторыя аўтары-палемісты канца XVI ст. указваюць на псеўданімы апанентаў. У назве кнігі віленскага езуіта Шчэснага Жэброўскага (Żebrowski Szczęsny) “Кукаль, які расьсявае Стэфанэк Зізаній у царквах рускіх у Вільні” (Вільня, 1595 г.) не толькі згадваецца, але і праз пераклад абыгрываецца псеўданім праваслаўнага прапаведніка Стафана Іванавіча Тустаноўскага. Нагадаем, што з грэчаскай мовы “Зізаній” – гэта “кукаль” (пустазелле на хлебным полі). Апаненты Ст. Зізанія выбіралі нават псеўданімы, якія непасрэдна ўказвалі на нязгоду з пазіцыяй праваслаўнага палеміста.

***Za pozwoleniem cenzury rządowéj.***

Pozwolono drukować z obowiązkiem złożenia w Komitecie Cenzury prawem oznaczonéj liczby exemplarzy. Wilno d. 23 maja 1858 roku.

*Cenzor*, PAWEŁ KUKOLNIK.

**Wolno drukować, z warunkiem złożenia w Komitecie Cenzury po wydrukowaniu prawem przepisanéj liczby egzemplarzy.**

***Warszawa, dnia* 1 (13) *Kwietnia* 1848 *roku.***

**Starszy Cenzor, TRIPPLIN.**

**Дозволено Цензурою.**

***Варшава, Января 10 дня 1871 г.***

**Dozwala się drukować dzieło pod tytułem: Bibliograficznych Ksiąg dwoie, iednakże zachowuiąc ten warunek, aby po wydrukowaniu nie pierwey wydawać zaczęto, aż będą złożone w Komitecie Cenzury exemplarze xiążki tey: ieden dla tegoż Komitetu, dwa dla Departamentu Ministerium Oświecenia, dwa exemplarze dla IMPERATORSKIEY publiczney Biblioteki, ieden dla IMPERATORSKIEY Akademii nauk i ieden dla IMPERATORSKIEGO Uniwersytetu w Abo. Wilno dnia 19 Lutego 1823 roku.**

***IGNACY RESZKA* Radzca St. i Kom. Cenz. Czł.**

**Дозволено цензурою. 27 января 1869 г. Вильно.**

**Мал.15.** Цэнзарскія пазнакі з кніг XIX стагоддзя

Так, у выданні “Плевелы Стэфанэка Зізанія, ерэтыка” (Вільня, 1596) існавала красамоўная прыпіска ананімнага аўтара: “Якуб Пшаніца да Стэфанэка Зізанія”. Устанаўленне аўтарства асобных кніг адразу ж пасля іх выдання станавілася прадметам вострай палемікі. Так, пасля выхаду “Апакрысіса” Хрыстафора Філалета (Вільня, 1597) аўтарства кнігі езуіты прыпісалі М.Сматрыцкаму. Апошні мусіў дыстанцыравацца ад выдання, пераканаўча давёўшы ў “Апалогіі” тое, што за маскай Філалета хаваецца пэўны арыянін. Дыстанцыраванне гэта не было выпадковым, бо аўтарствам “ушчыплівага скрыпту” зацікавіўся канцлер каронны Замойскі, які запатрабаваў не толькі знайсці “нахабнага ерэтыка”, але і пакараць яго.

**Афармленне кніжных загалоўкаў на мяжы XVI – XVII ст.** Большасць кніжных загалоўкаў нагадваюць разгорнутую анатацыю, якая дазваляла, з аднаго боку, атрымаць уяўленне пра тэму, кола запланаваных да разгляду праблем, нават пра аўтарскую пазіцыю; з другога боку, указвала на месца друку, што было вельмі важным для тагачаснага чытача. Згадаем выходныя дадзеныя “Апалогіі” Сматрыцкага:

**Apologia** Peregrinatiey do kraiów wschodnich, przez mię Melecyusza Smotryckiego, Medycyny Doktora, Archiepiskopa Połockiego, Episkopa Witebskiego y Mścisławskiego, Archimandrytę Wileńskiego y Dermańskiego roku Pańskiego 1623 y 24 obchodzoney, przez fałszywą Bracią słownie y na piśmie apetwarzoney, do przezacnego Narodu Ruskiego oboiego stanu Duchownego y Swieckiego sporządzona y podana Anno 1628 Augusti 25 w Monasterze Dermańskim. Cum licentia Superiorum. We Lwowie w Druk. Jana Szeligi J.M.X. Arcybiskupa Lwowskiego.

Акрамя назвы кнігі (“Apologia Peregrinatiey do kraiów wschodnich”), указваюцца імя аўтара, род яго заняткаў, сацыяльны статус (“медыцыны доктар, архіепіскап полацкі, епіскап віцебскі і мсціслаўскі, архімандрыт віленскі і дзерманскі). Пазначаны і адрасат кнігі: “да зацнага Народу Рускага абодвух станаў”. Ёсць і звычайныя бібліяграфічныя ўказанні: дата падання рукапісу ў друк, месца знаходжання і назва друкарні.

Звычайна на пачатку загалоўка палемічнага выдання ўказваліся назва і аўтарства кнігі-апанента. Так было, напрыклад, у палеміцы Сматрыцкага з езуітамі (П. Скарга). На “Лямант” П.Скарга адказаў наступным выданнем:

**П. Скарга:**
Na Treny i lament Theophila Orthologa do Rusi Greckiego Nabożeństwa przestroga (Кракаў, 1610).

Падобны від кніжных загалоўкаў – таксама ў наступных выданнях:
**П. Скарга:**
На артыкул пра Езуітаў канфедэрацыі Сандамірскай, прачытаны ў Вісліцы перад Каралём Яго Міласцю, а таксама перад сенатарамі, шляхтаю і рыцарствам, пасламі той канфедэрацыі, 13 дня верасня, года 1606. Адказ Кс. Пятра Скаргі,

агучаны на казанні там жа, у Вісліцы, перад тымі ж прысутнымі 17 дня таго ж месяца і таго ж года.

**Адрыян Юнг (Adryan Jung):**

Адказ на пяцьдзесят і два пытанні міністраў новаевангельскіх езуітам зададзеныя. Познань, 1593.

На пазнейшае выданне М.Сматрыцкага "Верыфікацыя нявіннасці" (на польскай мове: "Verificatia niewinności y omylnych po wszystkiej Litwie y Białey Rusi rozsianych, żywot y uczciwe cnego narodu Ruskiego upad przyprawić zrządzonych nowin") з'явіліся наступныя кнігі:

1. Proba weryfikacyey omylney y dowód swawoleństwa małosłychanego czernców y iednomyślnych Bractwa Wileńskiego, Chrześciańskiem Katolickiem uważaniem p. Tymoteusza Symonowicza Zakonnika ś. Bazylego D.E.W. napisana (1621).
2. Sowita Wina to iest odpis na Script, Maiestat Króla J. Mści, honor y reputatią Ludzi zacnych duchownych y świeckich obrażaiący, nazwany: Verificatia niewinności, wydany od Zgromadzenia nowey Cerkwie nazwaney Ś. Ducha, przez Oyce Monastera Wileńskiego Ś. Troycy, Zakonu Ś. Bazylego. W druk podany w Wilnie 1621.

Кніжную "перапалку" працягнула віленскае выданне "Абарона верыфікацыі", у назве якой згадваюцца ўсе кнігі, якія ўдзельнічалі ў ранейшай уніяцка-праваслаўнай палеміцы:

Obrona veryfikacyey od obrazy Maiestatu Kr. J. Mości czystej : honor y reputacyą ludzi zacnych Duchownych y świeckich zachowuiącey: przez skrypt *Sowita Wina* od Zgromadzenia Cerkwie Ś. Troyce wydany: o obrazę Maiestatu Króla J. M. Honoru y Reputacyey ludzi zacnych Duchownych y świetskich ponowioney. Wydana przez Zakonniki Monasteru Bractwa Wileńskiego Cerkwie Ś. Ducha w Wilnie 1621.

Аднак кропку у палеміцы 1621 г. паставіла не "Абарона верыфікацыі", выдадзеная, як мы бачым, праваслаўным віленскім брацтвам, а "Экзамен абароны". Пазначым выходныя дадзеныя гэтай уніяцкай кнігі:

Examen obrony, to jest odpis na skrypt Obrona veryfikacyi nazwany, w którym się Zgromadzenie Wileńskie Zeyścia Ś. Ducha iustifikuie, że niepopadło na *Sowitą Winę,* sobie zadaną od Zakonników Monasteru Wil. Ś. Troicy, 1621. (Лявон Мамоніч).

Звернем увагу на стылёвую экспрэсіўнасць асобных загалоўкаў. Ва ўніяцкіх выданнях можна сустрэць наступныя выслоўі: "ілжывы скрыпт", "нечуванае свавольства", "адступнікі". Прыблізна з 1620-х гг. у моду уваходзяць назвы кніг

на дзвюх (лаціна або грэчаская і польская, старабеларуская, царкоўнаславянская) мовах. Напрыклад, віленскія вадынні:

Missio Spiritus Sancti, або Казанне аб пасыланні Духа Святога, якое прамаўляў у дзень святочны (года 1635 мая 17 дня) у царкве брацкай Зыходжання Духа Святога вялебны айцец Самуэль Шыцік Залеўскі (Samuel Szycik Zalewski), з рускай мовы на польскую перакладзена, Вільня 1635.

**І.Марахоўскі:**

Paregoria albo utulenie uszczypliwego lamentu mniemaney cerkwie ś. wschodniej, zmyślonego Theophila Orthologa (Вільня, 1612, Лявон Мамоніч).

Усё часцей як праваслаўнымі, так і ўніятамі ужываюцца двайныя назвы кнігі:

**Леан Жавускі:**

Абарона еднасці царкоўнай, або Довады, якімі паказваю, што грэчаская царква з лацінскай павінна быць аб'яднаная. Вільня. Лявон Мамоніч, 1617 г.

**Ігнаці Кульчынскі:**

Menologium Bazyliańskie, або Жыціі святых Божых Бызыльянскага закону, на кожны дзень года размеркаваныя, 1771.

**Андрэй Музылоўскі (пратапоп слуцкій і копыльскі):**

Antidotum презацнаму народу Рускаму, або Скрыпт супраць Апалогіі атрутнай, якую выдаў Мялецій Сматрыцкій, няслушна Царкву Рускую праваслаўную папракаючы ў ерасі і расколе, 1629.

У праваслаўных выданнях часта можна сустрэць такое датаванне (кніга з Астрожскай друкарні): "*в лето од созданья міра 7106 а од по плоти рождества господа Бога и Спаса нашего Ис. Христа лета 1598, июня 11*". Ужо з 1620-х гг. падобныя прыклады з'яўляюцца рэдкасцю. Праваслаўныя брацтвы арыентуюцца на выданні сваіх апанентаў – езуітаў і базыльян. Адсюль і ўказанні года: "Anno 1621 і г.д.". Чым далей ад пачатку XVII ст., тым часцей кнігі, напісаныя на "рускай мове", спачатку выходзяць па-польску і толькі потым выдаюцца ў арыгінале. Напрыклад, у 1603 г. (Вільня) выйшла кніга Пятра Федаровіча, перакладзеная з "рускай" на польскую мову: "Obrona ś. Synodu Florenckiego powszechnego, dla prawowierney Rusi napisana przez Piotra Fiedorowicza". І толькі праз два гады ў Вільні з'явілася кірылічнае выданне. Паралельна на польскай і старабеларускай мовах выдаецца "Фрынас" іераманаха Маляція Сматрыцкага.

Прыблізна з 20-х гг. XVII ст. праваслаўныя выданні Княства ўсё часцей выходзяць на польскай мове. Пры гэтым даследчыкі адзначаюць выкшталцоную пальшчызну, напрыклад, у выданнях Сматрыцкага. Пераход ад мовы рускай да польскай, думаецца, не быў складаным, бо большасць праваслаўных аўтараў адукацыю набывала менавіта ў езуітаў (Сматрыцкі, С.Косаў, І.Пацей і інш.).

Нават у рукапісных кнігах, якія захоўваліся ў праваслаўных кляштарах, часта побач з кірылічнымі запісамі можна сустрэць запісы на польскай мове. Напрыклад, у Карэліцкім евангеллі "ў канцы 4-й часткі спачатку прыпісана: "Іоан Грыгоровіч Сажка Пресбитер церкви корелицкое рукою своею", далей ужо на польскай мове: "у годзе тысяча шэсцьсот сорак сёмым".

Аднак у кнігах уніятаў ці католікаў-неафітаў усё ж нярэдкія царкоўнаславянскія словы. Так, Тэадор Скуміновіч усяго праз 5 месяцаў пасля развітання з праваслаўем выдаў кнігу "Przyczyny porzucenia dyzuniey narodowi Ruskiemu podane" (Вільня, S.J., 1643). У ёй сустракаюцца такія словы, як "сэрцавідзец", "єдіноутробный" і г.д.

**Сільвестр Косаў: "мова веру не сапсуе".** Адзін з першых праваслаўных дзеячоў, які зразумеў важнасць еўрапейскай адукацыі для ўмацавання ўсходняй царквы. Зрабіўшыся архімандрытам Кіева-Пячорскай лаўры, не баяўся ўводзіць у працэс навучання брацкіх школ лаціну і польскую мову. У выданні 1635 г. "Exegesis, to jest danie sprawy o szkołach kijowskich i winnickich w których uczą zakonnicy Religiej Greckiej" (Кіеў), адзначаў: вучні кіеўскіх праваслаўных школ "адукоўваюцца на лаціне, чым рэлігію старажытную грэчаскую не абражаюць". С.Косаў надзвычай добра разумеў тагачасную палітычную і культурную сітуацыю: "У Польшчы лацінай прапітана ўсё. Калі небарака русін на сойме сутыкнецца з лацінай, то не зробіць і крока наперад". Прыблізна ў той самы час Ян Казімір Пашкевіч на гэты конт заўважаў: "Полска квитнеет лациною, // <…> Без той в Полсце не пребудешь". Калі лаціна ў Каралеўстве – гэта мова канцылярыі, то пальшчызна – мова трыбуналаў, судоў, соймікаў. Ігнараванне польскай мовы ва ўмовах XVII ст. – свядомая самаізаляцыя, дыстанцыраванне ад палітычнага жыцця краю. "Калі вера моцная, то адукацыя на чужой мове ёй не нашкодзіць" ("Exegesis"), – пісаў С.Косаў.

Гэтае сцвярджэнне аднаго з праваслаўных іерархаў Рэчы Паспалітай, паплечніка мітрапаліта П.Магілы, вельмі важнае для ўсведамлення тых пераўтварэнняў, якія адбываліся ў культурным (кнігавыдавецкім) жыцці краю. Дзеля таго, каб вярнуць "шляхту рускую ў грэчаскую веру", С.Косаў прапанаваў ёй добра апрацаваныя, інтэлектуальна насычаныя тэксты на той мове, якую яна лічыла для сябе зручнай. Падкрэслім, у 1630-я гг. вялося менавіта аб вяртанні ў праваслаўную цывілізацыю, бо праз адукацыю русіны ахвотна пераходзілі на поле польскай / каталіцкай культуры. Гэта адна з прычын, па якой М.Сматрыцкі ў "Фрынасе" да колішніх праваслаўных шляхціцаў звяртаўся перадусім на польскай мове. Аднак мова Я.Каханоўскага, пры ўсёй яе палітычнай і культурнай значнасці, для праваслаўных аўтараў была ўсяго толькі формай выкладу думак. З незвычайнай для сённяшніх пісьменнікаў лёгкасцю і М.Сматрыцкі, і С.Косаў пераходзілі з польскай мовы на царкоўнаславянскую.

У 1635 г. на польскай мове С.Косаў выдае "Cherubin przy akcie pogrzebnym <…> ojca Józepha Bobrykowecza", а потым "Echo zalu na glos lamentuęcego <…> Iózepha Bobrykowicza". Прыблізна ў той самы перыяд пісьменнік працуе над "Пацерыконам", які выдае на мове "славенскай" / царкоўнаславянскай.

Пацерыкон, або Жыціі святых айцоў пячэрскіх, падрабязна мовай славенскай святым Нестарам, манахам і летапісцам, складзены, зараз з грэчаскіх, лацінскіх, славянскіх і польскіх крыніц узяты і карацей выкладзены вялебным айцом Сільвестрам Косавым, епіскапам мсціслаўскім, аршанскім і магілёўскім (Кіеў, друкарня Пячорскай лаўры).

Як можна заключыць з назвы гэтай кнігі, яе аўтар выступіў у ролі перакладчыка-кампілятара (“*з грэчаскіх, лацінскіх, славянскіх і польскіх крыніц узяты*”) і рэдактара (“*карацей выкладзены*”) разнастайных гістарычных і літаратурных крыніц. “Дзеля таго, каб жыціі святых айцоў з парахнення ўзняць і на светло вынесці, з ахвотаю заглыбіўся я ў творы грэчаскіх, царкоўнаславянскіх, лацінскіх, рускіх і польскіх гісторыёграфаў; давялося мне хронікі і аналы іх перачытаць”, – паведамляе С.Косаў. Аўтар выдання адаптаваў змест Кіева-Пячорскага пацерыка, узгадняючы яго з той сітуацыяй, у якой знаходзілася тагачасная царква (маецца на ўвазе вострая канкурэнцыя з прадстаўнікамі іншых канфесій). Аўтар надаў тэксту стылёвую цэласнасць, ідучы ўслед за тагачаснай літаратурнай традыцыяй Рэчы Паспалітай (“Żywot świętych” П.Скаргі).

**Кіева-Пячэрскі пацярык –** помнік агіяграфічнай літаратуры. Зборнік апавяданняў, прысвечаных гісторыі заснавання Кіева-Пячэрскага манастыра (сярэдзіна XI ст.), а таксама жыццю і дзейнасці яго манахаў. Твор прайшоў праз шматлікія літаратурныя рэдакцыі. Першапачатковы тэкст паўстаў у 20-я гг. XIII ст. (не захаваўся), калі пачалі ліставанне ўладзіміра-суздальскі епіскап Сімон і пячэрскі інак Палікарп. Нагодай для ліставання было “нясціплае” памкненне інака да высокіх царкоўных пасадаў (“А ты, брат мой, ці не епіскапства пажадаў?”). У “Пасланні” да інака Сімон павучае яго, заклікае пакаіцца і “вярнуцца да ціхага і немітуслівага жыцця” ў “святым месцы”. Да “Паслання…” епіскап дадае 9 аповедаў аб жыцці пячэрскіх святых. Кожны з манахаў адлюстраваны як ідэальны хрысціянін, які ахвяраваў жыццё Богу і людзям. Апроч агіяграфічных тэкстаў, у К.-П.П. уваходзіць “Слова аб стварэнні Пячэрскай царквы”, напісанае таксама Сімонам. Складанне зборніка працягвае духоўны вучань епіскапа інак Палікарп. Ён піша “Пасланне ігумену Пячэрскага манастыра” і дадае апавяданні пра святых. Прыблізна ў XIII ст. да твораў, напісаных Сімонам і Палікарпам, было далучана “Слова пра першых чарнарызцаў пячэрскіх”, як лічыцца, запазычанае з “Аповесці мінулых гадоў”. Гэтыя тэксты складалі ядро К.-П.П., які ў пазнейшыя часы дапаўняўся іншымі тэкстамі адпаведнага жанру. К.-П.П. аказаў надзвычай вялікі ўплыў на развіццё агіяграфічнай літаратуры ўсходніх славян.

У “Пацерыку…” шырока выкарыстоўваюцца звесткі, пададзеныя польскімі аўтарамі (Скарга, Стрыйкоўскі, Длугаш), рускімі летапісцамі (“Аповесць мінулых часоў” і інш.). С.Косаў падаў аб’ектыўную гісторыю Кіеўскай мітраполіі, распавёў пра духоўную трываласць пячорскіх стоўпнікаў. Разам з тым, аўтар “Пяцерыкона” не пазбаўляўся ад звыклых уяўленняў (часам, стэрэатыпных), легенд. Так, гісторыю хрысціянства на Русі С.Косаў пачынае з

“місіі” апостала Андрэя, які “даплыў да Вялікага Ноўгарада і потым пачаў хрысціць славян над Дзвіной. Гэта, паводле аўтара, было першым хрышчэннем, другое ж адбылося ў 863 г., дзякуючы святым Кірылу і Мяфодзію. Важна тут падкрэсліць тое, што С.Косаў у пераважнай большасці выпадкаў спасылаецца на гістарычныя дакументы, аргументавана абвяргае езуітаў. Апошнія даводзілі тое, што хрысціянства прыйшло на тэрыторыю усходніх славян не з Візантыі, а з Захаду (з Рыму).

Польскі навуковец Антоні Марціноўскі ў сувязі з гэтым адзначае: “Дадзеная частка “Пацерыкона” палемізавала з тэкстам уніяцкага гісторыка Леана Крэўзы (Leona Kreuzy) “Пра еднасць касцёльную” (Вільня, 1617 г.). Уніят паставіў пад сумненне блізкія кантакты кіеўскай мітраполіі з патрыярхатам канстанцінопальскім у XI – XVI ст.”. Іншымі словамі, грэка-католікі абгрунтоўвалі свае прэтэнзіі на кіеўскую мітраполію. Гэта адна з прычын, па якой праца С.Косава, якая прэтэнзіі ўніятаў адпрэчвала, была надзённай і карыснай для праваслаўнай супольнасці Рэчы Паспалітай. Ежы Самуэль Бандке ў вядомым даследаванні “Гісторыя друкарняў у Каралеўстве Польскім і Вялікім Княстве Літоўскім” называе кіраўніка таго “друкарскага таварыства”, якое рыхтавала “Пацерыкон”. Бэў гэта нехта дзьякан Ісайя.

У другой палове XVII ст. С.Косаў, які ўжо быў епіскапам беларускім (Мсціслаўскім, Аршанскім, Віцебскім і Магілёўскім), выдае некалькі твораў на польскай мове, прысвечаных П.Магіле і канцлеру кароннаму Г.Радзіеўскаму. Аднак самым рэзанансным тэкстам з’яўляецца ўсё ж царкоўнаславянская “Дыдаскалія” (1637 г.), пададзеная ў форме катэхізісу – пытанняў і адказаў. С.Косаў выступіў тут і як складальнік, і як рэдактар, які мусіў адаптаваць праваслаўную тэалогію да рацыяналістычнага светапогляду людзей позняга Рэнесансу. Косаў тлумачыць асноўныя дагматы веры (існасць Бога, прырода Святой Троіцы, шанаванне абразоў і атрыбутаў веры), чым выклікае безліч абвінавачванняў з боку пратэстантаў, уніятаў і нават праваслаўных Масквы. Апошнія не разумелі таго, як з дапамогай разуму можна абгрунтоўваць пытанні веры. С.Косава называюць ерэтыком і ворагам, горшым за лацінян. Уніяты заўважаюць у “Катэхізісе” С.Косава памкненне да інтэлектуальнай спрэчкі, якая абавязкова пагоршыла б іх пазіцыі ў канкурэнтнай барацьбе за сэрцы “рускіх людзей грэчаскай веры”.

**Дідаскаліа**, альбо Наука, которая ся первей из уст священником подавала – о седми сакраментах алболи тайнах, на Сіноде поместном в Богоспасаемом граде Могилеве, року Божего 1637, месяца октобра 19 дня, отправованым от превелебнаго его милости господина отца Сільвестра Косова, на тот час епископа мстиславскаго, оршанскаго и могилевскаго, теперешнего милостью Божею митрополита киевского, галицкого и всея Россіи. Потом през того ж в друк подана. По-трете, в тіігографіи монастыра общежителнаго Кутеенского тіпом издася року 1653, месяца мая 30 дня.

Канфлікт з уніятамі, і ў прыватнасці з архіепіскапам полацкім А.Сялявам, быў асабліва вострым. У лісце да мсціслаўскага пісара ад 8 сакавіка 1636 г. С.Косаў паведамляе: “Прыехаў у Магілёў, тутэйшае духавенства абвесціла мяне сваім пастарам і паставілася да мяне з павагай – як да сапраўднага епіскапа і, згодна з канонамі святых айцоў, адпрэчыла ўнію”. У адказ Сялява дабіўся ад караля забароны на побыт Косава ў Віцебску і Мсціслаўлі. У 1645 г. С.Косаў падрыхтаваў “Катэхізіс” спачатку на польскай мове, а потым на “рускай”. У прадмове да выдання абвяргаў абвінавачванні праваслаўных у іх нелаяльнасці да караля. Даводзіў тое, што праваслаўныя нароўні з каталікамі ўдзельнічаюць у палітычным жыцці Рэчы Паспалітай. Гэта быў своеасаблівы сігнал рускім кніжнікам, якія, на думку С.Косава, павінны былі, не забываючыся на прыналежнасць да праваслаўнай цывілізацыі, усё ж нейкім чынам інтаграваца ў польскамоўную і лацінамоўную культуру шляхецкай рэспублікі .

## §5. Берасцейская царкоўная ўнія і кнігавыданне

5.1. Міжканфесійная барацьба на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага;
5.2. Палемічныя выданні першай чвэрці XVII ст.
5.3. “Апалогія” М.Сматрыцкага.

**Міжканфесійная барацьба на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага.** У першай чвэрці XVII ст. на кнігавыдавецкую і рэдактарскую справу надзвычай моцна ўплывае міжканфесійная барацьба. Кніга ўсё часцей робіцца сродкам прапаганды. Адна і тая ж падзея (Берасцейская царкоўная ўнія) праваслаўнымі, з аднаго боку, каталікамі і ўніятамі, з другога, адлюстроўваецца па-рознаму. Ініцыятары ўніі ў кнігах, якія выдаваліся езуітамі, падаваліся станоўча (напрыклад, згадкі пра Берасцейскі сінод П.Скаргі), а ў кнігах віленскіх братчыкаў – адмоўна. Быў салідарны з братчыкамі і аўтар Баркулабаўскай хронікі, які назваў аднаго з лідараў уніятаў Іпацея Пацея “адступнікам”. Летапісец палічыў унію “великим и немилостивым замешанием у вере от римлян на святую веру греческую”.

У “Казанні Святога Кірыла Патрыярха Ерусалімскага аб Антыхрысце і знаках яго… (Вільня. Ад стварэння свету 7104, а ад “воплощения господа нашего Ис. Христа 1596”) Стэфан Зізаній назваў аднаго з ініцыятараў уніі, Рымскага Папу, антыхрыстам. У адказ каталікі кнігу Зізанія публічна абвесцілі “зброяй ерэтыкоў”. Езуіты, практычна, правялі праўку-вычытку аргументаў

Зізанія, пакінуўшы забойчае рэзюмэ: Ён “з ерытычных цыдулак аргументы павыцягваў і за шчырую праўду, за слова Божае выдаў”.

Не менш жорсткім было рэзюмэ М.Сматрыцкага (“Апалогя”): “Зізанй – невук, які “ў памылках і ерасях сам заблытаўся і нас усіх заблытаў”. Паводле Сматрыцкага, Зізаній “не прызнае таго, што душы, якія з гэтага свету адляцелі, сапраўды патрапіць мусяць туды, дзе Ісус Хрыстос знаходзіцца. <…> Загадвае тым душам ляцець у нейкі зямны рай” [67, с.290]. Сматрыцкі шырока цытуе свайго апанента, выяўляе “ерасі” ў яго поглядах, пэўным чынам рэдагуе / “разблытвае” “надзвычай заблытаны” тэкст, супастаўляе аргументы Зізанія з аргументамі патрыстыкі і Святога пісьма.

Кніжная тэалагічная палеміка часта была толькі ўступам да працяглых судовых працэсаў, а нават – і ўзброенай барацьбы паміж уніятамі і праваслаўнымі. Так, у 1609 г. віленскія месцічы падалі ў суд на Іпацея Пацея, якога абвінавацілі ў жаданні “цэрквы аддаць езуітам”. Земскі віленскі суддзя Ян Осцік паспеў прыняць дэкрэт аб абароне праваслаўных і нават запатрабаваў выгнаць уніятаў з горада. Аднак Жыгімонт III даслаў у Вільню дваран, якім даручыў забраць праваслаўныя цэрквы і перадаць іх уніяцкаму мітрапаліту Пацею. У адказ на каралеўскі загад месцічы паспрабавалі забіць Пацея ў той момант, калі ён пераходзіў праз рынкавую плошчу. Спроба была няўдалай. “Іпацей Пацей у выніку замаху страціў два пальцы, але набыў дзве царквы”. Менавіта так сучаснікі пракаменціравалі гэта здарэнне.

Не менш драматычныя падзеі адбыліся ў Магілёве. Працытуем урывак з заявы старасты магілёўскага Льва Сапегі ад 22 мая 1621 г. (“Аб непадначаленні праваслаўных жыхароў Магілёва ўніяцкаму архіепіскапу Антонію Сяляве):

Яны (праваслаўныя магілёўцы), забыўшыся на абавязак і падданства сваё Яго Каралеўскай Мосці, пану нашаму міласліваму, супрацьдзейнічаюць волі і вяршынству айца вялебнага Антонія Сялявы, архіепіскапа Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага, пастара свайго, Яго Каралеўскай Мосцю прапанаванага і пастаўленага, паводле парадку царквы святой, <…>. Насуперак таму прызнаюць ілжэпастара Мялеція Сматрыцкага, чалавека простага, не шляхціца. Апошні ж, міма праў і прывілеяў ваяводства Полацкага, без ведама Караля Яго Мосці, наважыўся прыняць сан у ілжэпастара Феафана, які сам сябе называе патрыярхам Іерусалімскім. Той жа патрыярх Іерусалімскі ў дзяржаве Яго Каралеўскай Міласці ніколі ўлады не меў і зараз не мае”[12].

Магілёўцы, якія прызнаюць “нелегітымнага” Сматрыцкага, па словах Сапегі, “абражаюць урад і каралеўскую ўладу”, бо “ніхто не можа гвалтам заняць епіскапства або мітраполію”, а калі такое здараецца, то такі ілжэпастар “не праз дзверы ўваходзіць, а змяёй агіднаю пад парогам прапаўзае”. Староста

[12] Цытата па: «Археографическій сборнікъ документовъ, относящихся къ исторіи сѣверозападной Руси, издаваемый при управленіи Виленскаго учебнаго округа. – Вильня : Печатня Губернскаго Правленія, 1867. – С.32.

магілёўскі наракае на бурмістра, радцаў і лаўнікаў, якія “przeciwni wyrokowi iego krolewskiej mośći”[13].

Для Вялікага Княства Літоўскага “дамовая” рэлігійная вайна мусіла мець катастрафічныя наступствы. Леў Сапега гэта добра разумеў. Падчас Берасцейскага сіноду 1596 г. з болем у сэрцы звяртаўся да праваслаўных іерархаў:

“Чаму мы, католікі, настолькі брыдкія вам, што пра аб’яднанне з намі вы і слухаць не жадаеце? Калі б з ерэтыкамі браталіся і да клятых вучэнняў іх прыставалі, тады б, пэўна, былі б вы шчаслівыя. <…> Кажу вам не я, а Святое пісьмо, апосталы, дактары вучоныя ўсходнія і заходнія, Каноны і Законы святых сабораў, кажуць вам кнігі вашыя, рускія, пра тое, што ніхто выратавацца не можа, калі ў еднасці касцёльнай не застанецца; бо Святога Пятра зрабіў Бог пастарам усіх авечак сваіх; той, хто не слухае яго, авечкай хрысціянскай не з’яўляецца” [67, с.255].

Аднак праваслаўныя катэгарычна не прымалі гэтыя аргументы. Усё часцей трыбуналы і суды Княства аддавалі іх маёмасць уніятам. Даходзіла да масавых пратэстаў і гвалтаў. Напрыклад, у Віцебску раз’ятраныя гараджане прывязалі да ног Іасафата Кунцэвіча камень і кінулі ўніяцкага мітрапаліта ў Дзвіну. “У той час, калі клубы дыма ад спаленых дамоў праваслаўных, католікаў і ўніятаў далятталі ўжо да неба, Бог даслаў людзям пакаранне – жахлівае паўстанне казакаў на чале з Налівайкам” [67, с.268], – так характарызуе гэты перыяд польскі вучоны М.Вішнеўскі. Магілёўскі ж летапісец Сурта пра паўстанне паведамляе наступнае:

Рок 1595. Зноў на Магілёў небяспека ад Налівайкі прыйшла. Невядома, з якіх гэта адбылося прычын – ці з сваволі, ці з маскоўскага нагавору, бо ў той час у Маскве спакою не было. <…> Нездарма тая саранча зноў на месца аседлае мусіла накінуцца. Усё дзеля таго, каб шкоду нязносную рабіць і кроў дарма ліць. <…>. Той Нілівайка Магілёў абрабаваў і цэрквы спаліў.

**Палемічная выданні першай чвэрці XVII ст.** У меўшай распачацца кніжнай палеміцы паміж уніятамі і праваслаўнымі ёсць шмат цікавых асаблівасцей. Надзвычай часта ў “выходных дадзеных” кнігі ўказваўся толькі псеўданім аўтара, што надзвычай ускладняе атрыбуцыю твора. Пры гэтым маглі згадвацца апякун пісьменніка, выдавец і год выдання. У назве кнігі часта ўказваліся таксама імя апанента аўтара, назва і год выдання яго кнігі. Напрыклад:

**Antirrhisis abo Apologia** przeciw Krzysztofowi Philaletowi, który niedawno wydał książki imieniem starożytney religii greckiey, przeciw książkom o synodzie Brzeskim, napisanym w roku Pańskim 1597. Sirah 13. Wilno. Daniel Łanczycki. 1600.

[13]Там жа. С.33.

М.Вішнеўскі сярод магчымых аўтараў згаданай кнігі называе Іпацея Пацея. Звернем увагу таксама на дакладнае ўказанне "нагоды" для напісання "Antirrhisisa": у 1597 г. (Вільня) выйшаў знакаміты "Апакрысіс, або адказ на кніжкі пра сабор Берасцейскі іменем людзей старажытнай рэлігіі грэчаскай праз Хрыстафора Філалета хутка пададзены".

Разважаючы пра аўтарства "Апакрысіса" М.Вішнеўскі даводзіць: "Аўтарам гэтага твора можа быць не Сматрыцкі, як усе думаюць, але паводле запісу, размешчаным на старым фаліянце, "Бронскі Крыштоф, арыянін", якому ў якасці ўзнагароды за яго кнігу князь Астрожскі вёску падараваў" [14] [67, с.294]. У пазнейшай "Апалогіі" Сматрыцкага была наступная заўвага адносна аўтарства "Апакрысіса:

Ад Філалета, які быў ад нараджэння і паводле веры ерэтыкам, чаго добрага мусім мы чакаць для веры нашай? <…>. Найміт, які глядзіць толькі абы схапіць і ўцекчы. Ён і набраўся ад нас добра, і хутка ад нас уцёк. І бяды б не было, каб ён нас не ашукаў. Алё ён і ўзяў, і ашукаў. Дзеля гэтага выдаў сваю ерэтычную, на падман усёй Русі скіраваную кніжку, названую "Апакрысіс". За тое мястэчка з некалькімі вёскамі сабе выгандляваў, а нам цыдулкі шатанскія для веры пакінуў. Задорага мы, праўду сказаць, тое глупства купілі. І не ведаю нават, хто з нас разумнейшы болей – ці ён, што прадаў, ці мы, што ката ў торбе замест рысі купілі [67, с.303].

Калі верыць М.Сматрыцкаму, Хрыстафор Філалет – "найміт" і "ерэтык", які "пра веру нашу ўзяўся разважаць". Сэнс, які Сматрыцкі ўкладаў у слова "ерэтык", з гістарычнага кантэксту канца XVI ст. зразумелы: Філалет – пратэстант. Аднак што значыць "найміт"? Звычайна, наймаюць спецыяліста ў пэўнай галіне… Які спецыяліст спатрэбіўся віленскім братчыкам? Відавочна, не проста "чалавек беглы ў грэчаскай і лацінскай мовах", не проста публіцыст, здольны вытрымаць канкурэнцыю з езуітамі, а адукаваны рэдактар, маючы досвед у шматлікіх галінах тагачаснай веды (гісторыя, тэалогія, правазнаўства і інш.). Аўтар, які хаваўся за псеўданімам "Філалет", па-першае, мусіў мець доступ да рэдкіх дзяржаўных дакументаў (акты земскіх, гродскіх судоў і трыбуналаў, канстытуцыі соймаў, нават лісты манархаў і інш.), па-другое, павінен быў умець гэтыя дакументы такім чынам апрацаваць, каб вытрымкі з іх служылі ў якасці аргументаў супраць уніі.

Такім чынам, "Апакрысіс" – гэта плён, з аднаго боку, рэдактарскай працы (кампіляцыя і апрацоўка многіх дакументаў), з другога боку – тэкст, у якім усё ж пераважае аўтарскі пачатак (відавочная аўтарская пазіцыя, твор цэласны паводле стылю і кампазіцыі). Складаецца віленскае выданне з 4-х частак. У першай частцы аўтар падае справаздачу з Берасцейскага сіноду, публікуе пратэстацыю

[14] М.Вішнеўскі цытуе "95" старонку "Апалогіі": "Кім жа быў той Хрыстафор Філалет, які першым супраць той нашай еднасці пісаў? Быў ён кальвіністам, які ні веры нашай грэчаскай не ведаў, ні пісьма нашага рускага не ўмеў" [67, с.294].

рускіх (праваслаўных) людзей "рыцарскага кола", шырока цытуе дакументы. Напрыклад,змяшчае выпіску з магістрацкай кнігі Бярэсця ад 9 кастрычніка 1596 г., у якой пазначана тое, што "сенатары і шляхта руская абяцаюць супольна бараніцца ад уніятаў" [67, с.295].

Мы сенаторове, дикгнитаре, урядницы и рыцерство, также и духовныи релѣи Греческои, церкви Восточнои сынове, которыисмы ся тутъ до Берестя на синодъ згромадили, ижъ насъ дня нѣнѣшнего дошла вѣдомость певная а наветъ отъ велможныхъ пановъ, посланыхъ на тотъ соборъ отъ его кр. мл., яко бы ихъ милость якуюсь згоду зъ стороны обходовъ костеловъ греческихъ и рымского зъ митрополитомъ и скилка владыкъ, отщепенцами костела греческого, которыи еще дня вчорашнего за выступокъ свой зъ уряду зложени и достоинствъ, правомъ духовнымъ осуждены суть, учинити и обволати мѣли, что ся дѣетъ мимо вѣдомости и волность нашу и всякую слушность.

Протожъ противъ тому и всѣмъ особамъ, справамъ и тому поступкови свѣдчимо, протестуемося; и тотъ ихъ поступокъ за неслушный бачачи и розумѣючи, але за помочъю божею всѣми силами боронити и противъ ему быти собѣ обѣцуемо.

Цытуюцца таксама: пастарскае пасланне Кіеўскага мітрапаліта Міхаіла Рагозы, а таксама яго лісты да князя Канстанціна Астрожскага. Рагоза просіць Кіеўскага ваяводу бараніць веру, каб "змей райскі і ліс хітры галавы не падымалі" (гутарка пра Іпацея Пацея і ўніятаў). Таксама адпрэчвае абвінавачванні ў тым, што ён, Рагоза, "Папе Рымскаму царкву святую прадаў".

Цытуе Філалет і лісты І.Пацея да К.Астрожскага, напісаныя напярэдадні заключэння ўніі. Пацей піша, што не "прагне ні кардынальства, ні мітрапаліцтва", што задавальняецца "тым толькі, што на сабе мае – вопратку падраную і ўбогую". Філалет аднак на гэтыя "трэны" Пацея не зважае, абвінавачвае Уладзімірскага ўладыку ў гвалтоўных наездах на праваслаўных шляхціцаў і нават на праваслаўныя храмы: "Уладзімірскі ўладыка Пацей, які толькі прыехаў з Рыму, наехаў гвалтам на двор княжны Збараўскай кашталянавай брацлаўскай, дзверы царкоўныя выбіў, рэчы, якія пры набажэнстве выкарыстоўваюцца, або забраў, або сапсаваў. А калі княжна пратэставаць пажадала, адказаў ёй: ніводны ў Польшчы судзіць мяне не можа" [67, с.301].

Філалет спасылаецца на шматлікія дзяржаўныя дакументы. Прыводзіць лісты Стафана Баторыя і Жыгімонта ІІІ, цытуе прамову К.Астрожскага на варшаўскім сойме. Сярод іншага, Кіеўскі ваявода давёў да ведама караля тое, што І.Пацей і ўладыка луцкі К.Тэрлецкі "наведвалі чужыя дзяржавы ад імя рускай шляхты, але без яе дазволу" (маецца на ўвазе падарожжа Пацея і Тэрлецкага ў Рым). Прыводзяцца таксама прывілеі, якія Жыгімонт ІІІ надаваў уніятам. Так, 2 жніўня 1595 г. у Кракаве кароль паабяцаў "уніятам усяляк дапамагаць", "на біскупствы ўніяцкія прызначаць толькі русінаў" і нават разгледзіць пытанне аб сенатарскіх месцах для ўніятаў.

У наступных частках “Апакрысісу” падаюцца цікавыя звесткі пра падзеі, якія спадарожнічалі Берасцейскаму сіноду. Філалет распавядае, напрыклад, пра арышт пасланца Канстанцінопальскага патрыярха Ераміі. Прыводзіць лісты Ераміі, цытуе пасланні канстанцінопальскіх іерархаў да К.Астрожскага. Кожны раз Філалет дэманструе дасканалае веданне прадмету гутаркі. Яго аргументы настолькі пераканаўчыя, што ў чытача не застаецца сумненняў адносна разбойніцкага характару ўніі.

У адказ на антыўніяцкі змест “Апакрысісу” выходзіць “Antirrhisis, альбо Апалогія супраць Хрыстафора Філалета, які нядаўна выдаў кніжку іменем старажытнай рэлігіі грэчаскай…” (Вільня, Даніэль Ленчыцкі, 1600 г.). Пад назвай была размешчана наступная сентэнцыя: “Калі воўк з авечкай пасябруе, тады толькі грэшнік з праведнікам пагодзіцца”. Аўтар віленскага выдання публікуе ліст канцлера Замойскага да Іпацея Пацея, які датуецца 30 кастрычнікам 1598 г. Замойскі просіць устанавіць спраўднае аўтарства “Апакрысіса”. Іншымі словамі, указваецца афіцыйная нагода для напісання кнігі. Нягледзячы на тое, што “Апалогія” скіравана супраць Філалета, яна ўзнаўляе прынцып пабудовы выдання праваслаўных братчыкаў. Мэта кнігі – падабраць такую інфармацыю, якая здольна апраўдаць аўтарскую пазіцыю (такім чынам, функцыі выдання – і прапагандысцкая, і інфармацыйная). Складальнік “Antirrhisisa” выступае ў ролі рэдактара і кампілятара, выцягваючы звесткі як з шырока вядомых дакументаў, так і з тых, якія ў сучасных варунках неслі б на сабе грыф “абсалютна сакрэтна”.

Значнае месца ў выданні адводзіцца князю К.Астрожскаму, які, паводле аўтара, “Рымскаму Папе ў падданства ісці не хацеў, але і супраць рэлігійнай раз’яднанасці выступаў”. У кнізе публікуецца досыць шмат правакацыйнай інфармацыі адносна жадання некаторых праваслаўных мітрапалітаў пазбавіцца ад тыранічнай улады Канстанцінопальскага патрыярха. Ёсць звесткі аб нібыта меўшым адбыцца аб’яднанні пратэстантаў з праваслаўнымі, якія “жадалі разам супрацьстаяць каталіцкай экспансіі”.

Іпацей Пацей у адказ на шматлікія абвінавачванні з боку праваслаўных у адступніцтве і ерасі пісаў (ліст да патрыярха Александрыйскага Мялеція): “Евангелле ў грэкаў сапсаванае, не жадаю яму верыць, святасць на Усходзе загінула… Запаветы бацькоў царквы стаптаныя, целы іх перанесеныя да Рыму, пры іх не заходнімі сілагізмамі, але праўдай святой зняволены, я застацца і памерці мушу” [67, с.318].

Лідар уніятаў на ўсе абвінавачванні ў “развале рускай царквы” адказваў тое, што Берасцейская ўнія ёсць ні чым іншым, як лагічным завяршэннем уніі Фларэнційскай, на якой прысутнічала, па яго словах, і дэлегацыя Вялікага Княства Літоўскага на чале з падскарбіем Юзафам Солтанам. У друкарскім доме Мамонічаў (1605 г.) І.Пацей выдыў нават кнігу пад назваю “Poselstwo do Papieża Sixta III od Duchowieństwa y od Książąt y Panów Ruskich w r. 1476”. Кніга гэта была нібыта знойдзена ў крэўскай царкве. У ёй знаходзіўся і ліст да Рымскага Папы ад імя нібыта ўсёй “сабарнай Русі”. М.Сматрыцкі ў “Апалогіі” пра яго паведамляе наступнае: “У лісце тым, ад імя ўсяго народу рускага напісаным,

прызнаецца сінод Фларэнційскі" [67, с.312]. У восьмым томе "Гісторыі літаратуры польскай" М.Вішнеўскі падае "Выпіску з Кніг шляхетных паноў бурмістраў і радцаў места Віленскага". Урывак з гэтай выпіскі варта працытаваць:

"Lieta Božeho Naroždenja 1605, w seredu miesiaca junja 15 dnia Burmistry i Radcy miesta jeho Korolewskoj miłosti Wileńskaho, oboje storony rymskaja i ruskaja czynim jawno wsim w obec i każdomu z osobna, komu o tom widaty należyt, iż pryszedszy do radu meskoho otiec Hipatij Potej Mytropolit Kijewskij, Galickij i wsieja Rosii, Władyka Wołodymirskij i Beresteckij, okazał jest knihu znajdiennuju w cerkwi krewskoj, staroświeckim piśmom ustawnym słowieńskim jazykom pisanuju, in kwarto introligowanuju, wielmi staruju, w kotoroj jest napisan sobor osmyj florenckij i list dostojatlejszaho otca Syxta czetwiertaho papy rymskaho pisanyj od mytropolity kijewskago Michaiła i od Archimandrytow pieczerskaho, wileńskaho, także ot wielikich kniażat i panow ruskich roku po roždestwie chrystowom tysiacza czetyrysta siedmsiat szostaho (1476) kotoryj list aby wsiem ku wiedomosti pryszoł, baczuczy toho byt' potrebu, jego miłošt' umyślił z druku na świet po słowieńsku i po polsku wydaty. Jakoby nichto z protiwnych niemoh i nieśmieł toho mowiti i udawaty w liudech żeby tot list ne ztut pomienionoj, wielmi staroj Knihi, ale z nowych jakich egzemplarow, z druku na świet wydan mieł byty" [67, с.313].

У адказ на "саборны ліст пісьма старога", нібыта знойдзены ў крэўскай царкве, пэўны ананім "выдаў на рускай і польскай мовах у друкарні князя Астрожскага кнігу пра фальшывы сабор Фларэнційскі" [67, с.315]. Была гэта "Гісторыя пра разбойніцкі фларэнційскі сінод, каротка і праўдзіва напісаная" (1601 г.). У гэтай кнізе "<…> так шмат дарэмнай і абрыдлай Богу хлусні змешчана, што і сам д'ябал у пекле горшага не здолеў бы выдумаць. Усё дзеля злачыннага і агіднага супрацьдзеяння той святой згодзе і таму аб'яднанню, якія на тым усяленскім саборы ў Фларэнцыі паміж грэкамі і рымлянамі адбыліся, ", – так прыхільнікі Берасцейскай уніі ахарактарызавалі змест "Гісторыі…". "Хлуслівы аўтар, – адзначаў Пётр Федаровіч, – казаў пра тое, што Фларэнційскі сінод нібыта не толькі не завершыўся згодай, але і спыніўся гвалтам, лямантам і забойствамі. Нібыта адны грэчаскія патрыярхі з сіноду паўцякалі, а другія праз Папу былі схопленыя і да падпісання папер змушаныя, а той, хто падпісываць не жадаў, той нібыта праз усе пакуты прайшоў – зняволенне, цямніца, катаванні, голад" [67, с.316].

У "Апалогіі" Сматрыцкі назваў галоўную прычыну, па якой нібыта звесткі аб удзеле дэпутатаў Княства на Фларэнційскім саборы амаль не дайшлі да русінаў: "<…> хутчэй за ўсё знайшліся такія дзёрзкія рукі, якія (звесткі пра Фларэнційскую ўнію – В.Е.) з кніг старых павыцiралі, але Пан Бог зусім знішчыць іх (звесткі – В.Е.) тым, хто не можа супраць праўды і слова сказаць, не дазволіў" [67, с.317].

Такім чынам, І.Пацей, які раптам "знайшоў" забойчы аргумент у палеміцы з праваслаўнымі – ліст да Рымскага Папы ад імя "ўсёй саборнай Русі" – вырашыў пэўным чынам адрэдагаваць гісторыю. Аўтар "Апалогіі", у сваю чаргу,

патлумачыў адсутнасць згадак пра гэты ліст. На яго думку, рэдактары большасці старажытных кніг пазбавіліся ад дакумента (“з кніг старых [яго] павыцірালі). Слушнае або, наадварот, няслушнае рэдактарскае “спраўленне” старажытных кніг – аргумент, які часта выкарыстоўвалі і ўніяты, і праваслаўныя. Перадусім гэта датычыцца “спраўленых” дакументаў арэалу Фларэнційскай уніі. М.Сматрыцкі адносна вынікаў гэтай уніі заўважае (“Апалогія”): “Продкі нашы наўрад ці цярпелі б у кнігах сваіх амаль паўтары стагоддзі звесткі тыя, калі б сінод мірам і любасцю не завершыўся”. Гутарка пра згаданы вышэй “рускі” ліст да Рымскага Папы (“звесткі тыя”). Логіка разважанняў Сматрыцкага засноўваецца на наступным дапушчэнні: раз дакумент усё ж захаваўся – значыць, ён сапраўдны. У адваротным выпадку яго б знішчылі пазнейшыя праваслаўныя рэдактары.

Уніяты карысталіся і логікай адваротнай: раз рэдактары шмат разоў правілі тэкст – значыць, па-першае, ён важны, па-другое, сапсаваны. У апошнім выпадку чытачу прапаноўвалася вярнуцца нібыта да першакрыніцы. Так, у 1609 г. уніятамі быў замоўлены пераклад з грэчаскай на польскую мову нібыта дакладных дакументаў Фларэнційскага сабора. Кніга “Swięty a powszechny sobor we Florenciey odprawiony, abo z Grekami unia” выйшла ў тым самым годзе ў кракаўскай друкарні Мікалая Лоба (Mikołaja Łoba).

**“Апалогія” М.Сматрыцкага.** У XVII ст. ёсць унікальны прыклад самааналізу і самарэдагавання. У 1610 г. М.Сматрыцкі пад псеўданімам Тэафіл Арталог выдаў антыўніяцкую кнігу (па-польску) “Lament iedyney ś. powszechney apostolskiey wschodniey cerkwi z obiaśnieniem dogmat wiary, pierwey z greckiego na słowieński, a teraz z słowieńskiego na polski przełożony, przez Theophila Orthologa”. Кніга выклікала вялікі рэзананс і справакавала выступленні супраць уніятаў. Пасля вяртання з пілігрымкі па Бліжнім Усходзе М.Сматрыцкі, як вядома, пераходзіць ва ўніяцтва і карэнным чынам змяняе светапогляд. Сведчаннем таму з’яўляецца “Апалогія” (1628 г.), якую праваслаўныя не толькі асудзілі, але і публічна парвалі і спалілі. Пры гэтым самаго Сматрыцкага прымусілі адмовіцца ад напісанага. У “Апалогіі” аўтар-неафіт палічыў свой даўнейшы “Lament” памылкай і ерассю. Сябе даўнейшага – Тэафіла Арталога – назваў ілжывым прарокам, злачынцам, які разам з Зізаніем і Філалетам наўмысна слепіць вочы “рускаму народу”:

“Пашкадуй самаго сябе, зацны народзе Рускі, не дай сабе заўчасна і навечна загінуць, не дазваляй тым неразумным усляпую сябе весці. Май уласны, Богам натхнёны розум, а на гэтых трох людзях (Зізаній, Арталог, Філалет – В.Е.) або яшчэ на якіх іншых трох “сляпцах” падмурак збавення свайго не будуй, бо вядзецца аб душы. <…> Прыгледзься да таго скрыпту зласлівага, “Ляманту”, і судзі напісанае ў ім не паводле злосці, распаленай у сэрцы тваім, а паводле праўды Божай. І ўбачыш дзякуючы асветленаму ласкай Божай розуму, на чым той “Лямант” сапраўды засноўваецца, з чаго сапраўды збудаваны і чым прыкрыты. Заўважыш у падмурку яго нікчэмную нянавісць, у сценах – фальш, у даху – прытворства” [67, с.322].

У “Апалогіі” Сматрыцкі паабяцаў паказаць “рускім людзям” усе памылкі Арталога, які “атруціўся духам хлусні і блюзнерства”. “Атрутных слоў “Лямантa” згадваць не хачу. Скажу толькі тое, што колькі слоў у тым скрыпце ёсць – усе непраўдзівыя”. “А хто ж такі гэты Тэафіл Арталог? Вучань недаверкаў, які ў акадэміях Лейпцыгскай і Вітэнбергскай каля труны Лютэра век малады змарнаваў; блюзнерствамі лютэранскімі, нібы дымам, прапітаны, на Літву вярнуўся і Русь лямантам, нібы хваробай, заразіў” [67, с. 323]. Сматрыцкі прыводзіць тут факты з уласнай біяграфіі, бо сапраўды пасля езуіцкай акадэміі ў Вільні апынуўся ў Лейпцыгу і Вітэнбергу. Гэта і ў адрас Сматрыцкага Леў Сапега на Берасцейскім сінодзе казаў: “Калі б з ерэтыкамі (пратэстантамі –В.Е.) браталіся і да клятых вучэнняў іх прыставалі, тады б, пэўна, былі б вы (праваслаўныя – В.Е.) шчаслівыя”.

Надзвычай красамоўнай з’яўляецца заўвага, пададзеня ўніятамі адносна Сматрыцкага ў віленскім выданні (друкарня Л.Мамоніча, 1621 г.) “Examen obrony, to iest odpis na skrypt Obrona Veryfikacyi nazwany” (маецца на ўвазе “odpis” на кнігу, выдадзеную віленскімі братчыкамі ў тым самым годзе: Obrona veryfikacyey od obrazy Maiestatu Kr. J. Mości…”). Уніяты (“Examen”) заўважаюць: “Магчыма, гэта і не спадабаецца Сматрыцкаму, але мы прыводзім чыстую праўду <…>. Шкадаваў ён вельмі (і паўтараў тое разы тры, не меней), што кніжку, “Лямантам” названую, напісаў. Вельмі, казаў, той кніжкай нашкодзіў. “Шкада мне таго. Хацеў бы Царкве Божай зрабіць паслугу значную, каб столькі ж шмат было напраўлена, як і сапсавана” [67, с.329].

Уніяты адзначаюць дрэнны эмацыянальны стан Сматрыцкага, які “дужа хацеў, але не мог адказаць на “Парэгорыю” І.Марахоўскага”. “Як толькі браўся за пяро, неспакой нейкі накідаўся на мяне, кіну пяро на стол – і плакаць пачну”. Цяжка сказаць, ці даслоўна працытавалі Сматрыцкага ўніяты. Аднак падобнае ўзрушанне шмат тлумачыць у яго супярэчлівым лёсе (перадусім, пераход з праваслаўя ва ўніяцтва і скандальнае аўтарства “Апалогіі”).

**“Апалогія” (выходныя дадзеныя):**

Apologia Peregrinatiey do kraiów wschodnich, przez mię Melecyusza Smotryckiego, Medycyny Doktora, Archiepiskopa Połockiego, Episkopa Witebskiego y Mścisławskiego, Archimandrytę Wileńskiego y Dermańskiego roku Pańskiego 1623 y 24 obchodzoney, przez fałszywą Bracią słownie y na piśmie apetwarzoney, do przezacnego Narodu Ruskiego oboiego stanu Duchownego y Swieckiego sporządzona y podana Anno 1628 Augusti 25 w Monasterze Dermańskim. Cum licentia Superiorum. We Lwowie w Druk. Jana Szeligi J.M.X. Arcybiskupa Lwowskiego Typ. R.P. 1628. in. 4, str. 200. Na stronie odworotnej tytułu herb Zamojskich z wierszem: “Dom Zamoyskich w herbie swym nosi trzy kopiie, // Któremi nieprzyjacioł Oyczyzny swey bije” [67, с. 335].

Зноў падкрэслім тое, што дакладна невядома, чаму М.Сматрыцкі ў канцы жыцця гэтак кардынальна змяніў сваю пазіцыю ў супрацьстаянні праваслаўных і

ўніятаў. У прадмове, звернутай да падканцлера кароннага Замойскага (“Апалогія”), Сматрыцкі на гэты конт заўважае: “На схіле лёсу, маючы сталы век, калі адной нагой стаю я ўжо ў труне і штогадзіны рыхтуюся да развітання з гэтым светам, патрапіў я змяніцца. Адбылося гэта з міласці да мяне Бога і з маёй прагі збавення” [67, с.337]. Ёсць падставы меркаваць, што “змяненні” ў светапоглядзе Сматрыцкага адбыліся ўсё ж у выніку пілігрымкі.

Дзеля таго, кажу вам, хадзіў я да айца нашага і да патрыярхаў нашай Царквы Усходняй, каб даведацца і навучыцца ад іх набожнасці, веры – надзеі нашай, у якой шчасце і вечнае блаславенне нашыя заключаны. Пра тое хадзіў запытацца, ці гэткая ж наша вера, што і за часамі продкаў нашых, ці тая ж самая ў нас вера, якая ад іх з волі Бога да нас перайшла? Калі мы з перацёкшай ад іх да нас Евангельскай крыніцы душы выратавальную ваду п’ем, ці гэткая ж яна чыстая, светлая, празрыстая? Ці таго ж яна смаку, ці той наталяючай моцы і здароўя? [67, с.338].

Са зместу “Апалогіі” вынікае тое, што адказы на гэтыя і іншыя пытанні не задаволілі Сматрыцкага. Адсюль і жаданне пісьменніка сказаць, як ён лічыў, праўду, пазбавіць славян ад узаемнай нянавісці і варажнечы. Здаецца, для Сматрыцкага вялізнае значэнне мела ідэя аб’яднанага славянскага свету. А тое, на што сапраўды былі здольныя славяне, архіепіскап полацкі меў шанец убачыць. У 1620 г. аб’яднаныя сілі Рэчы Паспалітай на чале з католікам, гетманам літоўскім Я.К.Хадкевічам, спынілі турэцкую экспансію пад Хоцімам. Сучаснік тых падзей, М.Сматрыцкі не мог не ведаць тое, што рашаючае слова ў Хоцімскай вайне сказалі менавіта ўкраінскія праваслаўныя казакі на чале з “дэзунітам” Пятром Канашэвічам. Тым больш, што удзельнік Хоцімскай вайны віленскі ваявода Януш Тышкевіч (меў уласную харугву ў войску Хадкевіча) напісаў Сматрыцкаму ліст “Супраць царквы ўніяцкай”, у якой патлумачыў перавагі “аб’яднання” хрысціян.

## §6. Умовы развіцця кніжнай культуры ў другой палове XVII ст.

6.1. Другая палова XVII ст.: заняпад;
6.2. Альберт Вуек Каяловіч;
6.3. Дыярыўшы, успаміны: неадрэдагаваная гісторыя краіны.

У сярэдзіне XVII ст. сітуацыя ў кніжнай культуры Рэчы Паспалітай кардынальна змяняецца. Кнігавыдавецкая справа паступова згасае, друкарскія

дvары адзін за адным зачыняюцца. Так, напрыклад, у 1648 г. у Кракаве – усяго 3 друкарні, амаль няма магнацкіх прыватных друкарняў, выдавецкія карпарацыі знішчаныя, а гэта значна пагоршыла агульны стан асветы і навукі. Квітнелі езуіты, якія атрымоўвалі ўсё новыя прывілеі. Напрыклад, друкарня Віленскай акадэміі атрымала каралеўскі прывілей, які пагражаў штрафам у памеры 100 грывень усім тым, хто наважыўся б акадэмскія кнігі перадрукоўваць [34]. Самае ж горшае было тое, што пагаршалася якасць кніг. Занядбанымі былі рэдагаванне тэкстаў, якасць друку і паперы. Усюды амаль вялося не аб навуцы ці мастацтве, а ўсяго толькі аб спекуляцыі кнігамі. Паступова звужаецца кола выданняў – пераважаюць тэалагічныя і палемічныя кнігі. Знікаюць кнігарні. Нешматлікія выдаўцы мусяць выстаўляць кнігі побач з агароднінай і мясам на кірмашах. Неўзабаве ў 1648 г. надыходзяць змрочныя часы бязладдзя, замежнага “патопу” і казацкіх крывавых бунтаў.

Вось як польскі гісторык Леан Рагальскі ацэньвае культурную сітуацыю ў Рэчы Паспалітай:

“<…> сумны малюнак заняпаду краю ва ўсіх яго праявах. Не было парадку ні ў прыватным жыцці, ні ў публічным; анархія, цемрашальства пранікалі ўсюды. Вялікія людзі больш не нараджаліся. Навукі каналі ў перадсмяротных сутаргах. Моладзь у школах не вучылі, а забаўлялі дыялектычнымі вукрутасамі, дзівосамі думкі і стылю, гульнёй слоў, схаластычнымі ідэямі. Езуіты перараблялі вучняў на ксяндзоў, ды і тое – на езуітаў” [61, с.1].

Ацэнка наступстваў ваенных канфліктаў у другой палове XVII ст. беларускага гісторыка Генадзя Сагановіча:

“Катастрофа – інакш не назавеш стан, у які была ўвергнутая Беларусь трынаццацігадовай вайной. І самыя страшныя страты – гэта страты людзкія. У Беларусі ў межах прыкладна яе сучаснай тэрыторыі колькасць насельніцтва зменшылася больш чым напалову: калі перад вайной яно дасягала 2 мільёнаў 900 тысячаў чалавек, дык на



**Мал.16.** Шляхціц. Выява сярэдзіны XVII ст.

1667 г. засталося блізу 1 мільёна 350 тысячаў. Гэта прыкладна 47 адсоткаў. Гарадскога жыхарства ацалела яшчэ менш: толькі 45 адсоткаў. Ці ведала хоць адна блізкая да Беларусі краіна такія страты, ці губляў хоць адзін еўрапейскі народ 53 адсоткі сваіх жыхароў?”.

Апроч вайны з замежнымі інтэрвентамі, Рэч Паспалітая моцна цярпела ад рэлігійных канфліктаў. Справы т.зв. дысідэнтаў (пратэстанты) рэгулярна слухаліся на трыбуналах і соймах. У 1648 г. элекцыйны сойм разглядаў адразу некалькі пратэстаў, якія паступілі ад дысідэнтаў Вялікага Княства Літоўскага. Так, у Полацку каля 1646 г. (цытуем Дыярыўш сойма) “<…> студэнты і гараджане памяшканне Збору евангельскага разбурылі, над вернікамі здзекваліся, а настаўніка школы (пры Зборы) білі і ў рэчцы тапілі”. У тым самым годзе ў Полацку “<…> каталікі дом купца мясцовага, з ліку евангелістаў, абрабавалі – забралі рэчы і грошы. Нават хаваць сваіх нябожчыкаў палачане дысідэнтам забараняюць” [39, с.327].

Сітуацыя ў Каралеўстве не надта адрознівалася. Польскія пратэстанты скардзіліся: “На дамы нашыя нападаюць [каталікі], маёмасць псуюць, людзей б’юць і зневажаюць. Кальвіністаў з лютэранамі да каталіцкага хросту змушаюць, іншыя гвалты ўчыняюць. Нават памёршых хаваць на іх уласных землях не дазваляюць. У іншае месца вывозіць [нябожчыка] таксама забараняюць. У Любліне ў 1645 г. цела Яна Квысьля, якое сваякі паціху ў Бэлжыц (Bełżyc) везлі, нейкія вісусы забралі і тры дні з яго здзекваліся – валачылі за ногі, пад шыбеніцай хавалі, потым адзін у другога тое цела выкрадалі, ледзьве не тры разы небараку выкопвалі і зноў закопвалі” [39, с.328].

На ўсе гэтыя скаргі адзін з прысутных сенатараў заўважыў: “Гэтак шмат ерэтыкоў напладзілася, што католікам ужо павярнуцца няма дзе. Цярпець тых, хто ўжо ёсць, відаць, давядзецца, але і сачыць трэба, каб новыя не з’яўляліся. Няхай вераць, як самі хочуць, а другіх у сваю веру не цягнуць” [39, с.329]. Большасць пратэстаў, паступіўшых збоку дысідэнтаў, сойм не задаволіў. Праўда, пратэстанты шчодра сплочвалі католікам той самай манетай. Пра гэта сведчаць дэкрэты літоўскіх трыбуналаў, а таксама павестка дня згаданага элекцыйнага сойма 1648 г.

Зноў працытуем Дыярыўш сойма (пратэстуюць віленскія католікі):

У касцёле Св. Міхаіла ў выявы анёлаў [кальвіністы] з луку стралялі, вокны касцёльныя кулямі і стрэламі паразбівалі, да гэтага часу ў тым месцы, дзе манашкі канты спяваюць, стрэлы іх атрутныя тырчаць. У ксяндза камяні шпурляюць, манаха, які на чале працэсіі крыж нёс, камянём паранілі. Манашак, якія ў палісадніку манастырскім працавалі, мушкетамі страшылі і словамі брыдкімі лаялі. Капелюшы ў католікаў зрывалі, калі тыя міма іх Збору ў касцёл ішлі. Крыўд шмат учынялі – каля касцёльных брамаў вазы манастырскія рабавалі, казалі, што “дзесяціну забіраюць”. У дзень Св. Мацвея Апостала цела аднаго кальвініста пад касцёл Св. Яна нахабна прынеслі. Людзьмі зухвалымі касцёл атачылі, стралялі, у бубны білі. Гармідар нечуваны ажно дзве гадзіны

доўжылі. Потым пад касцёл Св. Духа айцоў дамініканаў з тым нябожчыкам прыцягнуліся. Падчас імшы, калі ксёндз з амбону спяваў, стралялі, у бубны білі і крычалі па-звярынаму. Ксёндз імшу мусіў завершыць, а вернікі з касцёла паўцякалі. Дзверы капліцы сякерамі пасеклі, у брамы касцёльныя на кані ўязджалі з дабытымі шаблямі ў руках" [39, с.334]. Звернем увагу на тое, што ўсе гэтыя выпадкі – не даніна красамоўству ці літаратурнай традыцыі, а рэальныя справы, якія разглядаліся трыбуналамі ў Княстве і Каралеўстве.

Пэўнае адраджэнне, а дакладней – уваскрашэнне культурнага жыцця, выдавецкай справы адбылося ў 1670-я гг. У Кракаве паўсталі новыя друкарні Войцэха Гарэцкага (Wojciecha Goreckiego) – у 1671 г., Якуба Масціцкага (Jakóba Mościckiego) – у 1673 г., Бальцэра Смешковіча (Balcera Smieszkowicza) – у 1663 г. Было некалькі друкарняў у Варшаве – сталіцы Рэчы Паспалітай. Апроч езуітаў, працягваюць кнігавыдавецкую справу базыльяне, францішканцы, дамінікане, піяры і нш. Дзейнічае друкарня ў Слуцку. І.Лялевель згадвае польскамоўнае выданне гэтай друкарні, датуемае 1673 г. Аўтар – Ян Херман (Jan Herman), "гаспадар з Інфлянтаў". Навуковец паведамляе таксама пра тое, што каля 1825 г. кніга была перавыдадзена ў Мінску, дзякуючы намаганням Легатовіча [34, с.212].

Адрадзіліся і працягнулі дзейнасць акадэмічныя друкарні ў Кракаве, Львове, Вільні, Познані. У сталіцы Княства друкарні мелі базыльяне, францішканцы і піяры. За часамі Аўгуста ІІ Моцнага адрадзілася друкарня ў радзівілаўскім Нясвіжы. Аднак свецкія прыватныя друкарні – рэдкасць для другой паловы XVII ст. Выключэнне складае толькі прыдворны тыпограф Яна ІІІ Сабескага варшавянін Кароль Фердынанд Схрэйбер (Karol Ferdynand Schreiber). Кароль яму і яго дзецям надаў прывілей свабодна друкаваць соймавыя канстытуцыі, інвентары, статуты каронныя і літоўскія і іншыя афіцыйныя дакументы. Прывілей зацвердзіў сойм у 1668 г. З гэтага часу Схрэйберы пачалі тытулаваць сябе "каралеўскімі Рэчы Паспалітай тыпографамі". У 1691 г. прывілей на друк статутаў літоўскіх атрымалі віленскія езуіты (друкарня акадэміі), а ў 1694 г. друкарамі Рэчы Паспалітай пачалі тытулаваць сябе піяры.

Характарызуючы агульны стан рэдактарскай і кнігавыдавецкай справы на прыканцы XVII ст., І.Лялевель робіць наступную заўвагу: "Працягваецца агульнае пагаршэнне выдавецкага мастацтва. Брыдкая папера, брыдкі друк, пры падрыхтоўцы тэкстаў – няўважлівасць і абражаючая чытача непісьменнасць, а часцей – неадукаванасць, адсутнасць густу пры аздабленні кніг" [34, с.216].

Калі ў першай палове XVII ст. друкары часта былі адначасова і рэдактарамі кніг (як, напрыклад, Пётр Бластус Кміта), то ў "пасляпатопныя" часы друкары патрабавалі абавязковай знешняй дапамогі. Бяда ж была ў тым, піша І.Лялевель, што часцей за ўсё ў ролі рэдактараў выступалі святары, а яны не толькі не дапамагалі выдынню, але і часта псавалі яго.

С.Бандке адзначае таксама тое, што друкары не жадалі ісці ў нагу з часам, былі варожыя навуковаму і тэхнічнаму прагрэсу [19]. Рэдактары, насуперак здароваму розуму, імкнуліся не спрасціць выказванне і дзякуючы гэтаму зрабіць тэкст чытэльным, а, наадварот, – гранічна ўскладнялі яго, *пераўтвараючы*

*надрукаванае ў зашыфраванае*. Гэта датычыцца і нагрувашчванняў у загалоўках і ўжывання ў кніжных тэкстах папулярнага макаранічнага маўлення, даведзенага на мяжы XVII – XVIII ст. да абсурду. Калі казаць пра загалоўкі, то да асноўнай назвы часта дадавалі другасныя, тыя ў сваю чаргу тлумачыліся і так да бясконцасці. У назву кнігі ўваходзілі прысвячэнні са шматлікімі згадваннямі рэгалій, тытулаў і ўладанняў адрасата прысвячэння. Напрыклад, назва кнігі бялыніцкіх кармелітаў:

"Казанне, прысвечанае яснавяльможнай пані, яе міласці пані Тэадоры графіні на Тарнове Тарноўскай, Казіміравай Леанавай Сапегавай падканцлеравай Вялікага Княства Літоўскага, Старасціны Аршанскай etc., меўшае адбыцца ў касцёле айцоў кармелітаў у Бялынічах праз айца Яна Хрызастома Глінскага магістра тэалогіі, камісара канвентаў беларускіх таго ж закона 22 лістапада 1652 г.

Замест гістарычных хронік, навуковых выданняў шырокую папулярнасць набывалі панегірычныя брашуры, казанні з пэўнай нагоды – шлюб, смерць, Дзень святога і інш. Выдаваліся рознага роду прывілеі, жыціі святых, календары, пахвалы і інш. Так, напрыклад у 1668 г. Казімір Каяловіч (Kazimierz Kojałowicz) выдаў у Вільні "Panegyrici heroum" – зборнік, які ў XIX ст. назвалі прыкладам сапсаванасці густаў, а ў XVII ст. – узорам, вартым наследавання. Прафесар Віленскай акадэміі Якуб Альшэўскі (Jakób Olszewski) быў славуты прамовамі з нагоды пахавання. У 1632 г. друкарня акадэміі выдала "Snopek Najjaśń. Zygmunta III króla Polskiego, od śmierci pożęty". Гэта быў зборнік, які ўключаў тры жалобныя прамовы, прагучаўшыя ў трох віленскіх касцёлах. Усе яны былі прысвечаныя нябожчыку Жыгімонту III. Асобная частка кнігі – прысвячэнні каралевічу і каралеве Канстанцыі.

Львоўскі езуіт Аляксандр Ларэнцовіч у 1670 г. выпусціў "Kazania pogrzebne" – зборнік, складзены з 28 жалобных прамоў. У звароце да чытача ён не без падстаў выказаў у адрас калег-панегірыстаў крытычныя заўвагі: "Не шукай тут выкшталцоных, квяцістых прамоў. Не спадзявайся ўбачыць пахвалу шляхетным дамам, якія аздобеныя сваяцкімі сувязямі і ўпрыгожаныя спрадвечнымі клейнотамі. Усё гэта належыць да свецкіх панегірыстаў, бо ў касцёльным каталіцкім казанні не варта рассыпацца кампліментамі, не варта вушы слухачоў лашчыць надта гладкімі словамі" [61, с.45].

Сапраўдны сэнс гэтых радкоў можна зразумець толькі ведаючы наступны факт: у 1730 г. на пахаванні гетмана польнага літоўскага Станіслава Дэнгоффа біскуп Ю.Залускі цягам 3-х гадзін хваліў памёршага, чым надзвычай здзівіў прысутных езуітаў.

Апошніх часам называюць галоўнай прычынай культурнага заняпаду Рэчы Паспалітай. Гэта, на наш погляд, не зусім справядліва, бо і сярод езуітаў былі адукаваныя, надзвычай прагрэсіўныя людзі. Такім быў, напрыклад, **Альберт Вуек Каяловіч** (Albert Wijuk Kojałowicz) – рэктар Віленскай акадэміі (з 1654 г.), аўтар першай (пасля М.Стрыйкоўскага) "Гісторыі Літвы", выдадзенай у 2-х частках:

1. Historia Lituaniae, pars prior, de rebus Lituanorum ante susceptam Christianam religionem etc. libri novem (Гданьск, 1650 г.);
2. Historiae Lituaniae, pars attera, seu de rebus Lituanorum a conjunctione Magni Ducatus cum Regno Poloniae, ad unionem eorum dominiorum, libri octo (Амстэрдам, 1669 г.).

Міхал Вішнеўскі піша пра Каяловіча (1609 – 1677 гг.) наступнае: "Быў гэта чалавек вялікага розуму, працавіты, у многіх кнігазборах збіраў рукапісы, з якіх большую частку звестак гістарычных пачэрпнуў". Добра знаёмы з мінулым і сучасным Літвы, А.Каяловіч пакінуў надзвычай каштоўныя звесткі, якія мелі ў тым ліку і канфедэнцыяльны характар. Польскі навуковец згадвае пра тое, што А.Каяловіч выконваў пэўныя таемныя даручэнні віленскіх езуітаў як на Літве, так і ў Рыме.

"Чалавек заўжды маўклівы, з нейкіх палітычных прычын выцягнуў ён на свет Божы таямніцу адной княжацкай сям'і і атрымаў з гэтай нагоды дужа вялікія непрыемнасці. Некаторыя напісаныя ім кнігі былі згубленыя, бо <…> яшчэ пры жыцці Каяловіча ў віленскай бібліятэцы былі схаваныя яго рукапісы, якія ні пры якіх абставінах не маглі быць выдадзеныя, пакуль квітнеў абражаны ім княжацкі дом". Са спасылкай на Яноцкага, Вішнеўскі заўважае: "<…> здаецца, што Каяловіч Радзівілаў раззлаваў" [70, с.493].

Так гэты было ці інакш – зараз высветліць цяжка. У кантэксце ж нашага даследаання асабліва важнымі ўяўляюцца дзве наступныя акалічнасці:

1) з'яўляючыся рэктарам акадэміі і, хутчэй за ўсё, кіраўніком езуіцкай выведкі на тэрыторыі Літоўскай правінцыі, А.Каяловіч мог мець доступ да ўсіх дакументаў, якія захоўваліся ў Вільні (а гэта вялізная акадэмічная бібліятэка, да якой трэба дадаць архівы віленскага біскупа, княжацкай канцылярыі, прыватныя і манастырскія бібліятэкі[15]). Многія з гэтых дакументаў незваротна страчаныя, таму запісы і высновы А.Каяловіча маюць надзвычайную каштоўнасць для сучасных даследчыкаў;

2) прынцып Каяловіча: "ніякіх фантазій". Ён адлюстроўваў толькі факты, пачэрпнутыя з вартых даверу крыніц.

Для сучаснага рэдактара ўважлівая праверка фактычнага матэрыялу – прафесійная азбука. Аднак у XVII ст. большая частка гістарыяграфічнага наратыву (дыярыўшы, успаміны, рознага кшталту запісы) мела суб'ектыўны характар. Пасак, Радзівілы, Храптовіч і інш. перш за ўсё адлюстроўвалі меркаванні, уласнае бачанне сітуацыі. Часта фантазія ў іх мемуарных нататках пераважае рэальнасць. У гэтым сэнсе постаць А.Каяловіча – унікальная. "Пісаў стылем уласным – суровым, простым, без перадузятасці, без дурнаватага захаплення, але заўжды з асцярожнасцю. Нідзе ў яго тэкстах нельга заўважыць аўтарскай суб'ектыўнасці, ніколі не ацэньвае ён гісторыю з пазіцыі свайго часу, нават кажучы пра крыжакаў і магнатаў-пратэстантаў трымаецца як бы збоку, пазбягае рэзкіх суджэнняў" [70, с.493].

[15] Хутчэй за ўсё, Каяловіч не меў магчымасці працаваць у Нясвіжскім архіве.

Сярод адукаваных, пакінуўшых след у гісторыі Рэчы Паспалітай людзей нельга не згадаць К.Нясецкага (Kaspra Niesieckiego) – львоўскага езуіта, які “ў чатырох вялізных тамах сабраў гісторыю польскай і літвінскай шляхты”. Пры гэтым, па словах Л.Рагальскага, “<…> Нясецкі апрацаваў незлічоную колькасць сямейных і гістарычных хронік, жалобныя прамовы, панегірычныя выказванні, гярбоўнікі Папроцкага і Акольскага, рукапісы Каяловіча і іншыя дакументы”. Езуіт здолеў з усяго гэтага інфармацыйнага масіву выдзеліць праўдзівыя звесткі і сістэматызаваць іх у алфавітным парадку” [61, с.107]. Назва яго працы наступная:

Korona Polska, przy złotéj wolności starożytnemi wszystkich katedr, prowincyj i rycerstwa klejnotami, heroiczném męztwem i odwagą, najwyższemi honorami, a najpierwiéj cnotą, pobożnością i świątobliwością ozdobiona”. Дадаеццца таксама і другая назва: “Herby i familije rycerskie, tak w Koronie, jako Wielkiém Xięstwie Litewskiem zebrane” (Львоў, друкарня езуітаў, 1728 – 1743 гг.)

Многія цікавыя тэксты другой паловы XVII ст. так і засталіся ў рукапісах, не знайшлі сваіх рэдактараў і выдаўцоў. Напрыклад, успаміны Альбрэхта Станіслава Радзівіла, у якіх падаецца гісторыя Рэчы Паспалітай ад смерці Жыгімонта III (1632 г.) да 1652 г., былі надрукаваныя толькі ў 1839 г. (Познань; выдавец – Эд. Рачыньскі). Тое ж можна сказаць пра цікавыя ўспаміны Яна Хрызастома Паска, якія адлюстроўваюць падзеі з 1656 па 1686 гг. Упершыню іх выдаў Эд.Рачыньскі ў 1836 г. (Познань). Віцебскі ваявода Ян Антоні Храпавіцкі напісаў дыярыўш, у якім адлюстроўваў літаральна ўсё, што бачыў. Нават, па словах Л.Рагальскага, не забываўся адзначыць, якое было надвор’е. Дыярыўш гэты быў выдадзены часткова ў 1668 г., а большая яго частка ўбачыла свет толькі ў 1845 г.

Некаторыя тэксты, без якіх сёння нельга сабе ўявіць кніжную гісторыю XVII ст., выходзілі за мяжой. Так было, напрыклад, з “Artis magnae Artilleriae, pars prima” Казіміра Семяновіча. Першая частка гэтага выдання ўпершыню выйшла ў Амстэрдаме ў 1650 г.

**Дыярыўшы, успаміны: неадрэдагаваная гісторыя краіны.** Важныя інфармацыйныя крыніцы XVII ст. – дыярыўшы. Вядомыя, напрыклад, соймавыя дыярыўшы, якія ў дробезях адлюстроўвалі літаральна кожнае пасяджэнне, захаваліся прыватныя, падарожныя дыярыўшы. Ёсць і тыя, якія У.Сыракомля называў “напісанымі з нагоды”. Яны найбольш набліжаныя да інфармацыйных паведамленняў сучасных СМІ.

З’яўленне дыярыўшаў было абумоўлена не столькі тагачаснай літаратурнай модай, колькі дзяржаўнай неабходнасцю. Рэч Паспалітая не ведала ні хвіліны спакою. Войны чаргаваліся з хатнімі бунтамі. Сойм выдаткоўваў грошы на чарговую вайсковую або пасольскую выправу. Дзе грошы – там і справаздачнасць. Амаль кожны крок дзяржаўнага чалавека, які выконваў волю караля або сойма, занатоўваўся і потым публічна ацэньваўся. У ролі летапісцаў выступалі камісары. Яны ні на крок не адыходзілі ад свайго візаві. Такім камісарам, для прыкладу, у абозе спачатку Уладзіслава IV, а потым і Яна Караля

Хадкевіча быў Якуб Сабескі. Яго дыярыўш з хоцімскай вайны атрымаў шырокую вядомасць у XIX ст.

Другой, паводле інфармацыйнай значнасці, крыніцай з'яўляюцца так званыя "Успаміны" ("Pamiętniki"). Гэта своеасаблівая мемуарыстыка, якая засноўваецца не столькі на фактах, колькі на меркаваннях і ўражаннях. "Успаміны" менш дакладныя, у параўнанні з соймавымі дыярыўшамі і рэляцыямі. Яны адлюстроўваюць гістарыю праз лёс канкрэтнага чалавека. Пры гэтым аўтар часцей за ўсё з'ўляецца не толькі сведкам, але і ўдзельнікам падзей. Такім аўтарам быў брэсцкі ваявода **Крыштоф Зяновіч** (Krzysztof Zienowicz), камісар караля падчас вядомага ўсёй Рэчы Паспалітай канфлікта Радзівілаў з Хадкевічамі (1600 г.). Запісы Зяновіча былі апрацаваныя ў XVIII ст. Адамам Нарушэвічам і часткова прадстаўлены ў біяграфіі Яна Караля Хадкевіча. Падставай для напісання "Успамінаў" зрабіўся адзін з самых цікавых гістарычных эпізодаў мяжы XVI – XVII ст.

Крыштоф Зяновіч меўся вырашыць тое, што сучаснікі лічылі невырашальным. Праблема была ў Соф'і Алелькавіч. Слуцкая княжна знаходзілася пад апекай жмудскага старасты Ежы Хадкевіча. Віленскі ж ваявода Крыштоф Радзівіл хацеў, каб яго старэйшы сын Януш абраўся з княжной шлюбам. І справа была не столькі ў каханні, колькі ў тым вялізным пасагу, які апошняя з Алелькавічаў магла прынесці Радзівілам. Відавочна, што і Хадкевічы не надта спяшаліся пазбаўляцца ад таго "казачнага" багацця.

Ваявода неаднаразова звяртаўся да старасты з пісьмовымі просьбамі. На што Хадкевіч звычайна адказваў: "Калі княжна дасягне паўналецця [16 год] і сама пажадае выйсці за Януша, тады, канешне, я не буду супраць іх шлюбу" [46, с.19]. Ежы памёр і апека над Соф'яй перайшла да яго брата – віленскага кашталяна Гераніма. Неўзабаве Радзівіл пачаў дамагацца мястэчка Копысь пад Воршай, якое належала Хадкевічам. Геранім разам з іншымі прадстаўнікамі роду Хадкевічаў паўсталі на шляху шлюбу, бо "Януш і Соф'я" знаходзіліся хаця і ў далёкім, але сваяцтве". Завершылася ўсё тым, што Хадкевічы адмовілі Радзівілу бачыцца з княжной.

Дайшло да таго, што Крыштоф Радзівіл, будучы гетманам літоўскім, сабраў немалое войска. Не паскупіліся і Хадкевічы, узброіўшы кавалерыстаў 1600 і пяхоты 600 чалавек. Войска Хадкевічаў мелася абараняць адну з камяніцаў у Вільні, а войска Радзівілаў – тую камяніцу штурмаваць. "6 лютага 1600 г. даведаліся віленцы пра Соф'ю гэтак жа, як некалі траянцы даведаліся пра Алену" [46, с.21]. Рэч паспалітая апынулася на парозе грамадзянскай вайны. Менавіта ў гэты час з'явіліся каралеўскія парламенцёры – чатыры сенатары, якія павінны былі не дапусціць праліцця крыві. Камісарам пры сенатарах і быў Крыштоф Зяновіч, які "простымі словамі, гутарковым стылем адлюстраваў пыху Радзівіла і нязломнасць Хадкевіча". Па словах У.Сыракомлі, брэсцкі ваявода падаў праўдзівы вобраз літоўскага грамадства , якое знаходзілася ва ўладзе ўсемагутных магнатаў" [31, с.184]. Працытуем урывак з яго "Успамінаў" (паводле жыццяпісу Я.К. Хадкевіча):

Калі каралеўскія паслы наблізіліся да камяніцы Хадкевіча, брамы перад імі адчыніліся не адразу. Праз колькі часу наперад выйшаў кашталян віленскі побач з ваяводам сандамірскім і Аляксандрам Хадкевічам, ваяводам троцкім. Не дазволілі паслам узыходзіць наверх, замест таго ваявода троцкі запрасіў іх у маленькі пакойчык на першым паверсе. Выслухаўшы паслоў, кашталян віленскі адказаў наступнае: "Я гатовы выканаць свае абавязкі і чакаю князя Януша з сябрамі. Паколькі хачу, каб княжна захоўвала спакой і здароўе, не буду яе прымушаць да нялюбага шлюбу. Калі Бог яе сэрца для князя адкрые, толькі тады я задаволю ваш [Радзівіла] інтарэс" [46, с.24].

Нейкім чынам паслы караля супакоілі абодва бакі. "Шлюб паміж князем Янушам і княжной Слуцкай ўсё ж адбыўся 1 кастрычніка 1600 г. у Брэсце Літоўскім. Сварка спынілася. Засталася, аднак, памяць пра варажнечу ў сэрцах Януша і Яна Караля" [46, с.25].




**Мал.17.** Партрэт Альбрыхта Станіслава Радзівіла

Яшчэ адзін цікавы дакумент XVII ст. – **"Успаміны" Альбрыхта Радзівіла"** [16], якія адлюстравалі перыяд панавання трох Вазаў – Жыгімонта III, Уладзіслава IV і Яна Казіміра. Доўгі час тэкст заставаўся ў рукапісе і быў выдадзены толькі ў XIX ст. "Успаміны" напісаны на лаціне ў форме дыярыўша і складаюцца з дзвюх частак. Першую ў нясвіжскім архіве адшукаў Эдвард Катлубай, другую – адшукаў і выдаў Эдвард Рачыньскі ў 1839 г. Змест абедзвюх частак надзвычай разнастайны. Складаецца як з мемуарыстыкі, так і з рознага роду дзяржаўных дакументаў – цытуюцца соймавыя рэляцыі, лісты рымскага папы, паслоў у замежных краінах. Найбольш каштоўна тое, што "Успаміны" адлюстроўваюць найдрабнейшыя, нябачныя сучаснікам нюансы эпохі позняга Рэнесансу і Барока. "Менавіта па гэтай

[16] Альбрыхт Станіслаў Радзівіл (Albrycht Stanisław Radziwiłł) – прадстаўнік уплывовага ў Рэчы Паспалітай магнацкага роду. Князь на Алыцы, канцлер літоўскі. Адукацыю атрымаў за мяжой, валодаў замежнымі мовамі, быў прыдворным спачатку Жыгімонта III, а потым і яго сына Уладзіслава IV. За Янам Казімірам на ўласныя сродкі ўзброіў некалькі палкоў, якія прымалі ўдзел у казацкіх войнах і ў вайне са шведамі. Мецэнат, фундатар некалькіх касцёлаў і манастыроў. Адзін з апекуноў езуітаў. Займаўся пісьменніцкай творчасцю.

прычыне запісы Радзівіла ніколі не перастануць быць важнай крыніцай для гісторыка, які жадае адчуць атмасферу часу, прааналізаваць звычаі і жыццё народу ў першай палове XVII ст.” [54, с.10].

Матэрыял размяркоўваецца паводле гадоў і месяцаў. Радзівіл спачатку фіксуе дату, і ўжо потым распавядае пра здарэнне або падзею, сведкам або ўдзельнікам якіх ён быў. Стыль “Успамінаў…” максімальна набліжаны да гутарковага. Аўтар, хутчэй за ўсё, не збіраўся друкаваць свае запісы, таму пазбягаў самацэнзуры і адлюстроўваў гісторыю такой, якой яе бачыў – часам камічнай, а часам і трагічнай. Радзівіл не аналізуе пытанні, звязаныя з вялікай палітыкай. Як выказаўся Эдвард Рачыньскі, ён глядзеў на гісторыю праз акно ўласнага палаца. Вось як, напрыклад, Радзівіл апісаў шляхецкую анархію ў Рэчы Паспалітай (адзін з першых запісаў):

29 студзеня 1632 г. Пан Федзюшка (Fiedziuszko) са шматлікай грамадой збройных людзей напаў на Ельскага, які з Пінска выязджаў. Яго жорстка пасек і дадому з’ехаў. Там вольна сабе бавіўся. Ажно на наступны год помста боская яго знайшла. У замку пінскім, рызыкуючы жыццём, яго ўраднікі мае схапілі. Трэцяга дня, паводле трыбунальскага дэкрэту, быў ён смерцю пакараны [54, с.6]. 21 сакавіка Зяновіч, стараста аршанскі, у двубоі руку адцяў Тамашу Сапезе, сыну Мікалая Сапегі, ваяводы навагрудскага. За што пан маршалак Зяновіча пакараць загадаў [54, с.7].


PAMIĘTNIKI
ALBRYCHTA STANISŁAWA
X. RADZIWIŁŁA
KANCLERZA W. LITEWSKIEGO.
Wydane z rękopismu
przez
Edwarda Raczyńskiego.
TOM I.
W POZNANIU 1839.
U braci Scherków.

**Мал.18.** Тытул першага выдання рукапісу “Успамінаў…” Альбрыхта Станіслава Радзівіла

Менавіта гэты дробны эксцэс адбіўся ў

памяці Радзівіла і застаўся ў якасці яскравага сведчання сармацкіх нораваў эпохі дынастыі Вазаў. Для гісторыкаў важныя, канешне, тыя фрагменты, якія маюць дачыненне да канкрэтных палітычных падзей – соймы, трыбуналы, выбары караля, наданне годнасці гетмана, падканцлера і г.д. Аднак з пункту погляду пісьменніка (журналіста), усё ж куды больш цікавымі ўяўляюцца эсэістычныя назіранні А.Радзівіла за жыццём сучаснікаў. Лепей, чым усялякія жыццяпісы і даследаванні, светапогляд чалавека позняга Рэнесансу характарызуе наступны эпізод:


Zawisza, K.

PAMIĘTNIKI

KRZYSZTOFA ZAWISZY,

WOJEWODY MIŃSKIEGO.

(1666 — 1721).

WYDANE Z ORYGINALNEGO RĘKOPISMU

I OPATRZONE PRZYPISKAMI

PRZEZ

Juliana Bartoszewicza.

WARSZAWA.

Nakładem JANA ZAWISZY, potomka Wojewody.

1862.

**Мал. 19.** Тытул першага выдання рукапісу “Успамінаў…” Мінскага ваяводы К.Завішы

Тым часам у каралеўскі пакой прыйшлі дактары, каб падаць Яго Міласці прыгатаваныя лекі. Кароль доўга адмаўляўся, бо не дужа любіў пах ружаў, які сыходзіў ад прапанаванага доктарам напоя. Аднак дактары вельмі прасілі – і кароль выпіў той напой, а перад тым, узяўшы кубак у рукі, сказаў: “У тым кубку вы смерць мне прыгатавалі”. І як у ваду глядзеў. Няхай дактары кажуць, што жадаюць, але лекі тыя значна прыспешылі смерць караля. У той самы дзень, калі напой па жылах Яго Міласці разыйшоўся, кароль адчуў сябе лепей і, як мне паведамілі, сказаў: “Будзе лекар трыўмфаваць. Неспадзявана для сябе пачуваюся я лепей”. Аднак ужо назаўтра, 25 красавіка, Яго Міласць быў разбіты паралічом” [54, с.7].

На думку А.Радзівіла, усе лекі, якія вынайшаў чалавек, – ад д’ябла, у Бога ж толькі адны лекі – малітва. І гэта надзвычай характарызуе ўласна як самаго Радзівіла, так і наогул гістарычную атмасферу перыяду панавання караля-манаха Жыгімонта ІІІ: “усё – з волі Бога, і нічога – з волі чалавека”. Бог успрымаецца не толькі як вышэйшы суддзя, стваральнік свету, але і спадарожнік, той – з кім можна паразмаўляць і на каго варта спадзявацца. “Езуіты каля канаючага Жыгімонта Яго Міласці Караля сталі, шапталі яму, прасілі, каб пра Бога памятаў. <…> Мы ўсе, сенатары, знаходзіліся побач – невясёлыя, плакалі. Калі з каралём развітваліся, рукі яго цалавалі” [54, с.9].

У дробезях, нюансах, характэрных для сучаснага рэпартажнага стыля, Радзівіл падае апісанні ўсіх этапаў элекцыйнага сойму 1632 г., у тым ліку цытуе афіцыйныя дакументы – соймавыя дэкрэты і рэляцыі сенатараў. Вялікую цікавасць, на наш погляд, уяўляе трэці пункт дэкрэта аб забароне дэпутатам праносіць на сойм “будзь якую зброю”: “Потым чыталі мы пастанову аб тым, каб агнястрэльную зброю і гарматы дэпутаты пакідалі за 3 або 4 мілі, каб ніводны зброі не меў, апроч шаблі ці шпагі” [54, с.43]. Ёсць ва “Успамінах” надзвычай цікавыя заўвагі адносна складанай рэлігійнай сітуацыі ў краі. У прыватнасці, адчуваецца водгулле літаратурнай палемікі паміж віленскімі братчыкамі і ўніятамі. Так, напрыклад, А.Радзівіл згадвае соймавае пасяджэнне, якое адбылося “з нагоды вялікага нахабства грэкаў (праваслаўных)”: “<…> схізматыкі прыкрымі словамі балюча ўніятаў б’юць, нават памёршых біскупаў зневажаюць, на самаго Папу



**Мал.20.** Партрэт Мінскага ваяводы Крыштофа Завішы (з выдання Юльяна Барташэвіча)

Рымскага паўстаюць; хлусяць, што ён нібыта золата ад уніятаў узяў і ўнію таму прыдумаў" [54, с.58].

Адкрытая канфрантацыя паміж праваслаўнымі і ўніятамі, каталікамі і пратэстантамі падаецца Радзівілам без асаблівых эмоцый. Аўтар канстатуе "прыкрую прысутнасць разнаверцаў у каталіцкай дзяржаве". Думаецца падобная пазіцыя не была характэрнай толькі для Радзівіла. Не забываўся аўтар "Успамінаў" згадваць шматлікія спрэчкі паміж Літвой і Каронай. Амаль на кожную, нават слушную, прапанову Кароны літвіны адказвалі катэгарычнай нязгодай. Калі б гутарка вялася пра трыадзінства Божае, "Litwa i na to nie zezwalała" / "Літва б і з тым не пагаджалася". Аўтар "Успамінаў" згадвае частыя перапалкі паміж прадстаўнікамі розных магнацкіх кланаў. "Шмат хто з прысутнай шляхты не нашай Рэчы Паспалітай служыў, а панам сваім", – заўважае Радзівіл [54, с.88].

Вялікая ўвага адводзіцца вайне з Масквой, Швецыяй, Турцыяй. Альбрыхт Радзівіл падае рэляцыі гетмана К.Радзівіла, а таксама рэляцыі смаленскага ваяводы, які скардзіўся на адсутнасць войска, здольнага стрымаць маскоўцаў. Стварае Радзівіл надзвычай яскравыя вобразы Яна Казіміра і яго папярэдніка Уладзіслава IV. Паведамляе мноства прыдворных анекдотаў, цікавых выпадкаў. Мімаволі дакранаецца Радзівіл да таго, што сур'ёзныя гісторыкі па нейкіх прычынах абмінулі.

Яшчэ адзін важны помнік мемуарнай літаратуры мяжы XVII – XVIII ст. – **"Успаміны мінскага ваяводы Крыштофа Завішы"** ("Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego"). Гэты дакумент таксама захоўваўся ў рукапісу і быў выдадзены Юльянам Барташэвічам толькі ў 1862 г. "Рукапіс быў аздоблены чырвонай скуранай вокладкай з залатымі водціскамі: пасярэдзіне – герб "Лебедзь" і надпіс: Ignacius Zawisza". Мінск, 1720. Ігнаці Завіша – сын аўтара рукапісу. Кароткі адрэзак часу Ігнаці спрабаваў, як і бацька, занатоўваць падзеі з уласнага жыцця.

К.Завіша – адзін з найбольш цікавых аўтараў перыяду заняпаду Рэчы Паспалітай. Прадстаўнік вядомага роду, ён атрымаў някепскую адукацыю і валодаў пісьменніцкім талентам. "Умеў ён прыняць і пачаставаць гасцей па-старасвецку, быў людскім і вясёлым, простым і даступным, а таму быў надзвычай папулярным у шляхты. Быў таксама адважны і заўжды гатовы да бітвы. Меў ласку ў каралёў. Не раз быў дэпутатам, а нават і маршалкам на соймах" [59, с.3]. Яго "Успаміны" – гэта шэраг апавяданняў, у якіх адлюстравана поўнае прыгод жыццё беларускага шляхціца. Пачынае Завіша з паведамлення аб смерці бацькі і маці. Адразу кідаецца ў вочы не ўласцівая для XVII ст. стылёвая лёгкасць, паветранасць тэксту.

Бацька, дабрадзей мой, да Вільні дужа хворым паехаў, там року 1678-га на Святога Яна Хрысціцеля спавядаўся нейкаму Ментыцкаму, каноніку смаленскаму, і а шостай гадзіне пасля апоўдня свету аддаў апошні паклон, з Богам павітаўся, жыцця свайго год шасцідзесяты крыху не завершыў. Ты, хто чытае пра завяршэнне жыцця бацькі майго, не забывайся, прашу, пра супакой душы яго прасіць, каб душа пісара Вялікага Княтсва Літоўскага ўпісаная была ў кнігі Жыцця Вечнага. Амэн [59, с.3].

Распавядаючы пра сям'ю, Завіша не забываецца нават пра самых далёкіх сваякоў. Кажучы пра дзяцей, заўважае: "Пане Езусе, расці іх". Шмат звестак пра важныя палітычныя падзеі – пасольства ў Маскву (1686 г.), соймы. Аднак наўрад ці яны будуць дужа цікавыя гісторыкам. Часта Завіша згадвае толькі тое, што датычыцца менавіта яго асобы. Напрыклад, у 1688 г. ён быў дэпутатам на варшаўскім сойме. Уся інфармацыя пра падзею ўкладаецца ў лаканічную заўвагу: "На тым сойме выйшаў на двубой з ясным панам Казімірам Агінскім. Добрым кавалерам" [59, с.21].

Куды больш цікавыя звесткі падае Завіша пра рознага роду спосабы прыемна бавіць час. Перад чытачом паўстае вобраз нестрыманага ў забавах шляхціца-сармата, які не саромеецца паведаміць, колькі кубкаў віна выпіў увечары.

З Вільні да Раготнай (Rohotnej) вярнуўся дня 17 студзеня. Далі мне ведаць пра мядзведзя пад Стараельняй, забіў яго ў пушчы і ніводнага пса не згубіў [59, с.37]. 25 ліпеня добра справіў свае імяніны ў Курклях. З прычыны вялікай колькасці госцяў, банкетавалі ў гумне. <…> Калі ўжо збіраўся ехаць з тых Куркляў, разам з іх мосцямі панамі-суседзямі шалёна танчыў і піў з прыемнасцю" [59, с.38]. <…> Патрапілі паляваць на мядзведзя, але каб забіць –не забілі. Назаўтра зноў палявалі, але ўжо шчасліва: забілі мядзведзя дужа ладнага" [59, с.51]. 29 жніўня сустракаўся з сенатарамі, а таксама са шляхтай. Выпіў звыш меры. Быў там таксама пан Аборскі, стараста ліўскі, які – даруй яму Божухна – напіўся, як зюзя, і непрыстойна сябе паводзіў. За тое быў за парог выстаўлены [59, с.52].

"Успаміны" – гэта яскравы прыклад хатніх хронік, якія ствараюцца многімі пакаленнямі, перадаюцца ад бацькі да сына. З'яўляюцца яны і адным з эпізодаў палітычнай гісторыі Рэчы Паспалітай. Шкада толькі, што гэта гісторыя не працягвалася далей" [59, с.24].

Тэкст "Успамінаў" вельмі неаднародны: "Завіша падае апісанне свайго дзяцінства, генеалогію роду, называе дзяцей і раптам пераходзіць да слуг, шведскіх генералаў, потым зноў вяртаецца да сям'і, уласных прыгодаў". Аўтар часта адсылае чытача да напісанага "вышэй" або "ніжэй". У тэксце неверагодная колькасць паўтораў, прысутнічаюць словы пасіўнай лексікі. Відавочна, "Успаміны" не прызначаліся для друку. К.Завіша падае прыклад таго, што Ю.Барташэвіч называў унутранай, неадрэдагаванай, а таму больш цікавай і праўдзівай гісторыяй краіны і яе жыхароў.

## §7. Шляхі распаўсюджвання інфармацыі: другая палова XVII ст.

7.1. Перыядычны і неперыядычны друк: агульная характарыстыка;
7.2.“Рэляцыі”, “Навіны”, “соймавыя дыярыўшы” перыяду 1648 – 1655 гг.: паўстанне Б.Хмяльніцкага;
7.3. “Авізы”: 1652 – 1673 гг.

**Перыядычны і неперыядычны друк: агульная характарыстыка.** З сярэдзіны XVI ст. функцыі неафіцыйных карэспандэнтаў (своеасаблівых, кажучы сучаснай мовай, “блогераў”) выконвалі езуіты, а крыху пазней – і піяры. “За гэта ад свайго кіраўніцтва атрымлівалі яны ўзнагароду. Піярам, напрыклад, якія паведамлялі навіны, звычайна штогод сплочвалі 100 дукатаў. Быў гэта немалы прыбытак, да таго ж справа не вымагала вялікай працы, асабліва калі існавалі гатовыя крыніцы інфармацыі” [23]. Манахі-карэспандэнты станавіліся пажаданымі гасцямі ўсюды. “Не толькі заможныя грамадзяне, але і магістраты атрымлівалі праз іх навіны, якія прагна чыталіся і перапісваліся. Былі гэтыя навіны больш запатрабаваныя, чым афіцыйныя, надрукаваныя рэляцыі. Прычына папулярнасці простая – паведамленні манахаў утрымлівалі значна больш падрабязнасцей, цікавых нюансаў, якія датычыліся вядомых асоб, таямніц, інтрыг” [23, с.304]. Усяго гэтага ў друку знайсці было немагчыма. У сярэдзіне XVII ст. ва ўмовах казацкіх войнаў і замежнай інтэрвенцыі езуіцка-піярскія “карэспандэнцыі” набылі яшчэ большую каштоўнасць.

Першае сталае перыядычнае выданне на тэрыторыі Рэчы Паспалітай з’явілася 3 студзеня 1661 г. Гэта быў кракаўскі часопіс пад назваю “Merkuryusz Polski ordynaryjny, dzieje wszystkiego świata w sobie zamykający, dla informacyi pospolitej” / “Меркурый Польскі рэгулярны, які змяшчае падзеі з усяго свету, для ўсеагульнага азнаямлення”. Як адзначае Л.Рагальскі, часопіс афармляўся гатычным шрыфтам. Мова выдання, паводле тагачаснай моды, – макаранічная. Рэдагаваў часопіс Ян Горчын (Jan Gorczyn). Складаўся “Меркурый” з дзвюх частак: спачатку – замежныя навіны, а потым – айчынныя. У Кракаве выйшла 20 нумароў, а затым (20 мая 1661 г.) рэдакцыя пераехала ў Варшаву. Аднак шведскі патоп хутка спыніў выхад часопіса. Затое зноў пачалі выходзіць “Навінкі” і “Рэляцыі”, выданне якіх спыніліся на 1643 г. Падчас казацкіх бунтаў і да моманту маскоўскай інтэрвенцыі (1648 – 1655 гг.) выходзілі так званыя “Авізы”. Затым быў невялікі перапынак, і на пачатку 1670-х гг. іх выданне ўзнавілася.

“Набліжаныя да сучаных газет, “Авізы” выходзілі ў вялікіх гарадах або ў тыпаграфіях пры каралеўскім ці літоўскім войску”. Друкавалі іх на адным ці некалькіх аркушах таннай паперы. Утрымлівалі “Авізы”, звычайна, “навіны адусюль”, размешчаныя без якога б там ні было парадку і сістэмы. Паколькі “Авізы” не прызначаліся для працяглага захоўвання, ўжо ў сярэдзіне XIX ст. іх заставалася ўсяго некалькі дзесяткаў (у асноўным, з акрэсу 1696 – 1702 гг.). Выдаваць гэтыя своеасаблівыя СМІ дазволена было толькі тым, хто меў адпаведны каралеўскі прывілей. Вядома, напрыклад, пра тое, што ў Кракаве ў 1680-я гг. выдаваў і рэдагаваў “Авізы” прафесар езуіцкай акадэміі, прозвішча якога гісторыя, на жаль, не захавала.

Не мелі тыя "газеты" ні нумароў, ні нават пранумараваных старонак. Паводле Л.Рагальскага, складаліся з дзвюх традыцыйных рубрык – "навіны з-за мяжы" і "навіны айчынныя". Калі ж замежных навінаў не хапала, рэдактар паведамляў чытачу: "Нічога цікавага за мяжой не здарылася". Затое месца для навінаў айчынных знаходзілася заўжды, і рэдактар выбіраў, апрацоўваў іх надзвычай старанна. "Не толькі браліся пад увагу палітычныя падзеі, але і самыя дробныя акалічнасці – такія, як надвор'е, прыродныя з'явы, шлюбы, нараджэнні, пахаванні, прыбыццё і ад'езд вядомых асобаў, не абміналі рэдактары касцёльныя і свецкія ўрачыстасці" [61, с.131].

Блізка каля 1700 г. "Авізы" пачалі называцца "Газетамі". Праўда, гэта не пайшло на карысць выданням – яны зрабіліся меншымі паводле фармату і змяшчалі меней навінаў. Хутчэй за ўсё, гэта звязана з акалічнасцямі чарговай шведскай вайны і шматлікіх "хатніх непрыемнасцяў". Апошнім тэрмінам вядомы гісторык Павел Ясеніца ("Polska anarchia") абагульнена азначаў магнацкія сваркі, шматлікія рокашы і канфедэрацыі пачатку XVIII ст.

У 1668 г. з'явіўся яшчэ адзін часопіс – лацінамоўны штомесячнік "Mercurius polonicus". Выходзіў ён у Кракаве, дзякуючы намаганням мясцовых езуітаў. Здзіўляе дасведчанасць рэдактара выдання. "Ён збіраў у часопісе навіны палітычныя, навуковыя і проста цікавыя звесткі. Меў шырокія стасункі з замежжам, атрымліваў карэспандэнцыі з розных бакоў, праўда ніколі не называў крыніцы інфармацыі. Падзяляў навіны на айчынныя і замежныя. Часта да інфармацыі дадаваў каментары" [61, с.131].

Было ў гэтым езуіцкім выданні і тое, што сёння мы называем забаўляльнай інфармацыяй – навукова-папулярныя звесткі пра адкрыцці ў галіне фізікі і хіміі, змяшчаліся вершы на рознух еўрапейскіх мовах. Ёсць і бібліяграфічная інфармацыя – езуіты падавалі звесткі пра новыя кнігі, якія выходзілі па ўсёй Еўропе. Навукоўцы адзначаюць дасканаласць стылю часопіса – брак якіх бы там ні было памылак, прастату, даступнасць інфармацыі для чытача любога адукацыйнага ўзроўню. Л.Рагальскі паведамляе толькі пра 3 нумары езуіцкага "Меркурыя". Невядома таксама, ці былі ў рэдакцыі езуіты з Беларусі, што цалкам магчыма з прычыны іх надзвычайнай мабільнасці.

**"Рэляцыі", "Навіны", "соймавыя дыярыўшы" перыяду 1648 – 1655 гг.: паўстанне Б.Хмяльніцкага.** Першая вядомая нам рэляцыя, у якой друкуюцца звесткі пра казацкія бунты на Украіне, датуецца 2-м красавікам 1648 г. "Безыменны" да "невядомага" піша: "Цяжкая і нешчаслівая для нас будзе гэта казацкая вайна" [39, с.9]. 21 мая 1648 г. з'яўляюцца так званыя "Навіны з Украіны". Ананімны аўтар паведамляе: "20 тысяч ардынцаў у Хмяльніцкага ды яшчэ тлум гультайскі пры ім. Акружылі яны войска Яго Каралеўскай Міласці разам з панам Стэфанам Патоцкім і з Камісарам войска запарожскага. Кажуць, нібыта пра штурм Арда з Хмяльніцкім мяркуе, абоз наш з усім быдлам і прыпасамі забралі" [39, с.17].

Наступная рэльцыя называецца "Аб разгроме гетманаў пад Корсунем" (ад 26 мая 1648). Невядомы аўтар падае гісторыю катастрофы, якая адбылася з каралеўскім войскам. Прынцып пабудовы матэрыялу – хранікальны:

паведамляюцца падзеі з 13 па 26 мая. Чытач глядзіць на бітву вачамі распавядальніка – сведкі і непасрэднага ўдзельніка падзей. Аўтар – гарачы патрыёт Рэчы Паспалітай – інфармуе аб колькасці войскаў, пра іх манёўры, узбраенне, кіраўніцтва. Тэкст, хутчэй за ўсё, не рэдагаваўся. Стыль рэляцыі эмацыянальны, мова набліжаецца да гутарковай, прысутнічаюць украінізмы. Аўтар перадае трагічную атмасферу жорсткасці і ўзаемнай нянавісці. Не шкадуе фарбаў для апісання ўсеагульнага Хаосу, у якім апынуліся Каралеўства і Княства. Працытуем урывак з рэляцыі:

"Татары пераправіліся цераз рэчку, <…>, і наблізіліся да нашых акопаў недалёка ад рэдута пана Оберштэра. Ён загадаў па іх з гарматаў ударыць, і быў забіты хтосьці значны, бо татары яго падабралі і вывезлі, перакінуўшы праз каня. Пацярпелі ад той страляніны і іншыя – дасталося коням і людзям. Некалькі дзесяткаў казакаў патрапілі ў акопы. Стралялі мы ў іх, але толькі марна папсавалі порах. Тым часам з абозу выскачылі нашы і схапілі аднаго татарына. Казакі ж нічога асаблівага не рабілі… Адно толькі – прыглядаліся да нашага войска і лагера. На зыходзе сонца пачалі татары з'язджаць з поля на вячэру. Нашы ўпалявалі дзевяць татараў і бута (buta) alias перакладчыка казацкага. Пан кракаўскі ваявода загадаў іх катаваць, і больш за ўсіх катаваць бута. Паведаміў бут, што стаіць тут каля 47 тысяч войска, што сёння прыйшлі казакі з рознай зброяй і з рознымі харугвамі – блізу 15 тысяч. Хан у полі стаіць з яшчэ большымі сіламі. Паслухаў гэту споведзь пан кракаўскі – і загадаў усім галовы адцяць [39, с.24].

Далейшы аповед сведчыць пра тое, што распавядальнік не ведае ўсяго малюнку бітвы. Падаюцца толькі тыя эпізоды, у якіх удзельнічаў аўтар. Так, пасля разгрому лагера каралеўскага войска аўтар уцякае ад татараў: "Угледзілі татары, што нас не зловяць, да таго ж ведалі яны добра, што без бою мы не здадзімся, і вярнуліся назад, каб завершыць рабаванне лагера". На гэтым апісанне бітвы завяршаецца. Аўтар перапрашае ў чытача, прызнаецца, што "не ўмее болей паведаміць", апроч таго, што "дужа нацярпеўся страху ад мужыкоў". Праясніць сітуацыю ўдаецца толькі праз месяц. Брацлаўскі ваявода Адам Кісель у лісце да "Яго Міласці Пана Прымаса" (ад 21 мая 1648 г.) паведамляе: "Жахлівая rerum metamorphosis з Айчынай нашай здарылася. Няма болей войска Рэчы Паспалітай, разбіта яно нагалаву. Гетманы абодва забітыя, альбо адзін з іх – мізэрны палонны. Гэта ўжо пэўна… <…>. Гэтак раптоўна, гэтак жорстка растаптаў вораг нашу нешчаслівую Айчыну. А мы без войска, без правадыроў, без Караля засталіся" [39, с.26].

Казацкае паўстанне паступова пераўтваралася ў дзяржаўную катастрофу. Востра адчуваўся недахоп інфармацыі. Невядомы грамадзянін Рэчы Паспалітай з болем напіша: "ніякіх навінаў – усё толькі дробезь адна, забаўлянкі ("wszystko kawy dla zabawy")" [39, с.83]. Не хапала навінаў нават сенатарам на сойме, які пачаўся ў Варшаве 16 ліпеня 1648 г. Як сведчыць дыярыўш сойма, сенатары мусілі шукаць карэспандэнтаў на Украіне, бо былі знішчаныя ўсе традыцыйныя шляхі атрымання інфармацыі. Манахі мусілі ўцякаць, закрываліся манастыры,

адміністрацыі “рускіх” ваяводстваў не працавалі. Толькі нейкім цудам навіны траплялі ў сталіцу Рэчы Паспалітай.

20 ліпеня ў пасольскай ізбе дэпутаты слухалі навіны з Украіны, а менавіта “<…>пра нечуваныя злачынствы, праліццё крыві, шкоду, якую казацкія шайкі на Украіне ўчыняюць. Пра знявагу касцёлаў, а асабліва – касцёлаў езуіцкіх. Як, напрыклад, у Вінніцы, дзе Найсвяты Сакрамант казакі нагамі таптালі, з кубкаў святых гарэлку пілі, ксяндзоў жахліва катавалі, нават нябожчыкаў з трунаў даставалі, секлі на часткі і сабак тым мясам кармілі” [39, с.113]. І гэта толькі невялікая частка той шакіруючай інфармацыйнай плыні, якая трапляла ў сенат часцей за ўсё ад мясцовай украінскай шляхты і каталіцкіх святароў.

На пятым пасяджэнні сойма дэпутаты пажадалі пачуць “навіны з Украіны” ад непасрэднага сведкі падзей. Быў запрошаны шляхціц, які нейкі час знаходзіўся ў казацкім палоне. Дыярыўш называе прозвішча шляхціца – пан Марэк Сабескі. Па словах Сабескага, “Хмяльніцкі ніякага зла Рэчы Паспалітай не жадае”, а за меч узяўся таму толькі, “што быў моцна пакрыўджаны, абражаны і зняважаны, а справядлівасці нідзе не мог знайсці” [39, с.120].

Пакуль у сенаце вырашалі, на якія грошы фарміраваць войска, каго абіраць гетманам, казакі ўзялі Бар. Пра гэта паведаміў 9 жніўня 1648 г. падольскі суддзя Лукаш Мяскоўскі. “Калі нас – братоў вашых – не шкада. Ратуйце хоць дамы, касцёлы”, – гэтак суддзя звяртаўся да сенатараў Рэчы Паспалітай і не забываўся дадаць: “Пра мір з казакамі лепей весці гутарку тады, калі будзе ў нас моцнае войска” [39, с.151]. У зборы рукапісаў Л.Марштына ёсць звесткі пра ксяндза, які прывозіў навіны з Украіны. Быў гэта ксёндз з Познані нехта Бранецкі, “які насыпаў навінаў дужа багата, але ўсе яны былі невясёлыя” [39, с.156].

У верасні 1648 г. навіны пра казакаў пачынаюць трапляць з Беларусі. Віленскі ваявода Крыштоф Хадкевіч паведамляе пра тое, што “гультайства падыйшло пад Слуцк”. “Жадалі казакі атрымаць 10 тысяч залатых, палатна 6 тысяч локцяў і коней – кожнаму па аднаму: гетману, сотнікам і есаўлам”. Аднак Слуцк прыняў бой. Хадкевіч інфармуе: “Пан Бог нас блаславіў. Пасля першага штурму засталося 60 забітых мужыкоў, столькі ж – пасля другога. Нічога не дапяўшы, павярнулі казакі назад”. Слуцк выправіў пагоню.

“Як селі мы казакам на карак, як пачалі іх секчы, біць, гналі мілі з тры – ажно да Пагоста. І там каля моста распачалі яны з намі бітву, бо ўцякаць ім не было куды. Адны плысці спрабавалі, другія, з маста скочыўшы, тапіліся. <…> Пабілі мы іх багата – болей за 2 тысячы. Але і нашых багата загінула. Пайшлі харугвы нашыя ўслед за імі – ажно да Турава. Падстрэлілі іх гетмана, які зваўся Сакоўскім. Сумняваюся, што застаўся ён жывым. Забілі і пісара іх вайсковага, які называў сябе Турчыновічам. Злавілі шмат палонных. Адных трымаем каля Слуцка, а шэсць значных выправім у Вільню. Але на гэтым не “амэн”, бо войска іх немалое стаіць пад Мазыром – блізу 20 тысяч таго гультайства” [39, с.179].

З сярэдзіны верасня навіны пачынаюць прыходзіць з-пад Канстанцінава, што на Украіне. У “навінах з вайсковага абозу” (ад 18 верасня 1848 г.) паведамляецца: “Зняўся наш лагер з-пад Канстанцінава. Наперадзе пайшлі пан Зацьвіліхоўскі з панам Калінскім. Сустрэліся яны з 2000 казакаў, якіх лёгка

расцярушылі” [39, с.198]. Далейшыя рэляцыі і карэспандэнцыі маюць трагічны змест. Спачатку апавядаецца пра другое запар паражэнне каралеўскага войска, а потым пра рабункі і казацкія гвалты. Згаданы Лукаш Мяскоўскі паведамляе: “Просім пра выратаванне жыцця. Бо ў тым становішчы, у якім мы апынуліся, апроч жыцця, ратаваць нам няма чаго” [39, с.211].

Надзвычай цікавыя матэрыялы змяшчае дыярыўш элекцыйнага сойму 1648 г. Невядомы аўтар падрабязна ўзнаўляе ход пасяджэнняў. Падыход да адлюстравання інфармацыі гэтакі ж, як і ў сучасных парламенцкіх журналістаў. Апавяданне вядзецца ад першай асобы, шырока цытуюцца выступаючыя, тлумачуцца эканамічныя і палітычныя выгоды ад прынятых рашэнняў. Аўтар дыярыўша часта згадвае: “прыйшлі на пасяджэнне, чыталі навіны”, “слухалі навіны з Украіны” і інш. Напрыклад: “Ужо ўвечары вырашылі мы праблему дысідэнтаў. Засталіся яны пры даўніх правах. Прыйшлі нядобрыя навіны. Замосце аблажылі казакі, хлеба, солі, вады ў гараджанаў няма” [39, с.324]. Хто даставіў гэтыя навіны? Магчыма дапусціць, што – купцы або бежанцы. Яны маглі ведаць пра голад. Аднак бежанцы не маглі ведаць пра месца знаходжанне кралеўскіх войскаў і пра іх далейшыя планы. “Хмель пад Замосцем са 120 тысячамі людзей. Харугвы нашы, якія па розных месцах стаялі, адступілі ўбок Віслы” [39, с.324].

Невядомы соймавы “прэс-сакратар” сабраў навіны з розных крыніц, праверыў іх праўдзівасць і падрыхтаваў тэкст, які прачыталі сенатары. Пра тое, як працавала “служба навінаў” на элекцыйным сойме 1648 г. зараз можна толькі меркаваць. Аднак ёсць адна дэталь, якая можа дапамагчы адказаць на гэта пытанне. З восені 1648 г. усё часцей карэспандэнтамі, аўтарамі рэляцый выступаюць манахі розных ордэнаў – да езуітаў далучаюцца дамінікане. Пра тое, што ў межах ордэна езуітаў існавала своеасаблівая тайная паліцыя, сведчыць лёс А.Каяловіча – рэктара віленскай акадэміі. Менавіта праз езуітаў у XVII ст. навіны траплялі ў Рэч Паспалітую з-за мяжы і менавіта езуіты былі рэдактарамі першых польскіх часопісаў. Лагічным уяўляецца тое, што езуіты – гэтыя вартавыя шляхецкай рэспублікі – спачатку адбіралі інфармацыю, якая трапляла па лініі так званай “гетманскай” (штотыднёвай) пошты, а потым сарціравалі і рэдагавалі яе.

Так, 18 красавіка 1649 г. у Варшаву патрапіў “пратакол” допыту нейкага сотніка Федзькі, які паведаміў пра тое, што “палкоўнік Нябаба казакаў пад Гомель прывёў”, што “Хмяльніцкі напэўна і хацеў бы міру, але мірыцца не можа, бо галота пастанавіла – або шляхту вынішчыць, або загінуць” [39, с.387]. У канцы мая навіны з Украіны – усё больш трывожныя. У сакрэтнай рэляцыі Альшэўскага, спадарожніка каралеўскага пасла да Б.Хмяльніцкага, паведамляецца: “З Масквой Хмель таемна змовіўся. Быў пасол ад цара, і яны сваіх паслоў даслалі ў Маскву, каб перадаць падзяку. Чуваць, што Масква не дазволіць войску літоўскаму перай сці праз Днепр, а Хмяльніцкі, не зважаючы на літвінаў, усёй моцай наваліцца на Польшчу”. Згадвае Альшэўскі і тое, што “Хмель ведае пра ўсё, што ў Польшчы адбываецца. Адкуль ведае – таямніца” [39, с.396].

Дыярыўш кансультацыі “караля Яна Казіміра з сенатарамі” (1 – 7 чэрвеня 1649 г.) паведамляе пра тое, што палітычная эліта Рэчы Паспалітай на другі год

вайны была добра інфармаваная пра падзеі на Украіне. Удалося нават перахапіць таемную перапіску Хмяльніцкага з татарамі, а таксама з маскоўскім царом. Заслухалі сенатары і рэляцыю каралеўскага пасла пана Сьмяроўскага (Śmiarowskiego). Паміж іншым ён паведамляў: "Калі аддаў яму [Хмяльніцкаму] ліст ад Караля Яго Міласці, прыняў той ліст пыхліва і, прачытаўшы, кінуў праз стол пісару. Ды так, што ліст ажно на падлозе апынуўся. Затое маскоўскіх і венгерскіх паслоў сустракае з вайсковай музыкай. <…> Толькі вар'ят наважыцца патрапіць у гэта пекла. Кожны, хто прыедзе сюды – загіне" [39, с.406].

У рэляцыі камянецкага кашталяна Станіслава Ланцкароньскага (Stanisław Lanckoroński) паведамляецца пра тое, што "ў Царград палонных з Украіны татары нагналі столькі, што за аднаго раба даецца ўсяго адзін лук або дзесяць стрэл [39, с.408]. 13 ліпеня 1649 г. з'яўляюцца "Навіны з літоўскага абозу" (ад 8 ліпеня 1649 г.). У "навінах" паведамляецца пра тое, што "7 чэрвеня адбылася генеральная бітва з казакамі паміж багнамі на беразе рэчкі Прыпяць". Невядомы карэспандэнт даводзіць: "Пан Тызенгаўз з пяхотай і драгунамі разам з ротмістрам панам Тэафілам Раецкім і з яго міласцю панам Ропам расцярушылі казакаў: 15 тысяч ex nunc забілі. Пан Роп забіты і шмат немцаў палягло. Казакі блізу 2 тысяч на харугву пана Раецкага наскочылі, з імі ён біўся мужна; не зважаючы ні на што, калолі мы іх, капытаміапталі, шмат хто з казакаў у рэчцы патануў". Згадваеюцца ў "навінах" таксама імёны загінуўшых літвінаў. Карэспандэнт паведамляе пра тое, што адыходзячых казакаў лавілі ў лесе і без шкадавання забівалі. "Голад таксама ў нашым лагеры. Коней ямо" [39, с.413].

20 ліпеня з'яўляюцца яшчэ адны навіны з "літоўскага абозу". Паведамляецца пра тое, што некалькі тысяч казакаў раптоўна наскочылі на харугву пана Фалецкага з аддзела пісара ВКЛ пана Валовіча. "Многіх нашых пасеклі. Але мы ўзяліся за справу. Пан Донавай з пяхотай добра сябе паказаў. Выйшаў у поле і ўзяўся з казакамі на шаблі: было ж таго гультайства каля 2 тысяч. Адступілі і пачалі яны акопвацца. Нашы штурмам тыя акопы здабывалі. Ажно казакі мусілі з акопаў уцякаць на балота, адкуль іх ледзьве з палову выратавалася. Два старшыні было ў таго гультайства: Галота (Hołota) і Кісель. Галота забіты, а Кісель уцёк". Паведамляецца таксама пра тое, што другі полк казакаў на чале з Галавацкім (Głowacki) пайшоў пад Рэчыцу, але так Бог даў, што з тых здраднікаў ніхто не ўцёк, а Главацкага жывым узялі і на кол пасадзілі (i na pal wbito)".

Нягледзячы на агульны пераможны тон навінаў, аўтар не хавае сваёй насцярожанасці. Прычына гэтаму: незлічоная, як здаецца, колькасць казакаў. "Праз Прыпяць яшчэ адно немалое войска перапраўляецца. Падзяліліся яны на тры часткі. Даведаўшыся пра гэта, князь [Януш Радзівіл] яго міласць 6 тысяч нашых даслаў супраць іх і сам на дапамогу мусіў пайсці" [39, с.416].

Змест ліпеньскіх (1649 г.) "навінаў з Украіны" становіцца ўсё больш трагічным. Зноў адчуваецца інфармацыйны голад – нават сенатары і кароль мусяць задавальняцца чуткамі. У якасці надзейных крыніц інфармацыі разглядаюцца львоўскія купцы, якія нягледзячы на вайну мелі ўсё ж нейкія стасункі з Каралеўствам і Княствам. Так, у "навінах з узятага ў аблогу Збаража"

(17 ліпеня 1649 г.) паведамляецца: “<…> прыйшлі навіны ад купцоў львоўскіх пра тое, што пан Камянецкі даслаў да караля двух пераапранутых у казакаў шляхціцаў – прасіў аб дапамозе. Бо гультайства – не палічыць, а нашых – жменя ўсяго” [39, с.417].

Кашталян гнезненскі Ян Лешчыньскі (Jan Leszczyński) прыблізна ў гэты ж час наракаў на адсутнасць праверанай інфармацыі. Будучы ў абозе пад Краснаставам 20 ліпеня 1649 г., ён пісаў: “Кожны раз у нашым абозе розныя навіны. Sunt bona, sunt quaedam mala, sunt mediocria multa. Пан Бог толькі ведае, чаму верыць! Учора дайшло да нас, што князь Вішнявецкі з некалькімі тысячамі шляхты ноччу выйшаў з лагера і здабыў колькі харугваў казацкіх, колькі гарматаў узяў і без малога 40 тысяч трупаў па сабе пакінуў. Той жа інфарматар (“relator”) паведаміў, што Хмяльніцкі, <…>, адыйшоў ажно на 4 мілі. І вось учора прыйшла навіна, што ў абозе горача, што кожны дзень адбіваюцца яны ад непрыяцеля. А Хмяльніцкі прысягнуў, што нават калі адна трэць яго галадранцаў застанецца, ён усё роўна мусіць свайго дапяць і нашых выцяць. Тыя дзве навіны – лепей бы іх зусім не было. Адно толькі – непакой ад іх і хваляванні” [39, с.418].

Затое навіны з Літвы неслі ў сабе нязменны пазітыў. Віленскі ваявода Крыштоф Хадкевіч 26 ліпеня паведамляў: “Пан Бог наша войска літоўскае блаславіў: 28 тысяч казакаў пад Пятркоўцамі (Piotrkowcami) нашы разбілі і шмат патапілі ў Прыпяці. Каля 5 тысяч уцяклі на востраў прыпяцкі і там “адсекліся”. Нашы іх акружылі. Ёсць надзея, што з дапамогай Пана Бога, мы іх голадам зморам і зброяй выб’ем. Нашых загінула каля 2 тысяч” [39, с.423].

Далейшыя навіны паступалі ў асноўным па лініі касцёльнай. Так гнезненскаму архібіскупу паведамлялі, што абоз пад Збаражам ледзь трымаецца, але кароль з 16-тысячным войскам ідзе на дапамогу. Сакратар караля Войцех Мяскоўскі падаў “рэляцыю бітвы з казакамі”. Стыль яе надзвычай эмацыянальны, ствараецца апакаліптычны малюнак апошняй бітвы хрысціян з шатанскім войскам. Пры гэтым аўтар выступае ў ролі своеасаблівага рэпарцёра, які транслюе інфармацыю з месца падзей. Ствараецца эфект прысутнасці на полі бою. Працытуем урывак:

Угледзела арда тое, што войска наша дужа расцягнулася і пачала заходзіць нам у тыл. Спачатку на пана Карыцкага тая саранча насела, які ад іх не дужа адбіваўся, бо мусіў ахоўваць пераправу. Рушылі тады яму на дапамогу паны Сандамірскі, Брацлаўскі, пан падканцлер літоўскі, таксама пан Тышкевіч. Шмат з іх на полі засталося. Загінула харугва пана падканцлера літоўскага, пяхота і дзве сотні драгунаў ляглі побач. Хацеў полк львоўскі затрымаць арду, стаяў мужна, пакрыў сябе неўміручай славай, але ўсе, быццам у мутнай вадзе, растварыліся. Забіта шляхты – гвалт, значных асобаў,ураднікаў, ротмістраў палягло – свет. Палкоўнік і сцяг захоплены. Ды што тут казаць? Няма больш палка львоўскага. Харугвы пана Сандамірскага і пана старасты Стапніцкага цалкам выбітыя. Там жа, побач, ляглі пан рэчацкі староста Уржэндоўскі і пан Чарнецкі, абозны войска Яго Каралеўскай Міласці. <…>.

Кароль убачыў, што нашы пачалі паддавацца, выхапіў рапіру і кінуўся да іх. Крычаў: “Не адступайце, панове, на пакідайце Айчыну! Памятайце пра славу продкаў вашых!” І калі ўжо палова абозу была не нашая, Кароль Яго Міласць стаў на шляху адступаючых, хапаў за каўняры афіцэраў – адных пераконваў, другіх хацеў забіць. Прасіў, маліў, каб не ўцякалі. Дзве харугвы казацкія і райтараў уласных на дапамогу даслаў, якія сцяной сталі і непрыяцеля спынілі. Пяхота дужа дапамагла: як стрэліць – так, ніба касой, пройдзецца. Арда ж ляцела на агонь, нібы вочы завязаўшы. На валаску ўжо Рэч Паспалітая наша трымалася… Такім атрымаўся праўдзівы мой аповед. Ніколі яшчэ Рэч Паспалітая, Кароль не былі ў такой сітуацыі, як 15 жніўня. Дай, Божа, Айчыне нашай шчаслівейшага лёсу” [39, с.437].

Пасля такіх жахлівых паражэнняў Рэч Паспалітая апынулася ў сітуацыі, блізкай да палітычнага калапсу. Па краю пачалі хадзіць ананімныя вершы, у якіх, з аднаго боку, падавалася храналогія “няшчасцяў”, з другога боку – падзеі ацэньваліся і пэўным чынам асэнсоўваліся. Працытуем верш “Лямант Каралеўства Польскага” (у перакладзе на беларускую мову):

Пракляты Корсунь, і вы, Жоўтыя Воды,
Першымі вы нарабілі мне шкоды.
Там сыноў маіх кроў упершыню палілася,
Іншым вяроўка ў шыю ўпілася.
Ці дзень панаваў, ці ноч панавала –
На Корсунь самотная я паглядала.
Дарма ўсё чакала сыночкаў з паходу.
Ды пасанкаў толькі дождала чароду.
Сыночкі мае, куды ж вы бяжыце?
Чаму, як асінавы ліст, вы дрыжыце? [39, с.472].

Наступная рэляцыя датуецца 6 жніўнем 1650 г. Звесткі, якія паведамляе невядомы аўтар, маюць сакрэтны характар. Распавядаецца пра перамовы Хмяльніцкага з турэцкім султанам [39, с.555]. Нічога пэўнага рэляцыя не паведамляе. Пра тое, што “Хмель хвост паджаў” інфармуе невядомы карэспандэнт 23 кастрачніка 1650 г. “Баіцца дужа ён, бо татары разляцеліся па розных месцах. Сваіх таксама не дужа багата мае. Вось зараз бы яго ў порах сцерці” [39, с.580]. У сакавіку 1651 г. невядомы аўтар паведамляе пра “фартэль”, які валахі прыдумалі пад Вінніцай. “4 харугвы выступілі супраць казакаў. Спаткаліся з імі і пачалі звяртацца да галоты па-татарску. Казакі, мяркуючы, што татары ім на дапамогу прыйшлі, з радасцю да валахаў паскакалі. А нашы іх на шаблі ўзялі – усіх чыста выцялі” [39, с.629].

Апошнія навіны – “з-пад Львова” (“o klęsce Batowskièj”). Датуюцца 14 чэрвенем 1652 г. Яшчэ адзін невядомы аўтар паведамляе падрабязнасці чарговай прайгранай бітвы: “Адны на полі назаўжды засталіся, другія ў палон да

язычнікаў патрапілі. Мала нашых выратавалася. Ад некалькіх тысяч добра калі сотня якая засталася” [39, с.656].

**“Авізы”: 1652 – 1673 гг.** 10 ліпеня 1652 г. з’яўляюцца першыя, пачынаючы з 1648 г., інфармацыйныя “Авізы”. Называюцца яны “Авізы ад паручніка Вілчкоўскага (Wilczkowskiego) з палка ваяводы сандамірскага”. Працытуем некалькі радкоў: “Пасля разгрому каралеўскага войска Хмяльніцкі загадаў палонных забіць. Панядзелак і сераду адбываліся забойствы, а ў сераду выйшаў універсал, паводле якога той, хто заставаўся жывым, мусіў жыць. Датычылася гэта хлопцаў малых ды некалькіх дзяўчат маладых” [39, с.661].

Наступныя “Авізы” друкуюцца толькі 13 верасня 1653 г. (“Awizy z pod Janowa”). Невядомы карэспандэнт даводзіць да ведама чытача тое, “што Хмяльніцкі мае намер неспадзявана пайсці з усімі сіламі на войска каралеўскае. Войска ж таго нашага ўсяго 20 тысяч. З гэтай лічбы трэба вылічыць хворых. А такіх – большасць, бо нават немцы ад голаду паміраюць” [39, с.668].

15 верасня паўстаюць яшчэ адны “Авізы” – на гэты раз аптымістычныя. Аўтар паведамляе пра тое, што з войска Хмяльніцкага – масавыя ўцёкі татараў. “Адзін мурза і 700 татараў да нас перакінуліся. Яны супраць казакаў выступілі і шмат іх пабілі. Абяцаў той мурза Яго Міласці Каралю верным быць” [39, с.669]. “Авізы” ад 23 верасня інфармуюць пра тое, што кароль рушыў пад Камянец. Харунжы чарнігаўскі Гулевіч (Hulewicz) паведамляе: “Кароль Яго Міласць з войскам галодным, на схудалых конях, пад падранымі сцягамі, з няпоўнымі аддзеламі пад Камянец цягнецца” [39, с.671].

“Авізы з-пад Камянца” ад 29 верасня 1653 г. распавядаюць: “Пра Хмяльніцкага ведаем толькі тое, што ён сам пра сябе паведаміў. Даслаў з Чыгірына de data die 4 Septembris вязня – шляхціца аднаго – з пакорлівымі лістамі. Ён ужо не дамагаецца ад нас нічога, але пытаецца, што павінен зрабіць, каб пераканаць караля ў сваёй вернасці. Атрымаў такі каралеўскі адказ: татараў распусці і сам спакойна сядзі ў Чыгірыне, а ва Украіне для войска нашага рыхтуй прыпасы. Той шляхціц казаў, што татарвы няма, што мужыкі ад Хмеля ўцякаюць” [39, с.673].

Пра спосаб распаўсюджвання “Авізаў” можна меркаваць з ліста кракаўскага скарбніка Велявейскага (Wielowiejskiego). Пачынаецца ён наступным чынам: “Пошта сённяшняя прынесла колькі лістоў з абозу, ёсць і некалькі “Авізаў”. Паведамляюць яны, што хан меўся арду Хмяльніцкаму на дапамогу выправіць” [39, с.680]. З гэта вынікае, па-першае, тое, што гетманская пошта ўсё ж працавала, па-другое, ва ўсе бакі дасылаліся “Авізы”, якія не толькі паведамлялі апошнія навіны, але і падавалі іх афіцыйную версію. Значыць, у абозе караля Яна Казіміра існавала своеасаблівая прэс-служба, якая сарціравала і пэўным чынам рэдагавала інфармацыю.

Заўважым, што нягледзячы на частыя няўдачы Рэчы Паспалітай змест “Авізаў” збольшага насіў аптымістычны характар. Так, напрыклад, у “Авізах” ні слова пра тое, што “ў Львове войска бунтуецца, бо даўно не атрымлівае заробкаў”, што “ў Кракаве – хвароба лютуе” [39, с.681]. Відавочна, рэдактары / аўтары “Авізаў” імкнуліся ўзняць дух грамадзян Рэчы Паспалітай. Дзеля гэтага старанна

адбіралі навіны для друку, які ажыццяўляла паходная тыпаграфія пры каралеўскім войску.

3 лістапада з'яўляюцца "Авізы" з яскравым падзагалоўкам – "з вайны". Як заўжды, без подпісу. Расказваецца пра тое, што паведамілі палонныя казакі і татары. "Арда ўся Хмелю на дапамогу рушыла. 40 тысяч крымчакоў убок казакаў ідуць. Хмель іх прыспешвае. Ажно на паўдарозе хан загад атрымаў ад турэцкага султана назад вяртацца. Татары неяк адно мястэчка вяцялі, за што смерцю былі пакараныя. Казакаў шмат памёрла ад хваробаў розных. Тыя ж, хто жывым застаўся, за Хмелем услед ісці не жадаюць" [39, с.695].

Безумоўна, гэтыя навіны былі доўгачаканымі і, магчыма, мелі не столькі інфармацыйную, колькі ідэалагічную вагу. Рэч Паспалітая, знясіленая кровапраліццем, мусіла спадзявацца на перамір'е. Пра яго і паведамлялі "Авізы": "Усе добра разумеюць тое, што вораг наступаць у гэтым годзе не будзе. Хутчэй за ўсё, вернецца на Украіну. Гэтак жа і войска Яго Каралеўскай Міласці далей не пойдзе, спыніцца на зімоўку. Гэта, канешне, калі Хмель зноў які фартэль не выкіне" [39, с.695].

Пра "фартэль" Хмяльніцкага паведамляюць наступныя "Авізы" – з падзагалоўкам "З абозу Яго Каралеўскай Міласці" (ад 4 лістапада). Сітуацыя, у параўнанні з папярэднім нумарам, значна пагоршылася. Таму рэдактар пакінуў, відаць, усё так, як было: "<…> крымскі хан паддаўся на ўгаворы Хмяльніцкага і выправіў шмат людзей для бітвы з каралеўскім войскам". Аўтар спасылаецца на венгерскага палкоўніка, які здабыў гэтыя навіны: "Тых татараў мы штогадзіны чакаем і просім Бога пра тое, каб ворагаў нашых ён зрабіў сляпымі. Каб, угледзіўшы нас, яны ўбок Крыму павярнулі, а не ў бой пайшлі. Калі ж яны бой распачнуць – бадай што ўсе мы загінем. Бо пяхота наша, асабліва чужаземная, жалю вартая – адны ад голаду, другія ад лютага марозу паміраюць. Тое ж і з кавалерыяй – коні дохнуць, а новых узяць няма дзе" [39, с.696].

"Авізы" ад 6 лістападу "навінаў не маюць". І гэта ўжо само па сабе было добра, бо "татарва з каралём ваяваць не жадала". Праўда, "Арда напала на фальварак Усяцінскі і спаліла яго. Колькі людзей было – усіх забілі" [39, с.697]. У сярэдзіне лістапада распаўсюджваюцца так званыя "Авізы няпраўдзівыя". 11 лістапада з'яўляецца інфармацыя аб тым, што "Хмяльніцкі забіты. Казакаў разам з Ардой палягло блізу 80 тысяч". Аўтар спасылаецца на нейкага шляхціца, які днём і ноччу скакаў, каб перадаць пану ваяводзе сандамірскаму загад караля "Te Deum laudamus па ўсіх касцёлах спяваць" [39, с.707].

Наўздагон "непраўдзівым" "Авізам" з'яўляюцца праўдзівыя, у якіх ні слова пра смерць Хмяльніцкага. Затое ёсць інфармацыя пра перамовы паміж Янам Казімірам і крымскім ханам. Гэтыя звесткі пацвярджаюць "Авізы" ад 19 лістапада. Працытуем іх цалкам: "З Львова пішуць: тут у нас неспакой быў вялікі – учора татары людзей у палон бралі. Калі дайшла да іх вестка, што з Яго Міласцю Каралём мір заключаны, назад павярнулі" [39, с.718].

У асноўным паведамленні "Авізаў" і рэляцый перыяду 1648 – 1654 гг. датычыліся тэрыторыі Украіны. Вайна з Хмяльніцкім цяжкім крыжам лягла на плечы Каралеўства. У Вялікім Княстве Літоўскім пакуль што панаваў адносны

спакой. Першыя трывожныя “навіны з Літвы” пачынаюць паступаць у ліпені 1654 г.

На пачатку ліпеня з-пад Воршы з’яўляюцца “Авізы” з падзагалоўкам “пра Маскоўскую вайну”. Ананімны аўтар паведамляе пра тое, што Масква на святога Яна ўбок Смаленска рушыць”. 7 ліпеня выходзіць другі нумар аршанскіх “Авізаў”, якi змяшчае рэляцыю літвінскіх памежнікаў. Калі верыць гэтаму дакументу, у першыя дні маскоўскай вайны, літвіны ўзялі вялікі палон і знішчылі варожы абоз. Працытуем урывак з аршанскіх “Авізаў”:

“Знайшлі мы іх [маскоўцаў] соннымі і дужа п’янымі, бо ваявода іх перад тым на Св. Яна моцна частаваў. Ды так пачаставаў, што нашы ў цэнтр іх абоза спачатку 4-ма конямі заехалі, потым – 10, а потым і 30, ажно ўвесь майдан іх занялі. Толькі тады стражнікі закрычалі: “Літва! Літва!”. За зброю схапіліся і трывогу ўзнялі. Але запозна было. Білі мы іх, секлі цэлы дзень, здабычу ўзялі багатую – срэбра, грошы. Ваяводу ў намёце забілі” [39, с.723].

Адзначым той самы – аптымістычны – настрой, аднолькава характэрны для літоўскіх і ўкраінскіх “Авізаў” 1654 г. Цалкам іншая стылістыка прасочваецца ў рэляцыі смаленскага ваяводы Абуховіча (складзена 10 жніўня 1654 г.). Падзагаловак рэляцыі – “аб выправе цара з Масквы”. Абуховіч напалоханы колькасцю царскага войска, “якое ні пачатку, ні канца не мае”. У верасні варшаўскія “Авізы”, падзяляючы песімізм смаленскага ваяводы, паведамілі: “<…> цар маскоўскі не грэбуе Каралеўствам Польскім і на зіму ў Кракаве рэзідэнцыю сабе рыхтуе” [39, с. 727].

З пачатку 1655 г. захаваліся так званыя “Авізы няпэўныя” (ад 5 студзеня). Канстанты Любамірскі даносіць, што “пад Уманью багата казакаў пабіта”. 7 лютага абозны каронны Стэфан Чарнецкі паведамляе пра доўгачаканую перамогу над Хмяльніцкім і Масквой: “29 студзеня ўляцелі мы ў іх лагер, гарматы захапілі, а Масквы пабілі – не палічыць, казакаў паклалі багата. Сваяка царскага паранілі. Масква дужа згубіла – адных дваран 40 забітымі засталося” [39, с.746]. Гэта, напэўна, апошняя для Рэчы Паспалітая шчаслівая навіна, датуемая 1655 г. Услед за казацкімі бунтамі і маскоўскай інтэрвенцыяй адбыўся шведскі “патоп”. Шматлікія рэляцыі з гэтай нагоды маюць прыватны характар і датычацца ў асноўным Каралеўства Польскага.

Наступныя, вядомыя нам, “Авізы” (“з Варшавы”) датуюцца 1673 г. Тэкст захаваўся толькі ў рукапісным выглядзе. Цяжка сказаць, ці быў ён надрукаваны. Невядомы аўтар спачатку перапрашае чытача за тое, што не можа паведаміць апошнія навіны: “<…> ні кракаўская, ні львоўская рэгулярная пошта сёння яшчэ не прыйшла, а наступная гетманская надзвычайная – толькі ў пятніцу прыходзіць[17]. Праўда, мінулая гетманская пошта ўсё ж паведаміла пра тое, што яго міласць пан маршалак каронны атрымаў слаўную перамогу”.

[17]У 1620 г. Жыгімонт III устанавіў парадак функцыянавання пошты ў Літве і Кароне. Прызначыў адміністрацыі паштовых станцый і адказных за дастаўку пошты ва ўсе гарады Рэчы Паспалітай. Інтэнсіўнасць дастаўкі пошты вызначалася наступным чынам: не радзей за раз на тыдзень. Уладзіслаў IV і Ян Казімір гэты парадак таксама замацавалі сваімі эдыктамі – у 1647 і 1659 гг. адпаведна. Акрамя гэтай рэгулярнай пошты, была яшчэ пошта надзвычайная

Гутарка пра Яна Сабескага, які ў 1673 г. атрымаў перамогу ў бітве пад Хоцімам. Невядомы карэспандэнт падае наступнае апісанне бітвы: “З раніцы да апоўдня нашы штурмавалі двайныя валы, апаясаныя частаколам, выбілі з іх 26 тысяч адборных турак і ўзялі зналёту Хоцім. Адбывалася так: туркі ўгледзілі, што іх штурмаваць пачынаюць – і вывесілі белы сцяг, атрымалі за гэта “пардон”. Не ўсё, праўда, калі верыць навінам, было гладка з войскам Вялікага Княжаства Літоўскага. Літвіны не жадалі заставацца ў абозе Сабескага і адмаўляліся выконваць яго загады. “Ледзь упрасілі гетманаў літоўскіх, каб яны хоць трацiну людзей пакінулі. Пагадзіліся на 24 харугвы і 4 аддзелы драгунаў”. Аўтар спадзяецца на тое, “што ўсім ужо надакучылі хатнія сваркі і нарэшце ў Айчне нашай усталюецца цішыня” [39, с.269].

Далей “Авізы” 1673 г. паведамляюць: “Тут у нас [Варшаве] завершыўся Consilium Senatus (нарада сенатараў), які доўжыўся 4 дні. Пастанавілі ягамосці 2-га студзеня сойміκі зладзіць, а 22 студзеня сойм склікаць”. Трэцяя навіна прыйшла з доўгачаканай гетманскай поштай. Зноў – весткі з вайны. Туркі, адступаючы з-пад Хоціма, “папалілі ўсё сена і правіянт, які нашым служыць мусіў”. Уцякаючы пад Камянец, у крэпасці Язловец (Jazłowiec) пакінулі яны пад мурамі “петарды”, пра што нашых папярэдзіў адзін кухар перабежчык“. Яшчэ адна навіна “з вайны”: “туркі ўсіх католікаў з Камянца павыганялі”. У апошнюю чаргу “Авізы” паведамлялі пра тое, што яе міласці каралеве, падаруй яе Божа здароўем, прызначана сума на правізію і ўпрыгожанні [39, с.269].



**Мал. 21.** Фрагмент афармлення тытула кнігі “Даследаванні па гісторыі рускіх праваслаўных друкарскіх двароў” Д.Зубрыцкага. Львоў, 1836 г

---

або гетманская, якая дастаўляла важныя ваенныя і палітычныя навіны з абозу войска ў каралеўскую адміністрацыю і, па магчымасці, у адміністрацыі ваяводстваў.

# Бібліяграфічны спіс


1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я.Купалы; Падрыхт. А.І. Богдан і інш. Навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 1015 с.
2. Асветнікі зямлі Беларускай: X – пачатак XX ст. Энцыкл. даведнік / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; Маст. У.М. Жук. 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2006. – 496 с.
3. Барока ў беларускай культуры і мастацтве / НАН Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы; навук. рэд. В.Ф. Шматаў. – 3-е выд. – Мінск: Бел. навука, 2005. – 308 с.
4. Бярозкіна, Н.Ю. Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI – пачатак XX ст.): вучэб. дапам / Н.Ю. Бярозкіна. – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 199 с.
5. Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.1 – 2 / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2007. – 688 с.
6. Галенчанка, Г.Я. Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар / Галенчанка Г.Я. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 280 с.
7. Гісторыя беларускай кнігі. У 2т. Т.1. Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М.В. Нікалаеў; навук. рэд.: В.В. Антонаў, А.І. Мальдзіс. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 424 с.
8. Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў. У 2 т. Т.1. Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я.Коласа і Я.Купалы; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 910 с.
9. Карский, Е.Ф. Белорусы. В 3 т. Т.3, Кн.2. Очерки словесности белорусского племени / Е.Ф. Карский; коммент. Т.И. Вабищевич, В.М. Казберука, О.П. Кричко. – Минск : БелЭн, 2007. – 704 с.
10. Кніга Беларусі. 1517 – 1917: Зводны каталог / Склад. Г.Я. Галенчанка і інш. – Мінск: Навука, 1986. – 615 с.
11. Мальдзіс, А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: літ. Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII – XVIII ст.) / А.І. Мальдзіс. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 352 с.
12. Обстоятельное описаніе старопечатныхъ книгъ славянскихъ россійскихъ, хранящихся въ библіотекэ тайного совэтника, сенатора, двора его императорскаго величества дэйствительнаго каммергера и кавалера, графа Фёдора Андреевича Толстова / Издалъ Павелъ Строевъ, Императорской Академіи Наукъ корреспондентъ. – Москва: въ Типографіи С.Селивановскаго, 1829. – 592 с.
13. Описаніе старопечатныхъ книгъ славянскихъ, служащее дополненіемъ къ описаніямъ библіотекъ графа Ф.Л. Толстова и купца И.Н. Царскаго / Издалъ П.Строевъ. – Москва: въ типографіи С.Селивановскаго, 1841. – 276 с.

14. Пяткевіч, А.М. Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне / А.М. Пяткевіч. – Warszawa : Instytut na rzecz demokracji w Europie Wschodniej, 2002. – 47 с.
15. Саверчанка, І.В. Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI – XVII стст. / І.В. Саверчанка. – Мінск: Беларус. навука, 2012. – 463 с.
16. Старажытная беларуская літаратура (XII–XVII стст.) / Уклад., прадм., камент. І. Саверчанкі. – Мінск : Кнігазбор, 2007. – 608 с.
17. Bandtkie, J.S. Dzieje Narodu Polskiego / Jerzy Samuel Bandtkie. – Wrocławl : u Wilhelma Rogumiła Korna, 1835. – T.2. – 401 s.
18. Bandtkie, J.S. Historya biblioteki Uniwersytetu Jagiellońskiego w Krakowie / Jerzy Samuel Bandtkie. – Kraków : nakładem Ambrożego Granowskiego, w typografii Akademickiey, 1821. – 200 s.
19. Bandtkie, J.S. Historya drukarń krakowskich, od zaprowadzenia druków do tego Miasta aż do czasów naszych / Jerzy Samuel Bandtkie. – Kraków : w Drukarni Gröhłowskiey Józefa Mateckiego, 1815. – 504 s.
20. Bandtkie, J.S. Historya drukarń w Królestwie Polskiem i Wielkiem Xięstwie Litewskiem jako i w kraiach zagranicznych, w których polskie dzieła wychodziły / Jerzy Samuel Bandtkie. – Kraków : w Drukarni Józefa Mateckiego, 1826. – T.1. – 448 s.
21. Dwa lata dziejów naszych (1646 – 1648): opowiadanie i żródła / Przez Karola Szajnochę. – Lwow : Główny skład u Karola Wilda, 1869. – T.2 "Polska w r. 1648". – 396 s.
22. Dykcyonarz poetow polskich / Przez X. M. Hieronyma Juszyńskiego. – Kraków : w Drukarni Józefa Mateckiego, 1820. – T.1. – 466 s.
23. Encyklopedyja powszechna / Przez S. Orgelbranda. – Warszawa : nakład, druk i własność S. Orgelbranda Księgarza i Typografa, 1861. – T.6 (Cul. – Den.). – 983 s.
24. F.S.D. O dawnych kuryerach i gazetach / F.S.D. // Biblioteka warszawska. Pismo poświęcone naukom, sztukom i przemysłowi. – Warszawa : Skład Główny w Księgarni Gebethnera i Wolffa, 1869. – T.IV. – Zeszyt 11. – S.298 – 301.
25. Gazeta z Warszawy. Przedruk // Biblioteka starożytna pisarzy polskich / Przez K.Wł. Wójcickiego. – Warszawa : nakładem S. Orgelbranda, księgarza, 1843. – T.1. – S. 267 – 270.
26. Herby rycerstwa Polskiego / Przez Bartosza Paprockiego / Wydanie Kazimierza Józefa Turowskiego. – Kraków : nakładem wydawnictwa biblioteki Polskiej, 1858. – 923 s.
27. Hippika to jest Księga o koniach / Przez Krzysztofa Dorohostajskiego / Wydanie Kazimierza Józefa Turowskiego. – Kraków : nakładem Drukarni "Czasu", 1861. – 264 s.
28. Historya literatury polskiey wystawiona w spiesie dzieł drukiem ogłoszonych / Przez Felixa Bentkowskiego. Warszawa : Nakładem Zawadzkiego i Komp., 1814. T.2. – 830 s.
29. Historya panowania Jana Kazimierza przez nieznajomego autora wydana z rękopismu / Przez Edwarda Raczyńskiego. – Poznań : w księgarni Walentego Stefańskiego, 1840. – T.1. – 387 s.

30. Jaroszewicz, J. Obraz Litwy pod względem jéj cywilizacji, od czasow najdawniejszych do końca wieku XVIII / J. Jaroszewicz. – Wilno : nakładem Rubena Rafałowicza księgarza wileńskiego, w Drukarni M. Romma, 1845. – Cz.3. – 273 s.
31. Kondratowicz, L. Dzieje literatury w Polsce od pierwiastkowych czasów do XVII wieku / Ludwik Kondratowicz. – Warszawa : nakładem Gebethnera i Wolffa, 1875. – T.III. – 369 s.
32. Korona Polska, przy złotéj wolności starożytnemi wszystkich katedr, prowincyj i rycerstwa klejnotami, heroiczném męztwem i odwagą, najwyższemi honorami, a najpierwiéj cnotą, pobożnością i świątobliwością ozdobiona : w 4t. / Przez X. Kaspra Niesieckiego Soc. Jesu. – Lwow : w Drukarni Collegium Lwowskiego Societatis Jesu, 1740. – T.3. – 937 s.
33. Kraszewski, J.I. Pomniki do historij obyczajów w Polsce z XVI i XVII wieku / J.I. Kraszewski. – Warszawa: nakładem S.Orgelbranda księgarza, 1843. – 269 s.
34. Lelewel, J. Bibljograficznych ksiąg dwoje, w których rozebrane i pomnożone zostały dwa dzieła Jerzego Samuela Bandke / Joachim Lelewel. – Wilno : nakładem i drukiem Józefa Zawadzkiego, typografa imperatorskiego uniwersytetu, 1823. – T.1. – 281 s.
35. Lelewel, J. Polska dzieje i rzeczy jèj / Joachim Lelewel. – Poznań : nakładem J. K. Żupańskiego, 1858. – T.1. – 586 s.
36. Łukaszewicz, J. Historya szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskiem od najdawniejszych czasów aż do roku 1794 / Józef Łukaszewicz. – Poznań : nakładem księgarni Jana Konstantego Żupańskiego, 1849. –T.1. – 470 s.
37. Łukaszewicz, L. Rys dziejów piśmiennictwa polskiego / Lesław Łukaszewicz. – Poznań : nakładem i czcionkami N. Kamieńskiego i spółki, 1860. – 312 s.
38. Maciejowski, W.A. Piśmiennictwo polskie, od czasów najdawniejszych aż do roku 1830 / Wacław Aleksander Maciejowski. – Warszawa : nakładem i drukiem S. Orgelbranda księgarza i typografa, 1852. – T.3. – 876 s.
39. Michałowski, J. Księga pamiętnicza z dawnego rękopisma, będącego własnością Ludwika Hr. Morsztyna / Jakub Michałowski (wojski lubelski, kasztelan biecki) / Nakładem Towarzystwa naukowego Krakowskiego. – Kraków : w drukarni C. K. uniwersytetu, 1864. – 856 s.
40. Mickiewicz, A. Królewstwo Polskie w rodzinie Piasta aż do podziału państwa / A. Mickiewicz // Dzieła: w 17 t. – Warszawa: Czytelnik, 1993 – 2000. – T. 7. – 1999. – S. 43–117.
41. Mickiewicz, A. Literatura słowiańska. Kurs pierwszy / A. Mickiewicz // Dzieła: w 17 t. – Warszawa: Czytelnik, 1993 – 2000. – T. 8. – 1997. – 758 s.
42. Mickiewicz, A. Literatura słowiańska. Wykłady w College de France. Kurs drugi / A. Mickiewicz // Dzieła: w 17 t. – Warszawa: Czytelnik, 1993 – 2000. – T. 9. – 1997. – 560 s.
43. Mickiewicz, A. Pisma krytyczne o literaturze / A. Mickiewicz // Dzieła: w 17 t. – Warszawa: Czytelnik, 1993 – 2000. – T. 5. – 1999. – S. 81–197.
44. Mickiewicz, A. Sławiańszczyzna od wyjścia jej z Azji do czasów Lecha, Czecha i Rusa, czyli Ruryka / A. Mickiewicz // Dzieła: w 17 t. – Warszawa: Czytelnik, 1993 – 2000. – T. 7. – 1999. – S. 9–42.

45. Narbutt, T. Pomniki do Dziejow litewskich pod względem historycznym, dyplomatycznym, geograficznym, statystycznym, obyczajowym i t. p. / T. Narbutt. – Wilno: w drukarni M. Zymelowicza Typografa, 1846. – 91 s.
46. Naruszewicz, A. Żywot J. K. Chodkiewicza Wojewody Wileńskiego, Hetmana Wielkiego W. Ks. Lit. / A. Naruszewicz. – Kraków: Nakładem wydawnictwa biblioteki polskiej, 1858. – T.1. – 279 s.
47. Niemcewicz, J.U. Dzieje panowania Zygmunta III, króla polskiego, wielkiego Księcia litewskiego. itd.: W 2 t. / J.U. Niemcewicz / Wydanie K.J. Turowskiego. – Kraków: nakładem wydawnictwa biblioteki polskiej, 1860. – T.1. – 281 s.
48. Niemcewicz, J.U. Zbiór pamiętników historycznych o dawnej Polszcze: W 2 t. / J.U. Niemcewicz / Wydanie nowe Jana Nep. Bobrowicza. – Lipsk: nakładem i drukiem Breitkopfa i Haertela, 1839. – T.1. – 355 s.
49. Nowiny pewne. Przedruk // Biblioteka starożytna pisarzy polskich / Przez K.Wł. Wójcickiego. – Warszawa : nakładem S. Orgelbranda, księgarza, 1843. – T.1. – S. 261 – 265.
50. Nowiny z Inflant (W Krakowie, w Drukárni Mikołáiá Szárffenbergerá, 1605). Przedruk z broszury // Biblioteka starożytna pisarzy polskich / Przez K.Wł. Wójcickiego. – Warszawa : nakładem S. Orgelbranda, księgarza, 1843. – T.1. – S. 251 – 258.
51. O Naydawnieyszych książkach drukowanych w Polszcze, a w szczególności o tych, które Jan Haller w Krakowie wydał / Przez Felixa Bentkowskiego, professora Historyi i Bibliotekarza w Liceum Warszawskiém. – Warszawa : w Drukarni XX. Piiarów, 1812. – 80 s.
52. Obraz wieku panowania Zygmunta III. Króla polskiego i szwedzkiego, czyli Obraz stanu, narodu i kraju / Przez X. Franciszka Siarczyńskiego. – Poznań : nakładem i drukiem Nowej Księgarni, 1843. – T.1. – 337 s.
53. Opis starożytnéy Polski / Przez Tomasza Swięckiego. – Warszawa : nakładem i drukiem Zawadzkiego i Węckiego Jego Królewskiéy Mości Nadwornych Drukarzy i Księgarzy, 1816. – T1. – 337 s.
54. Pamiętniki Albrychta Stanisława X. Radziwiłła Kanclera W. Litewskiego. Wyadane z rękopismu / Przez Edwarda Raczyńskiego. – Poznań : u braci Scherków, 1839. – T.1. – 435 s.
55. Pamiętniki do history Stefana króla polskiego czyli korespondencya tego monarchy, oraz zbiór wydanych przez niego urządzeń / Zebrane i wydane przez Edwarda Hr. Raczyńskiego. – Warszawa: N.Glücksberg, 1830. – 165 s.
56. Pamiętniki do panowania Jana III Sobieskiego // Biblioteka starożytna pisarzy polskich / Przez K.Wł. Wójcickiego. – Warszawa : nakładem S. Orgelbranda, księgarza, 1843. – T.2. – S. 265 – 313.
57. Pamiętniki do panowania Zygmunta III, Władysława IV i Jana Kazimierza / Przez K.Wł. Wójcickiego. – Warszawa : nakładem S. Orgelbranda, księgarza, 1846. – T.1. – S.288.
58. Pamiętniki do panowania Zygmunta III, Władysława IV i Jana Kazimierza / Przez K.Wł. Wójcickiego. – Warszawa : nakładem S. Orgelbranda, księgarza, 1846. – T.2. – 235 s.

59. Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody Mińskiego (1666 – 1721) / Wydane z oryginalnego rękopismu i opatrzone przypiskami przez Jullana Bartoszewicza. – Warszawa : nakładem Jana Zawiszy, potomka Wojewody, 1862. – 438 s.
60. Przypowiesci polskie, przez Salomona Rysińskiego zebráne (Nakłádem Jákubá Wirowskiego, bibliopole Lubelskiego, 1629). Przedruk // Biblioteka starożytna pisarzy polskich / Przez K.Wł. Wójcickiego. – Warszawa : nakładem S. Orgelbranda, księgarza, 1843. – T.2. – S. 97 – 204.
61. Rogalski, L. Historya literatury polskiéj. – Warszawa : nakładem Michała Glücksberga księgarza, 1871. – T.2. – 814 s.
62. Rychcicki, M.J.A. Piotr Skarga i jego wiek: W 2t. / M.J.A. Rychcicki. – Kraków: w zakładzie wydawnictwa dzieł katolickich, 1850. – T.2 – 596 s.
63. Satyry albo Przestrogi do poprawy rządu i obyczajow w Polsce / Przez Krzysztofa Opalińskiego // Nowy zbiór starożytnych klassyków polskich, drukiem dotąd nieupowszechnionych. – Poznań : w drukarni i księgarni Walentego Stefańskiego, 1840. – T.1. – 296 s.
64. Skarga, P. Kazania sejmowe, także wzywanie do pokuty obywatelów korony polskiej / Ks. P. Skarga / Wydanie K.J. Turowskiego. – Kraków: nakładem wydawnictwa biblioteki polskiej, 1857. – 160 s.
65. Sobieski, J "Pamiętnik wojny Chocimskiej" / J. Sobieski / Przełożył z łacińskiego Władysław Syrokomla. – Petersburg: nakładem Bolesława Maurycego Wolffa, 1854. – 84 s.
66. Starożytne przypowieści z XV, XVI i XVII wieku / Zebrał i wydał Kazimiérz Władysław Wójcicki. – Warszawa : nakładem autora, 1836. – 240 s.
67. Wiszniewski, M.Historya literatury polskiej: W 8 t. / M.Wiszniewski. – Kraków: w drukarni uniwersyteckiéj, 1851. –T.8 – 503 s.
68. Wiszniewski, M.Historya literatury polskiej: W 8 t. / M.Wiszniewski. – Kraków: w drukarni uniwersyteckiéj, 1844. –T.6. – 623 s.
69. Wiszniewski, M.Historya literatury polskiéj: W 8 t. / M.Wiszniewski. – Kraków: w drukarni Stanisława Gieszkowskiego, 1840. –T.1 – 467 s.
70. Wiszniewski, M.Historya literatury polskiéj: W 8 t. / M.Wiszniewski. – Kraków: w drukarni uniwersyteckiéj, 1845. –T.7 – 582 s.
71. Wójcicki, K. Wl. Historya literatury polskiéj w zarysach / K. Wł. Wójcicki. – Warszawa : nakładem Gustawa Sennewalda księgarza, 1860. – T.3. – 525 s.
72. Zbiór dawnych dyplomatow i aktow miast: Wilna, Kowna, Trok, prawosłwnych monasterów, cerkwi i w różnych sprawach: W 2 t. – Wilno: w drukarni A.Marcinowskiego, 1843. – T.1. – 194 s.
73. Zienkowicz, L. Wizerunki polityczne literatury polskiej // Biblioteka pisarzy Polskich / Leon Zienkowicz. – Lipsk : F. A. Brockhaus, 1867. – T.1. – 317 s.

# Указальнік імёнаў

# Указальнік загалоўкаў стардрукаў

I. <u>На замежных мовах</u>

## II. На славянскіх мовах

